Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!




Б. С. С. Р.

# РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ЗАКОННАСЬЦЬ



**ШТОМЕСЯЧНАЯ**
**ПРАЎНАЯ ЧАСОПІСЬ**

№ 5 (15) 1928 г.

Выданьне Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР
г. МЕНСК

## ЗЬМЕСТ.

*Стар.*



### Старонка практыка.



### Растлумачэньні пракуратуры рэспублікі.



### Хроніка.




Галоўліт № 1138. Заг. № 2285. Тыраж 1.000 экз. Гомель. Друк. „Палесдрук".

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Рэвалюцыйная Законнасьць

№ 5 (15). 1928 г. 2-гі год выданьня.

Дамброўскі, Судакоў, Шапіра.

## Пытаньне рацыяналізацыі судова-сьледчага і пракурорскага апарату (сярэдн. і вышэйш. зьвеньняў) па матар'ялах Камісіі РСІ БССР.

Яшчэ ў мінулым годзе РСІ СССР абсьледвала нізавую сетку судовасьледчых і пракурорскіх органаў. Матар'ялы абсьледваньня паказалі, наколькі сваечасова паднята пытаньне аб рацыяналізацыі судовых органаў. Большая частка вывадаў РСІ СССР ужо праведзена ў жыцьцё і ў БССР. Але-ж само абсьледваньне гэтых органаў у межах БССР не рабілася. Судовыя працаўнікі на практыцы ўжо ўбачылі карысьць гэтай работы РСІ СССР. Па БССР НКЮ праведзены ў жыцьцё наступныя мерапрыемствы: аб парадку назначэньня і разглядзе спраў у касінстанцыі акрсудоў, аб пашырэньні і паглыбленьні інструктаваньня нарсудзьдзяў і аб'яднаньні каспрактыкі акрсудоў, аб зьнішчэньні недахопаў у працы акрсудоў, аб удасканаленьні і рацыяналізацыі нагляднай працы пракуратуры, аб спрашчэньні справаздачнасьці, пачынаючы з нізавых да вышэйшых зьвеньняў.

Распрацаваны праэкты аб парадку разьмеркаваньня адлічэньняў 25 проц. збораў па судовых узысках, аб парадку спагнаньня па выканаўчых лістох з дзяржаўных і грамадзкіх устаноў, палажэньне аб сельскіх судох, шэраг зьмен па ГПК і КПК, якія вынікаюць з прапаноў РСІ і г. д.

XV парт. зьезд рашуча паставіў пытаньне аб удасканаленьні працы судовых органаў, у прыватнасьці па галіне зьнішчэньня валакіты ў судох, прыбліжэньні меры сацыяльнай абароны да моманту ўчыненьня злачынства, ліквідаваньні дысцыплінарных судоў і г. д.

У адпаведнасьці з гэтымі дырэктывамі партыі і ў працяг работы па абсьледваньні нізавой сеткі, РСІ СССР у неплянавым парадку абсьледвала сярэднія і вышэйшыя зьвеньні судова-пракурорскіх устаноў па ўсім саюзе. Адным з удзельнікаў гэтага абсьледваньня зьяўляецца і РСІ БССР, якая для гэтай мэты высунула спэцыяльную камісію з удзелам судовых і пракурорскіх працаўнікоў БССР.

Камісія прыступіла да працы па строга распрацаванай РСІ СССР рабочай праграме.

Аб'ектамі абсьледваньня быў ўзяты Віцебскі акруговы суд, як крымінальная яго частка, так і грамадзянская па першай і другой інстанцыях.

Акруговая пракуратура па галіне сьледзтва абсьледвалася толькі па справах, знаходзячыхся ў акрсудзе і па агульным наглядзе.

З вышэйшых зьвеньняў: найвышэйшы суд па абедзьвёх інстанцыях, пракуратура—па агульным наглядзе і ўзаемаадносіны паміж найвышэйшым судом і НКЮ (судінспэкцыя).

Для больш лепшага аналізу становішча судовай работы і вывадаў камісіі, зацьверджаных калегіяй РСІ БССР мы пастараемся разьбіць нашу работу на самастойныя аддзелы.

## I. Дзейнасьць акруговага суду па крымінальных справах 1-й інстанцыі.

Матар'ялам вывучэньня паслужылі ўсе разгледжаныя судом у 1927 г. крымінальныя справы па злачынствах, прадугледжаных артыкуламі 142, 149, 169, 169а, 197, а таксама і па службовых злачынствах.

Работа органаў дазнаньня і сьледзтва па абсьледаваных справах прадстаўляецца ў наступным выглядзе.

Органы дазнаньня прыступаюць да вядзеньня дазнаньня па гэтых справах зараз-жа, калі ім стала вядома аб учыненьні злачынства. Працяжнасьць дазнаньня хістаецца ў сярэднім ад 27 да 45 дзён. У стадыі дазнаньня дапытваюцца ў сярэднім па 7 сьведкаў.

Сьледчыя органы прыступаюць да вядзеньня сьледзтва ў сярэднім не раней як праз месяц, пры чым па справах, дзе дазнаньне праведзена здавальняюча, артыкул 109 КПК дапасоўваецца толькі ў рэдкіх выпадках, а ў сярэднім каля 20 проц., і сьледзтва працягваецца ў сярэднім ад 36 да 116 дзён, пры чым зноў дапытваюцца тыя-ж самыя сьведкі. На разгляд спраў пракуратурай да накіраваньня ў суд траціцца ад 20 да 34 дзён, што ў значнай меры тлумачыцца тым, што сьледчыя складаюць канчатковыя заключэньні і пастановы па справах у большасьці ў канцы месяца і накіроўваюць іх „пачкамі" пракурору. Гэтае зьявішча перагружае пракурора і не дае яму поўнай магчымасьці дакладна азнаёмлівацца з матар'яламі сьледзтва. Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што папярэдняе сьледзтва па гэтых справах вытвараецца ў такім парадку і такім тэмпам, як быццам дазнаньня і ня было, а пры такім тэмпе дазнаньня і сьледзтва момант судовага ўплыву на злачынца ў значнай меры адцягваецца ад моманту ўчыненьня злачынства; па службовых і гаспадарчых злачынствах гэты тэрмін даходзіць амаль да году—345 дзён.

Пры такім становішчы, маючы-ж, акрамя гэтага, на ўвазе, што разгледжаныя справы, у тым ліку і службовыя, не зьяўляліся па сутнасьці складанымі, бязумоўна, трэба было паставіць пытаньне (камісія так і зрабіла) аб скарачэньні тэрміну папярэдняга расьсьледваньня як у стадыі дазнаньня, так і сьледзтва, аб увязцы працы гэтых дзьвёх інстанцый і зьнішчэньні паралелізму, проста кажучы, валакіты.

Што-ж прапануе камісія ў мэтах зьнішчэньня ўсіх элемэнтаў непатрэбнай паўторнасьці работы органаў дазнаньня і сьледзтва?

1. Органы дазнаньня павінны выконваць арт. 99 КПК і па выкананьні неабходнага расьледваньня зараз-ж перадаваць матар'ял сьледчаму, не чакаючы канца месячнага тэрміну.

2. Сьледчы павінен прыступаць да вядзеньня сьледзтва ў працягу 24 гадзін з моманту атрыманьня справы ад органаў дазнаньня, пры чым сьледчы, у адпаведнасьці з артыкулам 109 КПК, павінен прадаўжаць дазнаньне, а не паўтараць яго.

3. Па службовых і гаспадарчых злачынствах, па якіх органамі дазнаньня зьяўляюцца органы ДПУ, апошнія ў працягу 24 гадзін з моманту адкрытых дзеяньняў паведамляюць пракурора, а ня сьледчага, пры чым па гэтых справах сьледчы прыступае да вядзеньня сьледзтва толькі па прапанове пракурора.

4. Падлічваючы, што ў сувязі з абмежаваньнем работы органаў дазнаньня выкананьнем толькі дзеяньняў, прадугледжаных арт. 99 КПК (а гэтае да сучаснага моманту ня выконвалася), работа сьледчага апарату, бязумоўна, павялічыцца, што па шэрагу спраў бытавых органы дазнаньня добра высьвятляюць істотныя акалічнасьці, у мэтах сваечасовага расьсьледваньня справы, лічыць мэтазгодным зьмяніць арт. 108 КПК у тым напрамку, што вядзеньне папярэдняга сьледзтва зьяўляецца абавязковым па

злачынствах дзяржаўных, асабліва небясьпечных супроць парадку кіраўніцтва па арт. арт. 2 ч. 106, 110, 111, 2 ч. арт. арт. 112, 113, 114, 114а, 115, 128а, 129, 130 КК рэдакцыі 1922 г. з катэгоры службовых і гаспадарчых злачынстваў і па арт. 184 КК; па ўсіх-жа іншых справах папярэдняе сьледзтва вядзецца толькі па паасобнай кожны раз прапанове пракуратуры, альбо суду, альбо па ініцыятыве сьледчага; справы, па якіх да гэтага часу вядзеньне папярэдняга сьледзтва было абявязковым, паступаюць сьледчаму ў парадку 3 ч. 105 арт. КПК; побач з гэтым неабходна вырашыць пытаньне аб памяншэньні спраў, якія да гэтага часу накіроўваліся ў парадку арт. 105, ч. 3 КПК з тым, каб гэтыя справы канчаткова расьсьледваліся органамі дазнаньня, менавіта прызнаць мэтазгодным накіраваньне ў парадку арт. 3ч. 105 КПК толькі па наступных артыкулах: 80, ч. 1 і 2-ая, 86, ч. 1, 87, 91, ч. 2, 92, 94, ч. 2, 95, 98, ч. 2, 105, ч. 1, 106, ч. 1, 107, ч. 1, 108, 109, 1 ч. 112, 1 ч. 113, 116, 117, 128, 134, 136, 137, 142, 143, 144, 146, ч. 2, 148, 149, 151, 156, 160, 165, ч. 2, 166, 167, 168, 169, 179, 180-в, 180-ж, 180а, 183, ч.2, 189, 197 (рэдакцыя 1922 г.).

5. У мэтах скарачэньня часу на прахаджэньне спраў ад сьледчага праз пракуратуру ў суд устанавіць, што ад апошняга сьледзкага дзеяньня да складаньня сьледчым канчатковай пастановы па справе павінна праходзіць ня больш трох дзён, пры чым справы павінны сьледчым накіроўвацца ў пракуратуру ў працяг 24 гадзін з моманту складаньня канчатковай пастановы, што справа можа знаходзіцца ў пракурора ня больш сямі дзён, пры чым ад вучастковага пракурора справы паступаюць непасрэдна ў суд.

Такім чынам, пры ажыцьцяўленьні гэтых практычных прапаноў даецца магчымасьць сьледчаму аслабаніцца ад дробных спраў, захоўваецца поўны і сапраўдны нагляд сьледчага за органамі дазнаньня, зьнішчаюцца моманты непатрэбнай паўторнасьці і прахаджэньня непатрэбных інстанцый, а ўрэшце, момант судовага ўплыву прыбліжаецца да моманту ўчыненьня злачынства.

Нас, зразумела, могуць запытаць: „хіба-ж наумысныя забойствы, цяжкія цялесныя пакалечаньні, усялякага роду полавыя злачынствы зьяўляюцца дробнымі?“.

На гэтае мы адкажам, што па сутнасьці яны зьяўляюцца злачынствамі вельмі небясьпечнымі, але-ж гэтая акалічнасьць ні ў якім разе ня сьведчыць аб тым, што вядзеньне папярэдняга сьледзтва па іх зьяўляецца абавязковым, бо, як відаць з матар'ялаў, усе істотныя акалічнасьці па гэтых справах, у тым ліку і вытвар належнай экспэртызы (па арт. 142 экспэртыза ў стадыі дазнаньня вытвараецца 70 проц., 149,2ч.—85 проц., а па 169—68 проц.), амаль поўна высьвятляецца органамі дазнаньня, а органы сьледзтва толькі ў большасьці афармляюць матар'ял дазнаньня з літаратурнага боку.

Апрача таго, наша прапанова аб прадстаўленьні сьледчаму права па сваёй ініцыятыве прыняць любую справу да свайго вядзеньня будзе служыць найлепшай гарантыяй, што па справах складаных у тых выпадках, калі дазнаньне ня можа высьветліць істотных момантаў, у суд ўсе-ж пападзе справа досыць дасьледаваная і самім сьледчым.

Тут-жа мы лічым патрэбным адказць тым міліцэйскім працаўнікам, якія лічаць неабходным зараз-жа „рацыяналізаваць“ усіх народных сьледчых з перадачай усіх функцый сьледчага органам дазнаньня.

Прызнаючы важную ролю органаў дазнаньня ў галіне расьсьледваньня злачынстваў, у прыватнасьці па бытавых і полавых злачынствах, мы лічым, што пастаноўка пытаньня аб ліквідаваньні сьледчага апарату няверна і несваечасова па наступных даных:

1) ні па воднай з спраў аб службовых злачынствах, якія былі прадметам нашага вывучэньня, не вытваралася ні каліграфічная, ні бухгальтарская, ні гаспадарчая экспэртызы органамі дазнаньня;

2) збор доказаў па гэтых справах быў вельмі некаштоўны; істотныя моманты, у прыватнасьці разьмер страт дзяржавы, разьмер растрат ня высьвятляўся, справы заграмаджаліся непатрэбнымі паперкамі, дзякуючы чаму сьледзтва патрабавала поўнай яго вытворчасьці, і сьледчыя ня мелі магчымасьці ні ў водным выпадку дапасаваць арт. 109 КПК. Ня гледзячы і на папярэдняе сьледзтва, мы маем вялікі процант спраў спыненых (каля 60 проц.) і апраўданых па гэтых справах (каля 45 проц.);

3) адначасна ня трэба запамятаць і структурнай сыстэмы органаў дазнаньня, якія цалкам залежны ад мясцовых органаў, а гэта можа адбіцца на іскрыўленьні судовай палітыкі, тым часам як сьледчы зьяўляецца агэнтам цэнтралізаванай асобы—пракурора.

Адным з момантаў, які мы высоўваем у нашых прапановах,—гэта поўнае зьліяньне камэр пракуратуры з камэрамі сьледчых там, дзе яны знаходзяцца ў адным месцы; гэта мерапрыемства дасьць наступныя вынікі: зьнішчыць непатрэбную канцэлярскую перапіску паміж пракурорам і сьледчым, павялічыць жывое кіраўніцтва, скароціць тэхнічны склад працаўнікоў, за эканомію якіх сродкаў будзе магчымасьць палепшыць матарялнае становішча сьледчых і павялічыць іх колькасьць.

Перойдзем цяпер да аднаго з галоўных момантаў—да пытаньня аб мэтазгоднасьці ў далейшым захаваньня інстытуту распарадчага пасяджэньня ў акрсудох.

Трэба адразу адзначыць, што гэтае пытаньне непасрэдна зьвязана з прынцыповым пытаньнем аб тым, хто павінен аддаваць пад суд—пракуратура альбо суд у распарадчым пасяджэньні, а гэта апошняе пытаньне да гэтага часу зьяўляецца адным з самых спрэчных пытаньняў. Так, нядаўна Вярхоўны Суд РСФСР пры абмеркаваньні праэкту КПК вынес пастанову наступнага зьместу: „Па справах, ня спыненых у стадыі папярэдняга сьледзтва, пытаньне аб адданьні пад суд, незалежна ад вырашэньня пытаньня аб нагляду за сьледзтвам, бязумоўна, павінна сур'ёзна (а ня толькі фармальна) вырашацца ў судзе (у распарадчым пасяджэньні) пасьля рэальнага азнаямленьня з матар'яламі справы“.

Зусім інакш вырашана гэтае пытаньне канчаткова ў УССР, дзе адданьне пад суд перадана ў пракуратуру.

Закранутае намі пытаньне аб адданьні пад суд было нядаўна, і з нашага пункту погляду, правільна і падробна высьветлена на старонках часопісі: „Вестник Советской Юстиции НКЮ и Юридического Общества УССР“ праф. Гродзінскім, які выказвае наступную думку:

„1. Погляд на адданьне пад суд як на функцыю выключна судзебную, тлумачыцца гістарычна і ўсходзіць сваімі карэньнямі да тэй ідэалёгіі, якая зьяўляецца характэрнай для эпохі Вялікай францускай рэвалюцыі і якая зьяўляецца чуждай сацыялістычнаму правасазнаньню савецкага законадаўцы.

2. Вырашэньне пытаньня аб правільным пабудаваньні інстытуту адданьня пад суд залежыць ад цэлага шэрагу ўмоў і ў прыватнасьці ад тэй структуры крымінальнага працэсу, якая прынята ў тым альбо іншым законадаўстве.

3. Па прыродзе сваёй адданьне пад суд ёсьць нішто іншае, як прапанова абвінавальніка аб тым, каб даная справа была перадана ў суд для разгляду па сутнасьці.

4. А таму ініцыятыва адданьня пад суд, як агульнае правіла, выходзіць ад абвінавальніка; удзел-жа суду ў гэтай стадыі працэсу, калі і можа мець месца, то ня інакш, як у мэтах кантролю над дзеяньнямі абвінавальніка і ў парадку вырашэньня спрэчкі паміж абвінавальнікам і абвінавачаным па пытаньні аб адданьні пад суд. Такі кантроль суду, у прыватнасьці, неабходзен у тых капіталістычных старонках, дзе абвінавачваньне цалком знаходзіцца ў руках прыватнай асобы.

5. У савецкім крымінальным працэсу пракуратура зьяўляецца ня толькі органам нагляду, але і органам дзяржаўнага абвінавачваньня, пры чым у яе руках знаходзіцца фактычна манаполія абвінавачваньня, і таму сама пракуратура, як орган дзяржаўны і падзаконны, павінна служыць забясьпекай супроць нягрунтоўных абвінавачваньняў, дзякуючы чаму і кантроль суду ў гэтай галіне зьяўляецца надмерным, і таму ёсьць магчымасьць перадачы пракуратуры функцый адданьня пад суд па справах, па якіх вялося папярэдняе сьледзтва.

6. Існуючая ў сучасны момант сыстэма, пры якой адданьне пад суд (па справах, па якіх вялося папярэдняе сьледзтва) знаходзіцца ў руках суду (РЗ), не дасягае пастаўленай ёй мэты, не праводзіць рэальнага кантролю над дзеяньнямі абвінавальніка і толькі наддае акту адданьня пад суд „ореол“ судовага акту, чым абцяжарвае становішча абвінавачванага ў працэсе. Гэтыя адмоўныя вынікі існуючай сыстэмы зьнішчаюцца пры перадачы функцый адданьня пад суд па паказаных справах у рукі пракуратуры.

7. Урэшце, выключэньне акту адданьня пад суд з суду ў пракуратуру разгрузіць суды, прывядзе да значнага спрашчэньня працэсу ў гэтай стадыі і дасьць вялізарную эканомію сродкаў і часу“.

Мы наўмысна прывялі тут дакладна цытаты, бо ведаем, што і сярод нашых судовых працаўнікоў шырока распаўсюджана думка аб тым, што адданьне пад суд зьяўляецца дзеяньнем толькі судовага характару і таму можа ажыцьцяўляцца толькі судом.

Зьяўляецца, бязумоўна, паказальным і тое, што нават вельмі выдатны буржуазны нямецкі юрысты Цу-Дона ў сваёй нядаўна надрукаванай кнізе: „Крымінальна-працэсуальнае права“, другое перапрацаванае выданьне, Берлін, 1925 г., паказвае на непатрэбнасьць асобнай стадыі адданьня пад суд, што, па яго думцы, зьяўляецца выняцьцем ад пракуратуры пытаньня аб магчымасьці разгляду справы па сутнасьці.

Акрамя прынцыповай нявытрыманасьці, слабы бок гэтага інстытуту, па думцы аўтара, заключаецца ў тым, што фактычна адданьне пад суд зводзіцца да простай фармальнасьці—„шаблону“ з боку суду, наддаючы адначасова вядомую, але незаслужаную павагу даказацельнасьці матар'ялам папярэдняга сьледзтва ў вачох суду, які разглядае справу па сутнасьці (часопіс „Революция Права“, № 1, 1924 г.).

Для большай пераканаўчасьці падмацуем нашу думку аб неабходнасьці перадачы адданьня пад суд і ліквідаваньня распарадчых пасяджэньняў нашымі матар'яламі.

З разгледжаных намі спраў мы выявілі, што ад паступленьня справы ў суд да Р. П. праходзіць у сярэднім 22 дні, а ад Р. П. да даручэньня абвінавальнага заключэньня—42 дні, толькі па трох справах з разгледжаных намі 185 спраў Р. П. не згадзілася з прапановай пракуратуры аб адданьні пад суд.

З 622 спраў, паступіўшых за 1927 г. у Р. П. у парадку 229 арт. КПК, толькі па 12-ці справах—каля 2 проц.—Р. П. не згадзілася з прапановай пракуратуры, а з 977 спраў, паступіўшых у парадку арт. 203 КПК, Р. П. не згадзілася з пастановай сьледчага па 50 справах, —каля 5 проц.

На падставе вышэйскладзенага камісія ўносіць наступныя прапановы:

1. Падлічваючы, што ад паступленьня справы ў суд да Р. П. і ад Р. П. да даручэньня абвінавальнага заключэньня праходзяць значныя тэрміны, што процант нязгоды Р. П. з прапановай пракуратуры вельмі мізэрны, што пры вялікай страце часу Р. П. толькі „штампавала“ прапановы пракуратуры, распарадчыя пасяджэньні ліквідаваць.

2. У сувязі з ліквідаваньнем распарадчых пасяджэньняў устанавіць наступны парадак праходжаньня спраў:

а) справы, якія накіроўваюцца сьледчымі для спыненьня пракурору, спыняюцца апошнім канчаткова, пры чым гэтая пастанова можа быць абскаржана пацярпеўшым па лініі пракуратуры ў 7-дзённы тэрмін з моманту атрыманьня паведамленьня; у выпадку нязгоды пракурора з пастановай сьледчага аб спыненьні ён зварачае справу сьледчаму ў парадку арт. 226 ч. 2 КПК;

б) справы з абвінавальнымі заключэньнямі ад сьледчых паступаюць пракурору, які ў выпадку згоды зацьвярджае іх з адданьнем абвівнавачваных пад суд і накіроўвае копію абвінавальнага заключэньня сумесна з пастановай аб адданьні пад суд падсудзімым, а справу—у суд дзеля разгляду па сутнасьці з паведамленьнем аб тым, ці павінна справа слухацца з удзелам бакоў, альбо бяз іх. У выпадку нязгоды з абвінавальным заключэньнем, дзеля непаўнаты сьледзтва, пракурор зварачае сьледчаму справу ў парадку арт. 227 КПК; прызнаўшы, што справа выстарчальна высьветлена, але што для адданьня пад суд абвінавачванага няма законных повадаў альбо выстарчальных падстаў, пракурор спыняе справу асобнай пастановай; пастанова пракурора аб адданьні пад суд абвінавачваным ня можа быць абскаржана;

в) па паступленьні спраў з пастановай аб адданьні пад суд ад пракурора ў суд, загадчык крымінальным аддзелам, а там, дзе яго няма, старшыня акрсуду, разьмяркоўвае іх паміж членамі суду для разгляду ў судовым пасяджэньні, пры чым член суду да разгляду справы ў судовым пасяджэньні самотна вырашае наступныя неабходныя падрыхтавальныя да справы дзеяньні: прызначэньне дню разгляду справы, выклікі старон і іх прадстаўнікоў, сьведкаў, экспэртаў, зьмяненьне сьпісу асоб, якія падлягаюць выкліку ў судовае пасяджэньне, выклік дадатковых сьведкаў і экспэртаў па хадайніцтву старон, прызначэньне абароны па тых справах, дзе ўдзел іх зьяўляецца абавязковым. Ніякіх зьмяненьняў, акрамя зьмяненьня сьпісу асоб, якія падлягаюць выкліку ў судовае пасяджэньне, член суду самотна да разгляду справы ў судовым пасяджэньні ўнасіць ня можа;

г) тэрміны прахаджэньня спраў у судзе ад паступленьня справы ў суд да першага судовага пасяджэньня, ўстанавіць дзеля спраў, па якіх абвінавачаныя трымаюцца пад вартай—2 тыдні, а для іншых—адзін месяц.

Вышэйпаказанымі мерапрыемствамі, па нашай думцы, працэс у гэтай стадыі будзе ў значнай меры спрошчан і момант судовага ўплыву на злачынца наблізіцца да моманту ўчыненьня ім злачынства.

З мэтай спрашчэньня самаго працэсу разгляду спраў, які працягваецца па шэрагу нескладаных спраў на некалькі дзён, што цягне за сабою памяншэньне „пропускной способности“ спраў у акрсудох, камісія падробна вывучала пытаньне аб неабходнасьці ўдзелу старон ў працэсе, аб сьведках, аб грамадзянскім іску і г. д.

Што-ж мы выявілі?

Пры нескладаным характары вывучаных намі спраў, пры даведзенасьці ўчыненага злачынства і пры адсутнасьці ў большасьці выпадкаў асобнага палітычнага інтарэсу суд дапушчае ўдзел старон, між тым як дапушчэньне старон па справах, якія разглядаюцца ў акрсудох, зьяўляецца не абавязковым; нічым ня выкліканы па характары спраў удзел старон, маючы адначасова на ўвазе, што да гэтага часу абарона яшчэ ня зьяўляецца сапраўдным памочнікам суду, бязумоўна, толькі падаўжае судовае пасяджэньне без аказаньня ў той-жа час якой-небудзь сапраўднай дапамогі суду ў высьвятленьні матар'яльнай праўды па справе; арт. 397 КПК ужываўся судом толькі па аднэй справе; арт. 394 КПК таксама ўжываецца ў надзвычайна рэдкіх выпадках—па 4 справах з 185 разгледжаных намі;

замест гэтага суд вельмі часта „карыстаецца“ арт. 329 КПК і перадае для разгляду ў парадку грамадзянскага судаводзтва іскі разьмерам 5—20 р.; паказальна адзначыць, што па службовых і гаспадарчых злачынствах суд абмяжоўваецца толькі высьвятленьнем складу злачынства і зусім не рэагуе на выяўленьне недахопаў у сыстэме працы ўстановы, якія выявіліся пры разглядзе справы.

Так, толькі па аднэй справе суд палічыў неабходным зьвярнуць увагу РСІ на няправільную пастаноўку працы каапэрацыйнай арганізацыі, між тым як 25 спраў былі спынены, а па дзьвёх справах былі вынесены апраўдальныя прысуды, галоўным чынам таму, што сама няправільная пастаноўка працы, а ў прыватнасьці справаздачнасьць у ўстановах цягнулі за сабой безгаспадарнасьць і недахопы.

Мы прапануем:

1) дапушчэньне старон вырашаецца судом у судовым пасяджэньні, альбо ў стадыі падрыхтоўкі справы да разгляду ў залежнасьці ад складанасьці справы, палітычнага альбо грамадзкага інтарэсу; пры наяўнасьці старон, суд перад адчыненьнем спрэчак, па пярэднім запытаньні старон, устанаўлівае для іх рэглямэнт, выходзячы з характару справы і думак старон; калі-ж суд прызнае, што справа выстарчальна высьветлена ў стадыі судовага сьледзтва, то суд пастанаўляе аб недапушчэньні спрэчак старон;

2) спыненьне допыту сьведак, калі паказаньнямі ўжо дапытаных сьведак зусім выяўлены тыя акалічнасьці, для высьвятленьня якіх сьведка выклікаўся, распаўсюдзіць і на нарсуды;

3) грамадзянскі іск павінен вырашацца сумесна з крымінальнай справай, і, нават у выпадку спыненьня судом крымінальнай справы, або апраўданьня падсудзімага, суд, калі справа адносна права на грамадзянскі іск выстарчальна высьветлена, вырашае справу ў тым-жа крымінальным працэсе; арт. 329 КПК можа ўжывацца толькі ў выключных выпадках, калі ў сапраўднасьці няма магчымасьці падлічыць разьмер іску;

4) пры пастаноўцы прысуду абавязкова вырашаць пытаньне аб рэчавых довадах, аб судовых выдатках і заліку папярэдняга ўтрыманьня пад вартай;

5) практыкаваць вынясеньне па службовых і гаспадарчых злачынствах асобных пастаноў адносна пастаноўкі працы ў прадпрыемствах альбо ўстановах, дзякуючы якой было лягчэй альбо стала магчымым учыненьне злачынства, з тэрміновым паведамленьнем аб гэтым адпаведных арганізацый і прадпрыемстваў, а таксама і РСІ.

## II. Дзейнасьць акрсуду і найвышэйшага суду па 2-й інстанцыі.

Касацыйная работа намі вывучалася ў напрамку:

а) магчымасьці абмежаваньня касацыйнага абскаржаньня па некаторых катэгорыях спраў нарсуду;

б) падыходу суду пры разглядзе спраў ў касацыйным парадку;

в) удзела абароны.

Трэба адзначыць, што дзякуючы скасаваньню з 1 студзеня 1927 г. па БССР касацыйных справаводзтваў і застаўленьня ў акрсудзе толькі копій вызначэньняў, па якіх вывучэньне спраў немагчыма, нам пры выкананьні гэтай галіны работы акрсуду прышлося карыстацца вельмі нязначным матар'ялам— справамі гарадзкіх вучасткаў нарсуду; але-ж і гэтыя справы ды статыстычны матар'ял акрсуду нам паказалі, што па справах, разгледжаных у нарсудох, па якіх у віде меры сацыяльнай абароны прызначаны перасьцярога, грамадзянская ганьба, вымова, дробны штраф, процант абскаржаньня дасягае 20 проц., а процант адмены 19 проц., пры чым падставай для адмены большасьцю зьяўляюцца парушэньні фармальнага парадку.

На падставе гэтага мы прапануем не дапушчаць касацыйнага абскаржаньня па справах, па якіх у відзе меры сацыяльнай абароны прызначаны перасьцярога, грамадзянская ганьба, вымова і штраф, да 20 руб. адносна працоўных альбо да 100 руб. адносна непрацоўнага элемэнту, а таксама і па прысудах, якія вынесены ў парадку судовага загаду з тым, каб прысуды па гэтых справах выконваліся зараз-жа.

Прадугледжаны арт. 412 КПК абавязковы разгляд справы ў рэвізыйным парадку, бязумоўна, сьведчыць аб тым, што наш крымінальны працэс рашуча адмовіўся ад сьмешнага фармалізму старых касацыйных судоў, адбіўшагася ў вядомым апавяданьні (выпадку) з практыкі б. галоўнага вайсковага суду, калі старшыня пытаецца абаронца, які парываўся выйсьці за касацыйныя рамкі: „але які-ж ў вас урэшце касацыйны повад?"—Абаронец адказвае; „у мяне самы галоўны повад—ён не вінаваты".—„Але галоўны ваенны суд—кажа старшыня—па цэлым шэрагу вызначэньняў растлумачыў, што гэта няістотны касацыйны повад". „Еж. (Сов. Юстиции". за 1924 г., арт. Сімсона).

А ці не нагдядаюцца, на жаль, і ў нашых судох такія выпадкі, асабліва тады, калі касацыйную скаргу падтрымлівае асуджаны—селянін, які зусім ня ведае, што такое „касацыя", а які толькі пераканан у тым, што нарсуд няправільна прызнаў яго вінаватым. Ці не перапыняе часам і наш старшыня такога „касатара": не датыкайцеся сутнасьці справы, а кажэце аб парушэньнях закону".

Трэба прызнацца, што такія выпадкі маюць месца часамі і ў нашых судох дзякуючы таму, што да гэтага часу нашы судовыя працаўнікі не ўразумелі яшчэ, што нас больш за ўсё цікавіць сутнасьць справы, а ня форма, што ў нас пераважнае значэньне мае рэвізыйны парадак.

Дзеля гэтага мы ў сваіх прапановах кажам, што падыход ККА акрсудоў і ККК Найвышэйшага Суду пры разглядзе спраў павінен быць такім, што ўсялякі прысуд першай інстанцыі, які вынесен па сутнасьці правільна, павінен быць застаўлен у моцы, ня гледзячы на наяўнасьць тых, альбо іншых фармальных парушэньняў.

Побач з гэтым пытаньнем мы лічым неабходным спыніцца на касацыйнай зьмене прысудаў ў парадку арт. 420 КПК, маючы на ўвазе, што правільнае вырашэньне гэтага пытаньня, бязумоўна. спросьціць наша справаводзтва, таму што справа канчаткова будзе вырашацца пры наяўнасьці да гэтага фактычнай магчымасьці ў касацыйнай калегіі, не зварачваючыся для новага разгляду ў нарсуд альбо акрсуд.

Якія-ж межы карыстаньня арт. 420 КПК устанавіла касацыйная практыка да гэтага часу?

З самаго тэксту арт. 420 КПК відаць, што касацыйная інстанцыя мае права зьмяняць прысуды ў выпадках, прадугледжаных арт. арт. 416 і 417 КПК, бо якраз гэтыя выпадкі не закранаюць фактычных абставін справы, тым болей, што згодна 2 ч. 416 арт. КПК адмена прысуду ў выпадку парушэньня альбо няправільнага дапасаваньня закону можа пасьледваць толькі тады, калі дапушчаная судом памылка пацягнула за сабой прызначэньне іншай меры сацыяльнай абароны, чым тая, якая павінна была быць прызначана судом пры належным дапасаваньні закону.

Такім чынам, касінстанцыя можа ў парадку арт. 420 КПК зьмякчаць меры сацыяльнай абароны ў межах санкцыі адпаведнага арт. КК, дапасоўваць арт. 18 „а" і 18 „б" КК, перакваліфікаваць дзеяньне ў тых выпадках, калі гэта новая кваліфікацыя прадугледжвае роўную альбо больш мяккую меру соцыяльнай абароны пры аднэй толькі ўмове, што новая кваліфікацыя не закранае выяўленых прысудам акалічнасьцяй справы і выцякае з выяўленых прысудам акалічнасьцяй справы, а не

ўгрунтована на дапушчэньнях кас. інстанцыі (ад 140 „а“ да 140 „б“, ад 180 „б“ да 180 „а“, ад 142 да 143, ад 184 да 183 арт. КК і г. д.), адмяняць дадатковую меру соцыяльнай абароны (арт. арт. 46, 49, 50 КК).

Гэтыя межы карыстаньня арт. 420 КПК амаль не выклікаюць у практыцы ніякіх спрэчак.

Бязумоўна, спрэчным і да сучаснага моманту канчаткова не вырашаным трэба прызнаць пытаньне аб тым, ці можа кас. інстанцыя ў парадку арт. 420 КПК дапасоўваць арт. арт. 28 і 36 КК.

З нашага пункту погляду, угрунтованага на арт. 27 п. „б“ асноў карнага судаўніцтва Саюзу ССР і саюзных рэспублік: „касацыйныя суды, не ўваходзячы ў праверку фактычных абставін, устаноўленых судом, які разьвязваў справу па сутнасьці, могуць зьмяніць прыгавор, калі гэта магчыма без асобнага вытвару па праверцы доказаў і арт. 420 п. „б“ КПК, які літаральна паўтарае гэты тэкст. Мы лічым, што пры наяўнасьці ў прысудзе тых акалічнасьцяй, якія служаць падставай для ўжываньня арт. арт. 28 і 36 КК, кас. інстанцыя павінна канчаткова вырашыць справу без перадачы яе для новага разгляду, а таму мы і прапануем, што адмена прысуду з перадачай справы для новага разгляду можа мець месца толькі ў тых выпадках, калі няма магчымасьці ў кас. інстанцыі выправіць прысуд шляхам зьмякчэньня меры сацыяльнай абароны ня толькі ў межах санкцый адпаведных арт. арт. КК, але і шляхам дапасаваньня арт. арт. 28 і 36.

Давайце праверым, ці не занадта сьмелым зьяўляецца гэты наш вывад.

Абмовімся толькі наперад, што мы маем на ўвазе тыя справы, па якіх сьледзтва праведзена правільна і з выстарчальнай паўнатой.

Ня кажучы ўжо аб самым тэксьце арт. 4_0 КПК, разгледзім, пры якіх умовах павінны судом 1-й інстанцыі ўжывацца арт. арт. 28 і 36 КК.

Арт. 28 КК патрабуе выключных акалічнасьцяй па справе, а арт. 36 КК патрабуе ранейшай нясудзімасьці, наяўнасьці цяжкіх умоў жыцьця, сацыяльнай бясьпечнасьці асуджанага. Хіба-ж пры правільна і выстарчальна праведзеным сьледзтве гэтыя асноўныя моманты не павінны выяўляцца, і як без іх суд наогул можа падыйсьці да пытаньня аб прызначэньні тэй альбо іншай меры сацыяльнай абароны?

Бязумоўна, гэтыя моманты высьвятляюцца і дапасаваньнем арт. арт. 28 і 36 КК; кас. інстанцыяй выпраўляецца толькі тая памылка суду, які пры прызначэньні меры сацыяльдай абароны гэтых момантаў не падлічыў.

З другога боку, згодна арт. 423 КПК. паказаньні кас. інстанцыі пры другім разглядзе справы абавязковы, а гэта значыць, што тое, што паказала касінстанцыя, тое і будзе мець рашучае значэньне пры новым разглядзе, і, значыцца, ніякага новага разгляду ў судзе 1-й інстанцыі ня будзе, а будзе толькі вынясеньне новага прысуду з дапасаваньнем арт. 28 альбо 36 КК.

Так, напрыклад, у чым будзе заключацца новы разгляд справы, калі касінстанцыя ў сваім вызначэньні пакажа, што прысуд вынесен правільна ў адпаведнасьці з акалічнасьцямі справы, але-ж суд пры прызначэньні меры сацыяльнай абароны не падлічыў тых акалічнясьцяй, што асуджаны ня быў раней судзім, што ён зьяўляецца сацыяльна бясьпечнай асобай, дзеля чаго і не патрабуе ізоляцыі ад грамадзянства? У тым, што суд „галопам“ прабяжыць судовае сьледзства і ўмоўна засудзіць асуджанага.

Зразумела, мы ні ў якім разе не заклікаем касінстанцыі злоўжываць гэтым правам, а дапасоўваць гэтыя меры толькі тады, калі гэтыя акалічнасьці зусім выяўлены у стадыі папярэдняга і судовага сьледзства і знайшлі сабеадбітак у прысудзе.

Апошні момант, які мы вывучалі ў гэтай стадыі працэсу—гэта пытаньне: ці патрэбен, ці непатрэбен удзел абароны пры разглядзе спраў у 2-й інстанцыі.

Практыка нам паказала, ды ніхто гэтага і ня будзе адмаўляць, што абарона толькі тады прыймае ўдзел у касінстанцыі, калі прыгавор падлягае адмене. Ня будзе-ж абарона, да і не павінна, як памочнік суду, дамагацца адмены правільнага прысуду. А няправільны прысуд, дапоўнім няправільны па сутнасьці, усё роўна будзе адмяняцца касінстанцыяй, паколькі яна складаецца з трох найбольш кваліфікаваных працаўнікоў суду, а калі гэтыя працаўнікі, члены суду, ня могуць вырашыць пытаньня аб правільнасьці альбо няправільнасьці прысуду, то трэба ставіць пытаньне аб замене іх лепшымі судзьдзямі, а ні ў якім разе не ўвадзіць „состязательность“ у касінстанцыю, тым больш, што пракуратура ў касінстанцыі выступае як орган нагляду, а не як старана ў працэсе. Таму мы і прапануем забараніць удзел абароны ў касінстанцыі, лічачыся, акрамя вышэйсказанага, таксама з тым, што ўдзел абароны зьвязан з вялікімі і зусім непатрэбнымі выдаткамі для працоўнага насельніцтва.

Прыхільнікі ўдзелу абароны кажуць нам, што ён неабходзен ў касінстанцыі таму, што абаронец лепей і болей каротка выкажа касацыйныя парушэньні, чым несьвядомы селянін альбо рабочы, і што ў касацыйнай інстанцыі абарона сумесна з судом вырашае спрэчныя пытаньні як матар‘яльнага, так і працэсуальнага права.

Пры тым поглядзе, які мы выказалі раней на тое, што нас цікавіць сутнасьць справы, а ня форма, зразумела, што нам якраз і патрэбна, каб селянін альбо рабочы нам казалі аб сутнасьці, а не парушэньні таго альбо іншага арт. Кодэксу; што-ж датычыцца да сумеснага вырашэньня спрэчных пытаньняў права, то мы раім абароне гэтыя пытаньні вырашаць сумесна з намі ў юрыдычных гурткох, тым болей, што такая „навука“ нічога ня будзе каштаваць працоўнаму насельніцтву.

## III. Дзейнасьць Акруговага Суду і Найвышэйшага Суду ў якасьці першай інстанцыі па грамадзянскіх справах.

Аб‘ектам вывучэньня грамадзянскіх спраў акрсуду былі намі ўзяты наступныя катэгорыі спраў:

| | | |
|---|---|---|
| 1) маемаснае найманьне | 4 | справы |
| 2) купля-продаж | 20 | „ |
| 3) прычыненьне шкоды | 13 | „ |
| 4) права ўласнасьці | 4 | „ |
| 5) чыгуначныя перавозкі | 2 | „ |
| Усяго | 43 | справы |

Такая нязначная колькасьць спраў тлумачыцца нязначнай наогул колькасьцю спраў, якія былі прадметам разгляду першай інстанцыі абсьледванага намі Віцебскага акрсуду.

Галоўную ўвагу мы зьвярнулі на вывучэньне прычын, якія выклікаюць маруднасьць праходжэньня гэтых спраў, аб чым яскрава сьведчаць наступныя лічбы:

а) ад дню паступленьня заявы па дзень вынясеньня рашэньня—6 м. 9 дз.;

б) ад дню вынясеньня рашэньня акрсудом па дзень звароту справы з Найвышэйшага Суду—7 м. 2 дні.;

в) па справах з адным рашэньнем ад дню паступленьня заявы па дзень уступленьня рашэньня ў законную моц—8 м.;

г) па справах з некалькімі рашэньнямі ад дню паступленьня заявы па дзень уступленьня рашэньня ў законную моц—15 м. 19 дз. (лічбы ўзяты з статыстычных даных акрсуду за ўвесь 1927 г.).

Што-ж мы выявілі?

Выпраўленьне недахопаў іскавой заявы ў парадку арт. 81 ГПК мае месца толькі па 30 проц. спраў, пры чым на зьнішчэньне дробных недахопаў траціцца часу ад 7 дзён да 2 м. 12 дзён; папярэдняя падрыхтоўка спраў у парадку арт. 80 ГПК амаль зусім адсутнічае (18 проц.); арт. 5 ГПК дапасоўваўся толькі па 40 проц. спраў; справы вельмі часта адкладваюцца па наступных падставах: прызнаньне суду абавязковым асабістай прысутнасьці старон—32,5 проц., неабходнасьць прадстаўленьня дадатковых дакумэнтаў—30 проц., няяўкі сьведкаў, паказаньні якіх зьяўляюцца вельмі істотнымі—16,3 проц., няяўкі таго альбо іншага боку дзеля неатрыманьня павесткі—11,6 проц., вытвару абгляду месца—11,6 проц., прыцягненьне новых асоб у якасьці трэціх асоб—7 проц., няяўкі народных засядацеляў—5 проц.

Сябры калегіі абаронцаў прыймалі ўдзел з боку ісца па 4 справах, а з боку адказчыка па 14 справах, пры чым апошнія справы адкладаліся ад 2 да 10 разоў, і ў выніку па 8 справах іск быў здаволен, а па 6 справах у іску было адмоўлена.

Такім чынам, маруднасьць грамадзянскіх спраў шляхам адкладу, галоўным чынам, выпадае на тую катэгорыю спраў, па якіх з боку адказчыка прыймалі ўдзел абаронцы, пры чым суд, відавочна, зусім не дапасоўваў арт. арт. 6 і 106 ГПК у інтарэсах больш хуткага разгляду спраў і накіраваньня ролі абароны на шлях сумленнага карыстаньня працэсуальнымі правамі.

Яскравым прыкладам, які характарызуе валакіту і фармалізм, зьяўляюцца выпадкі адкладу спраў дзеля няяўкі народных засядацеляў, а таксама і адклад спраў дзеля няяўкі ісца альбо адказчыка пры наяўнасьці своечасовага даручэньня ім абвестак і пры адсутнасьці па характару спраў неабходнасьці дачы асабістых тлумачэньняў, што мела месца па 9 справах.

Выявіўшы, такім чынам, зусім слабую папярэднюю падрыхтоўку грамадзянскіх спраў да разгляду іх у судовым пасяджэньні, мы і лічым, што суду трэба дэтальна праглядаць іскавыя заявы і доказы да іх пры прыняцьці, дзеля чаго і прапануем:

а) строга карыстацца арт. 81 ГПК, не абмяжоўваючыся толькі патрабаваньнем копій заяў і дакумэнтаў альбо спагнаньнем судовых страт, але аднача́сна зварочваць увагу на выкладаньне акалічнасьцяй, якія служаць падставай для іску, адноску на доказы, зьвесткі аб прадстаўніках ісца, старонах і сьведках;

б) з мэтай прысьпешаньня прахаджэньня спраў суд, накіроўваючы копію іскавой заявы альбо дакумэнта да яго адказчыку альбо дасылаючы абвестку аб дні разгляду справы, паказвае (па кожнай справе) адказчыку аб прадстаўленьні ім доказаў да судовага разгляду, а таксама здавальняе хадайніцтва як ісца, так і адказчыка аб выкліку сьведак, патрабаваньні дакумэнтаў, вытвары экспэртызы і г. д., калі гэтыя хадайніцтва неабходны для справы, незалежна ад пярэчаньняў адказчыка альбо ісца, дзеля чаго трэба зьмяніць арт. 80 ГПК;

в) падлічваючы зусім невыстарчальнае карыстаньне судом арт. 5 ГПК, што цягне за сабой маруднасьць спраў, устанавіць, што пры разглядзе справы з стадыі падачы іскавой заявы суд павінен усяляк дапамагаць да

высьвятленьня ўсіх тых акалічнасьцяй і доказаў, з дапамогай якіх ёсьць магчымасьць вырашыць справу, не чакаючы ўзбуджэньня хадайніцтваў па гэтых момантах ад старон;

г) прызначэньне спраў да разгляду, як правіла, павінна мець месца не пазьней 2 тыдняў з дню падачы іскавой заявы, а пасылка абвестак аб дні разгляду справы і прапанова суду адказчыку павінны мець месца не пазьней 3 дзён з дню выпраўленьня іскавой заявы;

д) суд пры вынясеньні вызначэньняў па справах, дзе ў якасьці адказчыка альбо ісца выступае дзяржаўная, грамадзкая ўстанова, і калі па справе будзе выяўлен недахоп работы гэтых органаў, павінен вынесьці паасобнае вызначэньне, у якім паказвае сутнасьць выяўленага недахопу і паведамляе аб гэтым установу, прадпрыемства альбо органы РСІ;

е) у мэтах прысьпяшэньня выкананьня рашэньняў лічыць мэтазгодным зьмяненьне арт. 188 ГПК у тым напрамку, што па тых справах, па якіх рашэньні безадкладнаму выкананьню не падлягаюць, дапушчэньне папярэдняга выкананьня рашэньня можа мець месца ня толькі па просьбе ісца, але па ініцыятыве суду;

ж) прадставіць суду першай інстанцыі права адтэрмінаваньня і растэрмінаваньня выкананьня па справах, якія ўвайшлі ў законную моц;

з) лічачыся з забесьпячэньнем юрыдычнымі сіламі акруг і тым, што з практыкі суду ўгледжваецца, што ў сучасны момант існуючы месячны тэрмін на абскарджаньне спраў выкарыстоўваецца для маруднасьці спраў, тэрмін гэты падлягае скарачэньню да 14 дзён;

к) лічыць немэтазгодным застаўленьне за найвышэйшым судом судовых функцый 1-й інстанцыі з тым, аднак, што найвышэйшаму суду даецца права прыняць да свайго вядзеньня тыя грамадзянскія справы, якія маюць асабліва важнае палітычнае альбо эканамічнае значэньне.

## IV. Дзейнасьць Найвышэйшага Суду і Акрсуду ў якасьці касацыйнай інстанцыі па грамадзянскіх справах.

І гэтая галіна працы судоў намі вывучалася ў напрамку пашырэньня правоў касінстанцыі ў сэнсе зьмен вынесеных судом 1-й інстанцыі рашэньняў пры ўмове, што гэтая зьмена павінна вынікаць з маючагася ўжо ў справе матар'ялу, і для такога зьмяненьня зусім не патрэбна зьбіраньне дадатковых доказаў і магчымасьці абмежаваньня касацыйнага абскаржаньня па некаторых катэгорыях спраў.

З гэтай мэтай мы вывучалі тыя справы, па якіх пасьля адмены рашэньняў касінстанцыяй маюцца ўжо новыя рашэньні, і мы выявілі, што ў шэрагу выпадкаў 1-я інстанцыя на падставе арт. 248 ГПК вынасіла новае рашэньне без усялякіх новых праверачных дзеяньняў, чым адцягваўся момант канчатковага вырашэньня справы ад моманту прад'яўленьня іску, і для зьнішчэньня гэтага мы прапануем лічыць неабходным пашырыць правы касінстанцыі незалежна ад тых правоў, якія ёй дадзены арт. 246 ГПК, у наступным напрамку:

а) права прадастаўленьня касінстанцыі зьмяненьня салідарнага прысуджаньня, а таксама і дапушчэньня яго;

б) права растэрмінаваньня і адтэрмінаваньня спагнаньня і адтэрмінаваньня высяленьня, калі 1-ая інтстанцыя не скарыстала дадзенага ёй права ў моц арт. 182 ГПК;

в) права зьмяншэньня і павялічэньня няустойкі, нават калі 1-й інстанцыяй гэта зьмяншэньне і было зроблена, але ня ў поўнай адпаведнасьці з арт. 182 ГК;

г) права прадстаўленьня касінстанцыі зьмяншэньня і павялічэньня разьмераў прысуджанага 1-й інстанцыяй разьмеру алімэнтаў ў тым выпадку, калі прысуджаны 1-й інстанцыяй разьмер алімэнтаў відавочна не адпавядае матар'яльнаму становішчу старон, выяўленаму па справе;

д) права касінстанцыі зьмяншэньня і павялічэньня прысуджанай 1-й інстанцыяй сумы у тым выпадку, калі 1 ай інстанцыяй няправільна дапасован закон, а пры правільным дапасаваньні закону, калі на падставе маючыхся ў справе доказаў прысуджаная сума павінна быць павялічана альбо зьменшана;

е) лічыць неабходным зьмяніць арт. 245 ГПК у тым сэнсе, што касінстанцыя павінна ўсялякую справу разглядаць у рэвізыйным парадку.

Вывучэньне другога пытаньня пераканала нас у тым, што, бязумоўна пажаданым зьяўляецца недапушчэньне абскарджаньня ў касацыйным парадку наступнай катэгорыі спраў:

а) іскі, якія ўгрунтованы на дакумэнтах, якія на падставе арт. 211 ГПК, дзеля пропуску тэрміну, ня былі разгледжаны ў парадку судовага загаду;

б) іскі, якія ўгрунтованы на дакумэнтах, натарыяльна пасьведчаных, калі гэтыя дакумэнты наогул па законе натарыяльна ня сьведчацца;

в) іскі, якія цалкам прызнаны адказчыкам у судовым пасяджэньні;

г) дробныя гарадзкія іскі да 15 руб;

д) іскі, разглядаемыя ў парадку судовага загаду.

Па тых-жа матывах, якія паказаны намі вышэй, мы выказаліся за недапушчэньне ўдзелу абароны і ў другой інстанцыі па грамадзянскіх справах.

(Пряцяг будзе)

---

**К. Банін.**

# Аб высяленьні ў адміністрацыйным парадку членаў жактаў і аб узысканьні з іх у судовым парадку кватэрнай платы.

У апошнія часы наглядаецца сумнае зьявішча, калі праўленьні жактаў высяляюць у адміністрацыйным парадку членаў жактаў і ў судовым парадку ўзыскваюць з іх кватэрную плату. Прыкладам гэтага можа быць наступная справа. Два члены жакту дагаварыліся абмяняцца пакоямі; на гэта згадзіўся член праўленьня і камісія, якая пастанавіла далажыць аб гэтым праўленьню. Пры такіх умовах члены жакту абмяняліся пакоямі, якія амаль роўныя па плошчы, аднак потым старшыня праўленьня запратэставаў, а таксама высьвятлілася, што адзін з абмяняўшыхся членаў зусім выяжджае з дому. Здавалась-б, якая бяда? тым больш, што гэта здарылася у тэй час, калі эканомнарадай БССР ужо быў зацьверджан праэкт пастановы аб тым, што члены жактаў (нават розных) маюць права абменьвацца кватэрамі „з ведама праўленьняў“ (пастанова 14 ноября 1927 г.), і, здаецца, ужо была зацьверджана, але яшчэ не апавешчана, пастанова ЦВК і СНК СССР аб прадастаўленьні права працоўным наогул абменьвацца кватэрамі (Весьці № 16 28 г.). Аднак праўленьне жакту праводзіць іншую палітыку: зараз піша паперу ў камгас аб высяленьні ў адміністрацыйным парадку члена жакту з аднаго пакою ў другі. Камгас праверае і піша паперу ў міліцыю; міліцыя піша паперу члену жакту; член жакту піша паперу акруговаму пракурору; акруговая пракуратура ўтварае дазнаньне; потым член жакту піша паперу пракурору рэспублікі і г. д.

І вось трэба паставіць пытаньне, ці павінны члены жактаў высяляцца з аднаго пакою ў другі ў адміністрацыйным парадку праз камгас і міліцыю.

Згодна арт. 7 закону аб жыльлёвай каапэрацыіі (З. З. СССР 1924 г., № 5, арт. 60), „член жыльлёва-арэнднага каапэрацыйнага таварыства, у межах арэнднага тэрміну на домаўладаньне, мае права сталага пражываньня на ўстаноўленай агульным сходам членаў таварыства плошчы". Гэткім чынам, плошча для пражываньня членаў таварыства вызначаецца агульным сходам, і, зразумела, усе пытаньні аб зьменах, а таму і ўсе непаразуменьні, якія зьяўляюцца парушэньнем пастаноў агульнага сходу, павінны вырашацца агульнымі сходамі.

Згодна арт. 10 тыповага статуту жылішчна-арэнднага каапэрацыйнага таварыства (З. З. БССР 25 г., №12, арт. 103) члены таварыства, якія не падпарадкаваліся статуту і пастановам агульнага сходу, ня выканалі свае абавязацельствы перад таварыствамі, і якія дзейнічаюць у шкоду таварыства, могуць быць выключаны з ліку яго членаў пастановай агульнага сходу.

Выключэньне з ліку членаў т-ва можа быць, па рашэньні агульнага сходу, зьвязана з высяленьнем выключанага з домаўладаньня ў судовым парадку. Пастанова аб выключэньні з членаў таварыства можа быць аскаржана ў народны суд, шляхам падачы іску аб прызнаньні гэтае пастановы несапраўднай.

Гэткім чынам, усе непаразуменьні паміж членамі жактаў, як перасяленьні з пакою ў пакой, зьяўляюцца парушэньнем статуту, пастаноў агульных сходаў або іншых органаў і не зьяўляюцца тым самапраўным заняцьцем пакою без дазволу органаў камунальнае гаспадаркі, або органаў, іх замяняючых, якое мае на ўвазе п. „б" арт. 2 закону аб высяленьні з кватэр, а таму гэтыя зьявішчы, гэтыя парушэньні членаў жактаў павінны вырашацца і разьвязвацца ў каапэрацыйным парадку агульнымі сходамі, як гэта прадугледжана спэцыяльным законам. Калі-ж член жакту не пажадае падпарадкавацца законнай пастанове агульнага сходу, ён можа быць выключан з членаў жакту з высяленьнем з домаўладаньня, і ў гэтыя пытаньні зусім ня трэба ўмешваць камгас, міліцыю і пракуратуру.

Таксама, ці павінны нарсуды займацца ўзысканьнем з членаў жактаў кватэрнае платы?

Член жакту не зьяўляецца „наймальнікам" кватэры. Ён, сумесна з усімі членамі жакту, зьяўляецца гаспадаром домаўладаньня, арандаванага ад камгасу, а праўленьне зьяўляецца іх выканаўчым органам. Як вышэй сказана, агульны сход не здае членам кватэр у „арэнду", а толькі разьмяркоўвае арандуемую таварышамі плошчу паміж членаў.

Згодна арт. 8 закону аб жыльлёвай каапэрацыі, сродкі жыльлёва-арэнднага таварыства складаюцца з уступных і паявых узносаў, „з паступленьня ад кватэрнай платы" і арэнднай платы за няжылыя памяшканьні і г. д., а у арт. 14 статуту гэта плата называецца „плацяжом за карыстаньне памяшканьнем".

Такім чынам, член жакту ўносіць плату згодна закону аб каапэрацыі і статуту, як член таварыства, а не як наймальнік. Няўзнос гэтае платы зьяўляецца тым нявыкананьнем абавязацельстваў члена перад таварыствам, аб якім гаворыць паказаны вышэй арт. 10 статуту, і за якое невыкананьне член таварыства можа быць выключан з таварыства.

Да члена жакту немагчыма прыстасаваць п. „з" арт. 173 Гр. Код., бо гэты артыкул рэгулюе адносіны наймадаўцы і наймальніка па дагаворы найма, якіх праваадносін паміж жактам і яго членам няма і, па сутнасьці, і быць ня можа

Калі-ж член жакту не зьяўляецца наймальнікам, няўзнос ім кватэрнай платы ёсьць невыкананьне статуту і пастаноў агульнага сходу і павінен рэгуляваца гэтым статутам, а таму кватэрная плата непавінна ўзыскваца судом.

Толькі з выключэньнем члена жакту агульным сходам за няўзнос платы ён можа быць і выселен судом, і суд можа і ўзыскаць яго запазычанасьць.

На жаль, у нашых жактах гэта нармальнае зьявішча, што члены ня ўносяць кватэрнае платы па паўгода і больш, ставяць жакт у цяжкае фінансавае становішча, а жакты загружаюць суды справамі аб узысканьні кватэрнае платы. Калі-б жакты за няўзнос платы выключалі гэткіх членаў з таварыства з высяленьнем, трэба лічыць што і фінансавае становішча жактаў палепшылася-б і было-б меней работы судом, бо зразумела, што той, хто ня ўносіць у сваё таварыства платы, па сутнасьці не зьяўляецца „таварышам".

Я лічу, што, замест усяе паказанае цяганіны, трэба папоўніць закон аб высяленьні з памяшканьняў гэткім артыкулам:

„Высяленьне ў адміністрацыйным парадку дапушчаецца, калі пастановай агульнага сходу жакту член жакту выключан з таварыства з высяленьнем з домаўладаньня, і ён не аскардзіў гэтае пастановы ў суд у парадку, паказаным у статуце ў 2-тыдневы тэрмін". бо ў гэтым выпадку пытаньне аб высяленьні ўжо становіцца бясспрэчным, а ўмешваньне камгасу, міліцыі і пракуратуры і ўзысканьне кватэрнае платы судом да вырашэньня пытаньняў агульным сходам трэба спыніць.

З тае прычыны, што членаў высяляюць у адміністрацыйным парадку, а плату ўзыскваюць у судовым, члены не адчуваюць каапэрацыйнай дысцыпліны.

Апроч таго, я лічу, што шмат паказаных ненармальнасьцяй у нашых жактах зьяўляецца вынікам неправільнай іх арганізацыі, якая, між іншым, зьнішчыла асноўныя прынцыпы каапэратызму, зьмешчаныя ў савецкім заканадаўстве.

---

**Б. Ватацы.**

# Новыя плыні ў савецкім законадаўстве аб праве забудоўкі.

I.

Першымі савецкімі законамі, якія рэгулююць забудоўку, зьяўляюцца дэкрэты: 8 жніўня 1921 г., 14 жніўня 1922 г. і 12 кастрычніка 1922 года. Гэтыя дэкрэты былі выкліканы жыльлёвай разрухай, якая зьявілася ў выніку імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны. Неабходна было так ці інакш вырашыць гэта вострае пытаньне і прыцягнуць да жыльлёвага будаўніцтва як грамадзкія арганізацыі, так і прыватных асоб. Мэтаю савецкага законадаўства аб забудоўцы, па словах тав. Раевіча[1]), зьяўляецца „стимулирование вложения отдельными лицами средств и энергии в использование на праве застройки земельных участков и строений".

З моманту ўвядзеньня ў дзеяньне Грамадзянскага Кодэксу на тэрыторыі саюзных савецкіх рэспублік савецкае законадаўства цьвёрда і пэўна

[1]) Гл. яго „Опыт законодательного творчества германской с.-демократии". Сборник „Революция и Право", 1.

стала на шлях прадстаўленьня як юрыдычным, так і фізычным асобам права будаваццa на зямельных вучастках, вылучаемых для гэтай мэты дзяржавай.

Асноўныя рысы права забудоўкі былі ўжо ўпаўне ясна выражаны ў Грамадзянскім Кодэксе, выданьня 1922 г., у якім нормы аб праве забудоўкі выкладзены ў артыкулах 71-84.

На падставе гэтых нормаў права забудоўкі можна вызначыць як пераходзячае ў спадчыну, адчужаемае, як абцяжарваемае застaвай бяз згоды органа, які здае вучастак, рэчавае права на гарадзкі вучастак зямлі, права, заключаючаеся ў скарыстаньні, на працягу вызначанага ў дагаворы тэрміну, зямельнага вучастку для пабудовы на ім будынкаў.

Грамадзянскі Кодэкс 1922 г. меў на ўвазе толькі гарадзкія вучасткі, даючы права будаваць на іх якія ўгодна будынкі, г. зн. як жыльлёвыя, так і няжыльлёвыя. Такім чынам, Грамадзянскі Кодэкс 1922 г. імкнуўся рабіць уплыў на разьвіцьцё ня толькі жыльлёвага, але і наогул усякага гарадзкога будаўніцтва.

Але далей, як у нас у БССР (арт. 86 ГК у рэдакцыі пастановы ад 21/VIII 1925 года і ўвага да арт. 60 Зямельнага Кодэксу па законе ад 4/IX 1926 г.[1]) так і па законадаўстве суседніх з намі савецкіх рэспублік РСФСР і УССР права забудоўкі пашыраецца і на пазагарадзкія землі.

Права забудоўкі, як рэчавае і на доўгі час права на карыстаньне чужым вучасткам зямлі, даўно вядома як рымскаму праву (superficies), так і праву эўрапейскаму, асабліва ангельскаму; яно атрымала права грамадзянства і ў дарэвалюцыйным рускім праве па законе 23 чэрвеня 1912 г., уключаным ў том X ч. 1. Зв. Зак. пад арт. арт. $542^{1-27}$.

У абставінах буржуазнай дзяржавы найбольшай характарнай рысай права забудоўкі, якая адрозьнівае яго ад іншых рэчавых праў, зьяўляецца тое, што гэта права на чужую зямлю, права, абцяжрваючае чужы вучастак зямлі.

У абставінах савецкае дзяржавы, адмаўляючай права прыватнай ўласнасьці на зямлю, гэта апошняя прымета сьціраецца. Бо і ўласьнік немуніцыпалізаванай або дэмуніцыпалізаванай будовы, па нашым праве, не зьяўляючыся ўласьнікам зямлі, мае толькі бястэрміновае рэчавае права на карыстаньне зямельным вучасткам, права, якое паводле арт. 15 палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох (З. З. БССР 1925 г. № 43, арт. 353) спыняецца адначасна з зьнішчэньнем самай будовы з прычыны стыхійнага нясчасьця. Такім чынам, калі параўнаць нормы нашага і буржуазнага права, то мы знойдзем рысы падабенства між правамі нашага ўладальніка немуніцыпалізаванага або дэмуніцыпалізаванага домаўладаньня і правамі забудоўшчыка па буржуазным праве, адрозьніваючыся ад апошняга галоўным чынам бястэрміновасьцю свайго карыстаньня.

Другой асаблівасьцю права забудоўкі па савецкім законадаўстве, параўнальна з адпаведнымі нормамі буржуазнага права, зьяўляецца тое, што пабудаваная на праве забудоўкі будова ў нас ні пры якіх умовах ня можа па сканчэньні тэрміну дагавору застацца ва ўладаньні забудоўшчыка, каторы, паводле арт. 84 ГК БССР, па сканчэньні тэрміну дагавору аб забудоўцы, мае права толькі на эканамічную каштоўнасьць будовы, а сама будова пераходзіць да органа, які прадастаўляе зямельны вучастак пад забудоўку. Наадварот, напрыклад, па рускім законе 23/VI-1912 г. дапушчалася застаўленьне будовы за забудоўшчыкам і па сканчэньні тэрміну дагавору (гл. арт. $542^{19}$).

[1]) З. З. БССР 1925 г. № 34, арт. 315 і 1926 г. № 40, арт. 150.

Выкладзенае правіла ўведзена ў наш Грамадзянскі Кодэкс, бясспрэчна, у тых мэтах, каб шляхам забудоўкі на сродкі прыватнага капіталу можна было павялічыць плошчу камунальнага жыльлёвага фонду тым больш, што ў момант утварэньня закону аб забудоўцы спадзяваліся на разьвіцьцё гэтым шляхам буйнага прыватнага домабудаўніцтва.

У нашу тэму не ўваходзіць вычэрпываючае параўнаньне нашага законадаўства аб праве забудоўкі з законадаўствамі буржуазных дзяржаў, пагэтаму мы і ня будзем спыняцца на розьніцах па такіх пытаньнях, як пытаньне аб забудоўцы пад зямлёю, пытаньне аб абцяжарваньні на пэрыод дзеяньня дагавору аб забудоўцы з сэрвітутамі і г. д.

II.

Імкнучыся да пашырэньня і разьвіцьця будаўніцтва, законадаўца, аднак, прадастаўляе ў чынным праве толькі адзін шлях для пабудаваньня новых будынкаў—гэта заключэньне дагавору аб забудоўцы на тэрмін, ня вышэй гранічнага, ўстаноўленага законам. Ніякіх іншых шляхоў для будаўніцтва (грамадзкімі арганізацыямі і прыватнымі асобамі) да апошняга часу ня было.

Але так справа абстаяла да гэтага часу. У сучасны момант становішча значна мяняецца пасля апублікаваньня пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 21/XI—1926 г. аб зьмене артыкулаў 19, 22, 27, 29, 30 і 34 пастановы ад 19/VIII—1924 г. аб жыльлёвай каапэрацыі (З. З. Саюзу ССР 1927 г. № 2, арт. 14).

Паводле арт. арт. 27 і 29 пастановы аб жыльлёвай каапэрацыі, у рэдакцыі паказанага закону, рабочым і агульнаграмадзянскім жыльлёва-будаўнічым каапэрацыйным таварыствам зямельныя вучасткі для пабудовы, адбудаваньня або дабудаваньня на іх будынкаў могуць давацца, па іх выбары, альбо на тэрмін па дагаворах аб праве забудоўкі, альбо ў бестэрміновае карыстаньне.

Пры гэтым той-жа закон (3 ч. арт. 27 і 3 ч. арт. 29) далей кажа: „Права бестэрміновага карыстаньня зямельным вучасткам не аддзяліма ад права ўласнасьці на будову і спыняецца спыненьнем гэтага апошняга.

Права бестэрміновага карыстаньня зямельным вучасткам захоўваецца ў выпадку зьнішчэньня будовы, пры ўмове пабудаваньня новай будовы ў вызначаемы законадаўствам адпаведнай саюзнай рэспублікі тэрмін.

Выкладзеная норма, як абавязковая для ўсіх саюзных рэспублік, уносіцца ў законадаўства апошніх. Так, ужо выдана пастанова УсеЦВК і СНК РСФСР ад 27 красавіка 1927 г. (С. У. РСФСР 1927 г. № 43, ст. 276), паводле каторага зазначаная норма ўведзена ў Грамадзянскі Кодэкс у якасьці трэцяй увагі да арт. 71, пры чым тэрмін для адбудаваньня згарэўшай будовы ўстаноўлен у тры гады, лічачы з дню зьнішчэньня ранейшай будовы. Аналёгічны закон выдаецца ў Грузіі. Такая-ж норма, па праэкце НКЮ і НКУС, уводзіцца і ў Грамадзянскі Кодэкс БССР, пры гэтым, на выпадак зьнішчэньня будовы пажарам або з прычыны іншага стыхійнага нясчасьця, права бестэрміновага карыстаньня зямельным вучасткам захоўваецца пры ўмове, што карыстаючаяся ім арганізацыя не пазьней трох год з дню зьнішчэньня будовы прыступіць да пабудовы новай (тэрміны сканчэньня будовы агульныя для ўсіх забудоўшчыкаў).

З аналізу выкладзенай нормы закону можна вывесьці два палажэньні, каторыя гэтым законам высоўваюцца.

Першае, што цяпер, побач з заключэньнем тэрміновага дагавору аб забудоўцы, устанаўляецца і другі шлях для пабудаваньня будоўлі—

перадача вучастку пад забудоўку ў бестэрміновае карыстаньне. Устанаўляецца бязумоўнае і бестэрміновае[1]) права ўласнасьці забудоўшчыка на пабудаваны будынак. Дапушчаецца, такім чынам, узьніканьне новых уласьнікаў будоў, правы каторых ня толькі ня вузей, але нават шырэй праў уласьнікаў немуніцыпалізаваных або дэмуніцыпалізаваных будоў— успомнім пастанову арт. 15 Палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох (тое-ж палажэньне і ў адпаведным законе РСФСР) аб тым, што ўласьнікі прыватнаўласных дамоў цяпер ня маюць права будаваць на праве ўласнасьці будовы на вучастку, які вызваліўся пасьля зьнішчэньня старой будовы пажарам альбо з прычыны іншага стыхійнага няшчасьця і права бестэрміновага карыстаньня вучасткам не захоўваюць (яны могуць атрымаць толькі тэрміновае права карыстаньня на падставе дагавору аб забудоўцы).

Калі прыняць пад увагу, што новы закон не абмяжоўвае забудоўку толькі жылымі дамамі і што з часам круг арганізацый будзе пашыран, належыць прызнаць важнасьць і сур'ёзнасьць новага рэчавага права на зямельны вучастак. Права гэта істотна (менавіта прыметай бестэрміновасьці) адрозьніваецца ад права, якое даецца забудоўшчыку цяпер дзейнічаючымі атрыкуламі 71—86 Г. К., яно таксама адрозьніваецца і ад праў забудоўшчыка па дарэвалюцыйным законе 23 чэрвеня 1912 г.

Пры ўважлівым аналізе разглядаемага права нельга ня прыйсьці да заключэньня аб тым, што яно носіць у сабе пэўныя рысы сходзтва з чыншавым правам, каторае добра вядома Беларусі і Украіне, або з „оброчным содержанием" і Прыбалтыцкага кодэкса (арт. 1324—1334). І тое і другое вызначаецца як спадчыннае, адчужаемае і бестэрміновае права карыстаньня чужым вучасткам зямлі (пад забудоўкі альбо ў мэтах апрацоўкі) пры ўмове ўплаты штогоднага, раз на заўсёды пэўнага аброку (чыншу), аналёгічнае вызначэньне вынікае з разглядаемага намі закону. Між іншым тут неабходна агаварыцца, што ўпадабленьне ўсё ж ня тожсамасьць. Калі менавіта з чыншавым правам можна зблізіць увадзімае цяпер права бестэрміновага карыстаньня таму, што чыншавае права магло ўзьнікаць як у гарадох, так і пазагарадзкіх мясцовасьцях,[2]) то па абставінах праўнага жыцьця абодвы гэтыя інстытуты вельмі розьняцца, асабліва, калі ўзяць чыншавае права не часоў яго ўзьніканьня, а пэрыоду выраджэньня, калі чыншавікі аказаліся сядзячымі на землях прыватных земляўладальцаў. Мы кажам: „аказаліся сядзячымі таму, што чыншавае права таксама, як і Рымскі супэрфіцый часоў зараджэньня, ўзьнікла спачатку галоўным чынам на землях дзяржавы і царквы, і нормы, рэгулюючыя гэта права ў пачатковых яго стадыях, былі прапітаны элемэнтамі публічнага права. Нясумненна, што і наша новае права гэтымі элемэнтамі вельмі багата, бо, наша права ва главу вугла ставіць ня правы на зямельны вучастак, а павіннасьць скарыстаньня гэтага вучастку пад забудоўку сувязі з чым іншае значэньне атрымоўвае і паняцьце „бестэрміновасьці" карыстаньня—у абставінах савецкай дзяржавы гэта паняцьце далёка ня так бязумоўна як па праве буржуазнай дзяржавы.

Такім чынам, маючы з фармальнага боку рысы падабенства з чыншавым правам, разьбіраемае рэчавае права, даваемае савецкім законам, у

[1]) Праф. А. Гойхбарг у сваім курсе гр. права піша, што „застройщику принадлежит временное право собственности на возведенные им строения, право, ограниченное сроком, на который заключен договор о застройке (Хозяйственное право РСФСР, стр. 134).

[2]) Рымскае права, з каторага вядзе свой пачатак права чыншавае, разьлічвала два віды праў на зямлю: superficies пад забудоўку і emfiteusis пад вінаграднікі і іншыя культуры: па сутнасьці правы супэрфіцыарыя і эмфітэўты аналёгічны.

той-жа час і значна адрозьніваецца ад яго, дзякуючы асноўнаму прынцыпу савецкага грамадзянскага права адпаведнасьці праў тым сацыяльным функцыям, якія імі выконваюцца.

Другое палажэньне, якое вынікае з разглядаемай навэлы, заключаецца ў тым, што цяпер высоўваецца на першы плян ня прыватны будаўнік, а будаўнічая каапэрацыя, каторай і даецца права ўласнасьці на зноў пабудаваныя будовы.

Калі да сучаснага моманту пункт „б" арт. 52 ГК., упамінаючы аб каапэрацыйнай уласнасьці зьяўляўся як бы правам бяз зьместу, то цяпер у яго ўкладаецца і зьмест: узьнікае чыста каапэрацыйная ўласнасьць. Праўда, па формах сваіх яна яшчэ не адрозьніваецца ад уласнасьці прыватнай, але яна ўжо пасьпела здабыць спэцыфічную рысу: ня будучы выключанай з грамадзянскага звароту, яна можа адчужацца і застаўляцца але з абмежаваньнем—ня можа пераходзіць у прыватныя рукі і застаўляцца прыватным асобам. Зазначаныя будовы, як і само права забудоўкі паказаных коопэрацыйных арганізацый, ахоўваецца законам (3 ч. арт. 19 і 3 ч. арт. 30 пастановы аб жыльлёвай каапэрацыі) таксама ад звароту прыватнымі асобамі спагнаньняў па абавязацельствах гэтых арганізацый.

На падставе зазначаных вышэй палажэньняў, высунутых разглядаемым намі законам 21 лістапада 1926 г., належыць прыйсьці да заключэньня, што закон гэты ўносіць істотныя зьмены ў законадаўства аб будоўцы, але-ж зьмены, якія лёгічна вынікаюць з асноў савецкага грамадзянскага права і гэтым асновам не супярэчаць.

(Працяг будзе ў наступным нумары).

# СТАРОНКА ПРАКТЫКА.

А. Скабалан.

## Забойства або цяжкае цялеснае пакалечаньне.

Сярод некаторых судовых працаўнікоў па пытаньні аб кваліфікацыі выпадкаў сьмерці, знаходзячайся ў прычыннай сувязі з нанясеньнем удару, замацаваўся пэўны шаблён: аднасіць усе падобныя злачынствы да 2 ч. арт. 149 КК, незалежна ад іншых акалічнасьцяй справы. Інакш кажучы, досыць аб'ектыўнай наяўнасьці сьмерці і папярэдняга цялеснага пакалечаньня плюс прычынная сувязь між гэтымі зьявамі, каб дзеяньне кваліфікавалася па 2-й ч. арт. 149 КК. Большасьць далучае да гэтага, як абавязковую ўмову, працяг некаторага тэрміну між пакалечаньнем і сьмерцю; меншасьць нават і гэты тэрмін лічыць лішнім.

Такім чынам: 1) раскраеньне чэрапа тапаром, жалезным ломам, калом; 2) усаджэньне нажа ў грудзі, сьпіну, шыю, жывот; 3) учыненьне іншых падобных дзеяньняў, накірованых да пазбаўленьня жыцьця—нязьменна і няўхільна падводзяцца пад дзеяньне 2 ч. арт. 149, калі толькі сьмерць наступіла праз некаторы працяг часу. Меншасьць, як я ўжо казаў, ідзе яшчэ далей і кваліфікуе вышэйапісаныя злычынныя дзеяньні па 2 ч. арт. 149 нават і ў тых выпадках, калі пацярпеўшы быў забіт на месцы. Так, напрыклад, аўтару гэтага артыкулу было прапанована адным з пракурораў кваліфікаваць па 2 ч. 149 арт. злачыннае дзеяньне, якое заключалася ў тым, што ў бойцы адзін з удзельнікаў расьсек жалезнай лапаткаю чэрап свайму праціўніку і забіў яго на месцы.

Такое тлумачэньне закону, па маёй думцы, зьяўляецца няправільным. Памылка заключаецца ў тым, што ня прыймаецца пад увагу накіраваньне замеру, між тым як у раскрыцьці яго і заключаецца ўся сутнасьць справы. Разумеецца, выяўленьне замеру прадстаўляе вялікія працэсуальныя цяжкасьці, аднака-ж яно не зьяўляецца немагчымым. Калі няма іншых крытэрыяў, можна выходзіць з ацэнкі ўжытай прылады і рабіць адпаведныя вывады аб замеры і аб жаданьні злачынца дасягнуць пэўнага выніку. У прыведзеных мною прыкладах карыстаньне такімі прадметамі, як тапор, жалезны лом, кінжал і інш., бясспрэчна, сьведчыць аб замеры забойства; цяжка дапусьціць, каб чалавек, які ўдарыў другога, з усёй напружанасьці, тапаром па галаве або нажом у сэрца, мысьліў зрабіць яму цялеснае пакалечаньне, нясумненна тут, ёсьць замер пазбаўленьня жыцьця. Пры немагчымасьці даказаць прамы замер у нашым распараджэньні астаецца замер эвэнтуальны, які не аказвае, згодна агульнай часткі КК, ніякага ўплыву на відазьмены складу злачынства. Такім чынам, паказаныя мною выпадкі, якія закончыліся праз пэўны тэрмін сьмерцю, належыць адносіць да забойстваў, кваліфікаваных або простых, але не да цялесных сьмярцельных пакалечаньняў. Разумеецца, эвэнтуальны замер можа мець месца і ў адносінах другой часткі арт. 149, г. зн. можна сказаць, што злачынца, наносячы ўдар тапаром па галаве з мэтаю прычыненьня цялеснага пакалечаньня (1 ч. арт. 149), павінен быў прадбачыць, што ад такого ўдара можа наступіць сьмерць. Аднак-жа нам прадстаўляецца больш рэальным эвэнтуальнае забойства, чымся эвэнтуальнае цялеснае пакалечаньне з наступленьнем сьмерці, тым больш, што прамы замер у адносінах 2-й ч. арт. 149 зусім нямысьлім, бо нельга сабе ўявіць прычыненьня цялеснага пакалечаньня з такім разьлікам, каб ад гэтага ў пасьледку наступіла сьмерць.

Нарэшце, з супастаўленьня тэкстаў 1 і 2 ч. ч. арт. 149 належыць заключыць, што законадаўца меў на ўвазе наступленьне сьмерці ад пэўных цяжкіх пакалечаньняў, менавіта: 1) ад страты зроку, 2) слуху, 3) якого-небудзь іншага органу, 4) няізгладзімага абезабражаньня твару, 5) душэўнай хваробы, 6) небясьпечнага расстройства здароўя. Першыя пяць пунктаў ня выклікаюць сумненьняў, пункт-жа шосты належыць разумець у тым сэнсе, што ад цялеснага пакалечаньня наступіла расстройства неабходных для жыцьця адпраўленьняў (кровазвароту, дыханьня, кармленьня і інш.), у выніку якога наступіла сьмерць. Напрыклад, скаканьне нагамі па жываце і грудной клетцы можа пацягнуць унутраное кровазьліяньне, хваробы і сьмерць. Другі прыклад: удар касою па нагах пацягнуў надворнае кровазьліяньне і сьмерць ад вялікай кровастраты. У абодвых выпадках будзе наяўнасьць 2 ч. арт. 149. Але ці можна назваць „расстройствам здароўя“ такі стан, калі чалавек дастаўлен у бальніцу з разможджаным чэрапам і памірае, ня прыходзячы ў сьвядомасьць, праз 5-10 і нават 48 гадзін. Тут будзе наяўнасьць забойства, а не цялеснага пакалечаньня.

Ня трэба забывацца таксама, што тэорыя і судовая практыка стаяць на пункце гледжаньня так наз. аб'ектыўнай прытомнасьці. Рэпрэсія за наступіўшую пасьля цялеснага пакалечаньня сьмерць павышаецца не па прычыне суб'ектыўнага настрою злачынца, а як раз па падставах аб'ектыўных. Значыцца, адданьне пад суд па 2 ч. арт. 149 можа мець месца толькі ў тых выпадках, калі будзе ўстаноўлена, что злачынца нанасіў ўдар выключна з мэтаю ўдарыць, а не забіць. Адсюль належыць, што працяг часу між прычыненьнем цялеснага пакалечаньня і сьмерцю ніякім чынам ня можа служыць крытэрыем для кваліфікацыі злачыннага дзеяньня. Сутнасьць аналізу заключаецца ў выяўленьні замеру (мэты), вызначаючага склад злачынства.

---

**Я. Сарак.**

# Пра 2 ч. арт. 86 Крымінальнага Кодэксу.

2 ч. арт. 86 Крым. Кодэксу аднесена да разьдзелу дзяржаўных злачынстваў і мае салідную карную санкцыю ня ніжэй 6 месяцаў пазбаўленьня волі.

Гэты артыкул кажа аб супраціўленьні ўладзе без учыненьня гвалту, г. зн. без ужываньня якіх-небудзь фізычных і псыхічных узьдзеяньняў супраціўляемых да паасобнага прадстаўніка ўлады, маючага права загадваць выконваць яго законныя патрабаваньні.

Паглядзім-жа, як вельмі часта разумеецца і на справе ўжываецца гэты суровы артыкул паасобнымі прадстаўнікамі ўлады на мясцох: міліцыяй, крымінальным вышукам, а іншы раз і сьледчымі.

Бываюць такія казусы:

Паставы міліцыянэр, стоячы на пасту, нечакана ўбачыў сварачыхся грамадзян, што прыцягвае талпу зявак. Міліцыянэр дае распараджэньне расхадзіцца, але з тае прычыны, што зявакі цяжкі на пад'ем, то заўсёды распараджэньні міліцыянэра выконваюцца неадразу, і пасьля некалькіх такіх распараджэньняў міліцыянер затрымлівае каго-небудзь з больш упартых аслушнікаў яго распараджэньня і прапануе ісьці ў аддзяленьне міліцыі. З прычыны таго, што нікому няпрыемнна ісьці ў міліцыю, пачынаецца спрэчка паміж затрыманым і міліцыянэрам, пакуль апошні ня возьме першага за руку і не пацягне гвалтоўна. У канцы канцоў мы маем складзены акт, што гр-н такі-та на прапанову міліцыянэра ісьці ў

аддзяленьне міліцыі адмовіўся і аказаў апошняму супраціўленьне, і апошняе кваліфікуецца па 2 ч. арт. 86 Крым. Кодэксу, калі на самай справе ў дзеяньнях падазраваемага або затрыманага няма наяўнасьці прымет злачынства па гэтым артыкуле, а толькі ёсьць невыкананьне распараджэньня стаячага на пасту міліцыянэра, якое дзеяньне павінна быць кваліфікавана арт. 219 Крым. Кодэксу.

Возьмем другі факт.

Міліцыянэр заўважыў на пасту б'ючыхся гр-н і тут- жа прапанаваў парушыўшым грамадзкі парадак ісьці ў міліцыю, але, замест выкананьня распараджэньня стаяўшага на варце міліцыянэра, грамадзяне рашылі пазбавіцца ад гэтай няпрыемнасьці ўцяканьнем, аднак, міліцыянэру ўдаецца аднаго затрымаць, якога ён і накіроўвае ў міліцыю. Затрыманы ўпіраецца, аднак не выражаючы па адрасе міліцыянэра ніякіх пагроз, а толькі даказвае, што, па яго думцы, г. зн. па думцы затрыманага, няма чаго яго цягаць у аддзяленьне міліцыі, „бо мы, ён кажа, пабіліся, мы і памірымся“, і прадаўжае такім чынам упорстваваць у невыкананьні распараджэньня міліцыянэра.

Ці-ж ёсьць у такім выпадку супраціўленьне ўладзе, якое прадугледжвае 2 ч. арт. 86 Крым. Кодэксу?

Па паім глыбокім пераканаmakes, і ў даным выпадку таксама няма гэтага роду злачынства, а ёсьць тое-ж невыкананьне распараджэньняў стаячага на варце міліцыянэра, г. зн. арт. 219 Крым. Кодэксу.

Такіх прыкладаў кожны народны судзьдзя, напэўна, мог-бы з штодзённай практыкі прывесьці дзесяткі і нават болей яскравых фактаў, як, напрыклад, такі: аднаму грамадзяніну прапануецца ісьці ў міліцыю за тое што ў яго дома не аказалася чарніла да складаньня пратаколу за якоесьто парушэньне. Міліцыянэр у адказе гр-на западозрыў наўмыснае ўхіленьне выканаць яго прапанову. Грамадзянін не супярэчачы выканаў патрабаваньне міліцыянэра, але па дарозе здарыўся такі казус. Да міліцыі ёсьць некалькі шляхоў больш блізкія—гразкія і больш далёкія—сухія. Грамадзянін згадзіўся ісьці па больш далёкім, але сухім шляху, а міліцыянэр пажадаў ісьці карацейшым шляхам; тагды гр-н катагарычна заявіў, што лепш пройдзе некалькімі хвілінамі гэты шлях болей, але ня пойдзе па гразі. Здавалася-б, што ў гэтым нічога злачыннага няма, калі прыняць пад увагу, што грамадзянін мог быць бедным, мець падраныя боты і ня мець галёшаў. Такім чынам, грамадзянін дабраўся ў аддзяленьне без міліцыянэра і па прыбыцьці яго быў складзен пратакол у супраціўленьні ўладзе з ўсімі атрыбутамі па 2 ч. арт. 86 Крым. Кодэксу, тагды як у даным выпадку няма насгул складу злачынства, а мелася простае галавацяпства з боку праваднікa рэвалюцыйнай законнасьці.

А між тым у нарсуды ўсё больш і больш паступаюць такога роду справы па тэй-жа кваліфікацыі. Да чаго гэта прыводзіць? А прыводзіць гэта да таго, што надмерна загружаюцца вучасткі народных судоў, а з другога боку,—да непатрэбнага зьнішчэньня паперы, затраты часу, сілы і энэргіі, а галоўнае—да падрыву аўтарытэту органу дазнаньня і часта сьледзкай часьці, бо апошняя складае пастановы аб адданьне пад суд па 2 ч. арт. 86 Крым. Кодэксу паводле п. 3 105 арт. Крым. Пр. Кодэксу.

Прыбываючыя такія справы ад вучастковага сьледчага ў суд праз распарадчае пасяджэньне не прапускаюцца і пагэтаму суду прыходзіцца выносіць па іх амаль заўсёды апраўдальныя прыгаворы.

**В. Уласаў.**

# Па поваду некаторых зьмен у КПК.

У зборніку законаў і загадаў ураду БССР, № 50—27 г., апублікавана пастанова ўраду „аб зьменах і дапаўненьнях у Крымінальна-Працэсуальным Кодэксе БССР“. Сярод гэтых зьмен большасьць такіх, якія маюць сваёй мэтай удасканаліць справу працэсу, спросьціць яе, вызначыць і сурова абмяжаваць выпадкі пазбаўленьня волі ў якасьці меры прасячэньня прыцягваемых да адказнасьці грамадзян і г. д.

З унесеных у КПК зьмен асабліва трэба адзначыць: 1) сваечасовае аб'яднаньне арт. арт. 10 і 11 у адзін артыкул, якім пракуратуры даецца права ўзбуджаць справу па арт. арт, 169 і 169-а КК, незалежна ад скаргі пацярпеўшых, у тых выпадках, калі пракуратура знойдзе гэта патрэбным. Да гэтага часу мы мелі такія зьявішчы, калі згвалтаваньне асоб (асабліва тых, якія знаходзяцца ў залежнасьці ад гвалтаўніка), ня гледзячы на тое, што аб гэтых згвалтаваньнях было вядома органам расьсьледаваньня, але па тых ці іншых прычынах ня было скаргі пацярпеўшай, беспакарана праходзіла для гвалтаўніка; 2) адмену ў якасьці меры прасячэньня маемаснага даручыцельства і закладу (арт. 144 КПК). Раней выходзіла, што заможны грамадзянін, прыцягнуты да адказнасьці (а да такавых у большасьці адносяцца нэпманы і кулакі), нібы меў магчымасьць адкупіцца ад больш суровай меры прасячэньня.

Ёсьць шэраг іншых ноўшастваў, сваечасовых і патрэбных, але на якіх мы спыняцца ня будзем.

На жаль, сярод зьмен у КПК ёсьць гэткія, якія, па нашай думцы, ускладняюць працу і выклікаюць непаразуменьні. Гэта адносіцца да справы затрыманьня органамі дазнаньня і паведамленьня аб прыняцьці імі мераў прасячэньня.

Пры разглядзе арт. арт. 102 і 104 КПК у новай рэдакцыі і арт. 100 і 103 у незьмянёнай рэдакцыі відаць, што згодна гэтых артыкулаў органы дазнаньня маюць права:

1) па справах, па якіх вядзеньне папярэдняга сьледзтва абавязкова, затрымліваць западазроных асоб у парадку і ў выпадках, паказаных у арт. 100 КПК;

2) па справах, па якіх мера сацыяльнай абароны ня можа быць прызначана вышэй 1 году (арт. 105, п. 2 КПК), затрыманьне, згодна арт. 103 КПК, можа мець месца ў тых-жа самых выпадках і ў такім самым парадку, якія паказаны у арт. 100 КПК.

Што-ж датычыцца спраў, па якіх папярэдняе сьледзства не абавязкова, і мера сацыяльнай абароны можа быць прызначана звыш году (п. 3 арт. 105 КПК), дык па дакладным сэнсе арт. 102 КПК (у новай рэдакцыі) па гэтых справах затрымліваць западазроных асоб нельга, а толькі „пасьля допыту западазронага ворганы дазнаньня могуць ужыць да яго адну з паказаных у арт. 144 КПК спыняльных мер“ (па рэдакцыі арт. 102).

Нам здаецца, што законадаўца зусім ня меў на ўвазе тое, каб даць якія-небудзь ільготы западазроным, напрыклад, у злачынстве, прадугледжаным п. п. „в“, „д“ і „е“ арт. 180 КК, перад западазроным у злачынстве па п. „а“ таго-ж самага артыкулу. Але калі прытрымлівацца дакладнага сэнсу арт. 102 КПК (а закон пішацца для таго, каб яго выконваць) і мець на ўвазе арт. 5 КПК, а таксама і арт. 112 КК, дык выходзіць, што

канакрада да таго, як ён будзе дапытан, затрымліваць пад варту нельга, ня гледзячы на тое, што па справе маюцца акалічнасьці, на падставе якіх і згодна арт. 100 КПК гэтага канакрада трэба затрымаць. Але ж добра вядома, што не заўсёды магчыма адразу пасьля таго, як супроць гэтага канакрада зьявілася падазрэньне, дапытаць яго.

Можа быць, што гэта і дробязь, але лепш за ўсе, калі закон, асабліва закон у справе затрыманьня, гаворыць хоць і каратка, але ясна і вельмі зразумела. Пагэтаму мы лічым, што арт. 102 КПК павінен быць зьмянён у тым сэнсе, што згодна яго, як і згодна арт. 103, затрыманьне западазроных асоб можа быць ужыта органамі дазнаньня і да таго, як западазроная асоба будзе дапытана, г. з. у выпадках, паказаных у арт. 100 КПК.

Другое непаразуменьне—гэта аб паведамленьні органамі дазнаньня аб затрыманьні і аб іншых ужытых у адносінах да западазроных мерах прасячэньня.

Паводле арт. 104, у новай рэдакцыі, „аб усіх выпадках затрыманьня западазронага ў злачынстве, аб якім павінна вясьціся папярэдняе сьледзтва (арт. 100 КПК), органы дазнаньня павінны паведамляць сьледчага“. Гэта зразумела. Што-ж датычыцца выпадкаў затрыманьня ў адпаведнасьці з арт. 103 КПК, дык зусім не паказана (значыцца і невядома), каму належыць паведамляць аб затрыманьні. Праўда, у гэтай справе ня выклікалася-б непаразуменьняў, маючы на ўвазе арт. 107 КПК. Але новая рэдакцыя арт. 102 КПК у гэтай частцы ўводзіць у заблутаньне. Згодна гэтага артыкулу „калі пазбаўленьне волі ўжываецца, як спыняльная мера (а па сэнсе арт. інакш. і быць ня можа), то органы дазнаньня павінны... паведаміць суд, якому падсудна даная справа, або нарсудзьдзю, у раёне якога зроблена злачынства. Калі-ж прыняты іншыя спыняльныя меры, то органы дазнаньня павінны паведамляць аб гэтых мерах сьледчага, да вучастку якога яны належаць“. Каротка кажучы, аб арышце паведамляць у суд, аб падпісцы і аб неадлучцы—сьледчаму.

Зусім незразумела, якая мэта гэткага разьмеркаваньня функцый па зацьвярджэньні прынятых органамі дазнаньня мер прасячэньня паміж судом і сьледчым.

Парадак разьмеркаваньня справы зацьверджаньня арышту паміж судом і сьледчым мы маем у новым КПК УССР, але, як відаць з артыкулаў, зьмешчаных у друку (гл. „ЕСЮ, № 2, 28 г.) таксама невядома мэта гэтага разьмеркаваньня.

Па нашай думцы, угрунтаванай практыкай, прыймаючы таксама пад увагу, што, згодна арт. 107 КПК, нагляд за вядзеньнем дазнаньняў па кожнай асобнай справе прыналежыць сьледчаму, а затрыманьне ёсьць адна з стадый вытворства расьсьледаваньня,—зацьвярджэньне ўсіх выпадкаў затрыманьня, вытвараемых органамі дазнаньня, як правіла, павінна прыналежаць сьледчым, тым больш, што і справа па яе сканчаньні пойдзе ў парадку арт. 105, п. 3 да сьледчага, а ня ў суд.

У гэтай справе неабходна адпаведнае тлумачэньне, неабходна зьмена ўстаноўленага парадку, ускладняючага справу.

Цяпер аб новым абавязку, які ўскладаецца на ворган дазнаньня тым самым арт. 102 КПК: гэта паведамляць сьледчага аб прынятых органамі дазнаньня аб іншых, апрача арышту, мерах прасячэньня. Папершае, цікава ўжо адно тое, што чамусьці паведамляць трэба толькі па справах, прадугледжаных п. 3 арт. 105 КПК, а па справах, прадугледжаных арт. 106 і п 2 арт. 105 КПК, значыцца, ня трэба. Гэта зусім незразумелае

для нас мерапрыемства, і мы будзем чакаць адпаведнага тлумачэньня яго. Па нашай думцы, гэты абавязак зусім лішкавы, і ён нічога карыснага для справы ня дасьць—яго трэба адмяніць.

У заключэньне мы хацелі-б спыніцца на тым, што, ня гледзячы на шэраг папярэдніх выступленьняў у друку, застаўся незьмянёным арт. 101 КПК, які даўно трэба зьмяніць у бок пашырэньня праў органаў дазнаньня пры расьследаваньні спраў, па якіх вядзеньне папярэдняга сьледзтва не абавязкова. Так, напр., паводле ўзгаднёнай з НКЮ інструкцыі органам дазнаньня „аб парадку вытворства дазнаньняў“, яны павінны прад'яўляць па гэтых справах абвінавачваньне ў адпаведнасьці з арт. 128 КПК, між тым арт. 101 КПК права прад'яўленьня органам дазнаньня не предастаўлена. Ёсьць шэраг іншых дзеяньняў, якія ў адпаведнасьці з практычнымі патрэбамі ўжываюцца органамі дазнаньня „дэ факто“. Трэба гэта ўзаконіць.

---

**В. Пукальчык.**

# Адзін з спосабаў прапаганды права.

Пытаньне аб прапагандзе Савецкага права сярод працоўных мас, займае значнае месца ў грамадзскай культурнай працы, але практычнае ажыцьцяўленьне гэтага пытаньня яшчэ не знайшло свайго пэўнага шляху, і ў кожным месцы робіцца як папала, па сваім разуменьні. Лепшым спосабам яго прынята лічыць выезд на вёску судовых і іншых працаўнікоў і правядзеньне з насельніцтвам бясед і лекцый па праўных пытаньнях, але, як відаць з практыкі, і гэты спосаб мае шмат сваіх недахопаў, галоўнымі з якіх зьяўляюцца: адсутнасьць сродкаў у судовых працаўнікоў і сяброў калегіі абаронцаў на выезды па раёну; недахоп часу у судовых працаўнікоў для гэтых выездаў, якія патрабуюць затраты шмат часу; няўдалы часта склад аўдыторыі, альбо неадпаведнасьць да яе вызначанай тэмы, і урэшце бываюць такія выпадкі, што па тых ці іншых прычынах слухачы не зьбяруцца, і дорага каштуючая паездка канчаецца ўпустую.

Побач з гэтым, агульна прынятым спосабам, на старонках „Еженедельника Советской Юстиции“ т. Прападзяшчаў рэкамандуе свой новы спосаб,—гэта бяседы па праўных пытаньнях у залі суда ў часе судовых нарад і перапынкаў. Я лічу спосаб гэты надта практычным і ўдобным у нашых бедных фінансавых умовах, і нават прыходзіцца зьдзіўляцца, як да гэтага часу мы да яго не дадумаліся. Сапраўды, калі мы паглядзім, што прадстаўляе з сябе судовая заля ў час перапынку альбо нарады, то ўбачым, што лепшай аўдыторыі для гэтай работы мы ня знойдзем. З аднаго боку, адпаведнае памяшканьне, з другога боку, налічча насельніцтва з усіх куткоў раёну, зьвязанага так ці іначай з працай суда альбо зацікаўленага гэтай працай і наўмысьля сабраўшагася сюды, стварае найлепшую глебу для такой прапаганды, і можна сьмела сказаць, што цікава праведзеная тут бяседа будзе мець шырэйшае распаўсюджваньне сярод мас, чымся такая бяседа у аднэй якой вёсцы, дзе прысутнічае сялянства толькі гэтай вёскі. Абаронец-жа альбо іншы судовы працаўнік, не страціўшы шмат часу, у гэтыя гадзіны для судовай нарады дасьць прысутнічай ў залі суда публіцы цікавыя і патрэбныя веды па савецкім праве і збавіць яе ад скучнага чаканьня прыгавару суда, шуму, зеваты і пустых гутарак.

Што датычыцца тэмы гэтых бясед, то яны могуць быць як наперад абдуманыя, так і выпадковыя, у зьвязку з тымі пытаньнямі, якія разглядаліся ці маюць разглядацца судом, на вочах слухачоў, а далей бяседа можа

перайсьці і на другія тэмы. Посьпех гэтых бясед, вядома, залежыць ад умелага падыходу да працы, падбору цікавага матар'ялу і іншых асаблівасьцяй. Зразумела, што пры такіх бяседах дакладчык можа даваць толькі агульныя тлумачэньні, не прадрашаючы канкрэтна пастановы суда, якая будзе вынесена.

Мне думаецца, што добра пастаўленая такім чынам праца, хоць зусім і не заменіць выезды на вёскі, але больш як на 50 проц. зьменшыць патрэбу ў гэтых выездах і займе значнае месца ў грамадзянскай працы судовых работнікаў і сяброў калегіі абаронцаў, а працоўным дасьць вялікую дапамогу у зьліквідаваньні юрыдычнай няпісьменнасьці.

Спосаб гэты судовымі працаўнікамі і сябрамі калегіі абаронцаў Пухавіцкага раёну на сваім пасяджэньні прызнан жыцьцёвым і мэтазгодным, і правядзеньне яго ў жыцьцё ўжо пачалося, а аб выніках будзем гаварыць пазьней.

Зьмяшчаючы аб гэтым сваю думку, я маю надзею, што і другія судовыя працаўнікі будуць са мною згодны, і гэты просты спосаб прапаганды стане у нас адным з лепшых спосабаў, а калі хто ўбачыць у ім якія недарэчнасьці, то падзеліцца сваімі поглядамі з другімі праз нашу часопісь „Рэвалюцыйная Законнасьць“.

---

**А. Кіпарысаў.**

# Рэвізіі вучастковых пракуратур і сьледапарату, як адзін з мэтадаў кіраваньня апошнімі.

Адным з асноўных і больш жывых мэтадаў кіраваньня вучастковымі пракуратурамі і сьледзкім апаратам, як цэнтральнай пракуратурай, гэтак і мясцамі, павінны быць прызнаны рэвізіі. Асобнае месца павінны заняць цяпер рэвізіі, г. зн. у той момант, калі камуністычнай партыяй перад намі, працаўнікамі пракуратуры і сьледзтва, ува ўсю шырыню пастаўлена пытаньне рацыяналізацыі нашага апарату. Рэвізіі ў нашай рабоце ні ў якім выпадку не павінны разгледжвацца так, як гэта робіцца ў большасьці выпадкаў: рэвізія—значыць ў даным месцы ня зусім добра, значыць павінны быць знойдзены злаўжываньні. Ня гэтую мэту павінны мець нашы рэвізіі. Рэвізуючы, кожны з рэвізораў, канечна, павінен адшукваць недахопы ў рабоце, але ня для таго, каб ставіць гэта рэвізуемаму ў віну (калі, канечна, няма злаўжываньняў), а перш за ўсё для таго, каб, выявіўшы недахопы, выправіць іх і даць адпаведныя ўказаньні для далейшай работы. Апроч таго, пры рэвізіі ўстанаўліваючы тыя ці іншыя дасягненьні ў рабоце, больш-менш удалае прыстасаваньне новых мэтадаў у рабоце, рэвізор не павінен абыходзіць іх, а, наадварот, павінен узяць іх на вучот, каб у далейшым можна было прыстасаваць іх і па іншых вучастках.

Рэвізіі, якія маюць сваёй мэтай, галоўным чынам, жывое інструктаваньне работнікаў нізавой сеткі, павінны праводзіцца ў строга плянавым парадку і ўва ўсякім выпадку ня менш двох раз у год кожнага з вучасткаў. Пры чым да пытаньня пасылкі рэвізораў на месца акрпракуроры павінны адносіцца з асаблівай асьцярогай, г. зн. вылучаць для гэтай работы таварышаў, якія маюць практычны стаж па вопыту самастойнай пракурорскай работы, інакш праведзімыя рэвізіі ня будуць дасягаць пэўнай мэты.

У праведзімых у 1927 г. рэвізіях самімі акруговымі пракуратурамі як асноўны недахоп трэба адзначыць іх павярхоўнасьць і ў той-жа час

адсутнасьць якой-бы та ні было сыстэмы. Рэвізуючыя ў большасьці выпадкаў згрупоўвалі сваю ўвагу, галоўным чынам, на пастаноўцы справаводзтва ў вучастках, зусім не зачэпліваючы асобных галін работы вуч. пракурора, і, вядома, па такіх актах рэвізіі судзіць аб якасьці работы вучастку немагчыма.

Нам у будучым у гэтай рабоце трэба перайсьці да плянавасьці, адхіліўшы абсалютна меўшыся да гэтага часу разнабой.

Рэвізыйная практыка цэнтральнай пракуратуры ўстанавіла наступныя схэмы рэвізій.

## I. Прыкладная схэма рэвізій вучастковых пракуратур.

а) Агульная частка. Беларусізацыя. Як ужываецца яна ў штодзённай службовай працы. Як пастаўлена яна якасна. На якой мове ў большасьці праводзіцца гутарка з наведвальнікамі пракуратуры. Ці поўнасьцю ўжываецца размова з наведвальнікамі на белмове, ці толькі часткова і чаму. Час арганізацыі камэры, калі і кім вытваралася апошняя рэвізія або абсьледваньне, і якія прыняты пам. пракурора меры да адхіленьня заўважаных недахопаў. Ці своечасова і ці поўнасьцю выплачваецца пэнсія. Водпуск крэдытаў на апэрацыйныя выдаткі, недахопы і лічбы, характарызуючыя гэтае.

б) Стан дзелаводзтва. Якія маюцца нарады, кнігі, і вынікі іх прагляду. Стан сэкрэтнай перапіскі і дзе яна хаваецца. Выкананьне даручэньняў акрпракуратуры і цэнтру. Ацэнка агульнага стану справаводзтва. Дзе і як хаваюцца рэчавыя доказы. Паверка іх налічча і апраўдальных дакумэнтаў, якія былі атрыманы пры адпраўцы. Як прадстаўляюцца справаздачы (своечасова ці несвоечасова). Якія і куды за рэвізуемы пэрыод былі прадстаўлены справаздачы. Прагляд і ацэнка справаздач з пункту погляду іх правільнасьці і ахопу работы. Стан вучоту ўсіх галін работы камэры пракуратуры.

в) Узаемаадносіны вучпракурора з кіруючымі органамі. Удзел пам. пракурора ў пасяджэньнях райкомаў і колькасьць яго справаздачных дакладаў на пасяджэньнях апошніх з указаньнем рэзалюцый, вынесеных па іх. Узаемаадносіны пам. пракурора з райвыканкомамі і яго аўтарытэт сярод іх. Удзел пракурора ў пасяджэньнях райвыканкомаў і колькасьць яго інфармацыйных дакладаў на пасяджэньнях апошніх. Ці былі канфліктныя моманты, і якім чынам яны вырашаліся.

г) Палітычная работа. Паверка пляна работы пам. пракурора наогул, паверка вучоту палітработы. Дзе, на якую тэму, з якога ліку рабіліся даклады пам. пракурора (пералічыць усе даклады з указаньнем колькасьці прысутнічаючых грамадзян, а роўна пажадана прылажыць і рэзалюцыі па дакладах). Колькасьць выступаў у друку, калі і на якія тэмы (пералічыць назоў нататак, зьмешчаных у газэтах). Сувязь з хатамі-чытальнямі і ў чым яна выяўляецца. Калі арганізаваны інстытут грамадзкіх абвінавайцаў, як працякала яго інструктаваньне пам. пракурора, і ў чым канкрэтна выразілася яго работа, і колькі было выступаў грамадзкіх абвінавайцаў.

Як працякае работа па ліквідацыі прававой няпісьменнасьці сярод работнікаў міліцыі і вышуку.

У чым выражалася сувязь з рабочымі і сельскімі карэспандэнтамі, і якая сярод іх вялася работа. У чым выражалася сувязь са сьценгазэтамі. Колькасьць выездаў па раёнах і сельсаветах для папулярызацыі „Рэвалюцыйнай Законнасьці“.

д) Работа па агульным наглядзе. У чым заключалася сутнасьць работы (пералічыць усе віды яе). Паверка выданых райвыканкомамі абавязковых пастаноў, праверыць парадак прагляду гэтых пастаноў пам. пракурора. Якія з абавязковых пастаноў апратэставаны і вынікі апратэставаньня.

Колькасьць пасяджэньняў прэзыдыумаў і пленумаў РВК'аў і якая наведваемасьць іх пам. пракурора. Як паступаюць пратаколы пасяджэньняў РВК у камэру пам. пракурора і колькасьць паступіўшых з указаньнем па кожнаму раёну паасобку.

Сьпіс пратэстаў, вынесеных па пастановах РВК і сельсаветаў з вынікамі апратэставаньня. Колькасьць абсьледваньняў РВК і іх аддзелаў (праверыць акты абсьледваньняў).

Як праводзіцца нагляд за адміністрацыйнымі ўзыскамі. У чым выражаецца нагляд за сельсаветамі. Колькасьць абсьледваньняў сельсаветаў і вынікі па іх. Які ёсьць законадаўчы матар'ял пры камэры пам. пракурора, якія выпісваюцца газэты для агульнага нагляду, а роўна і наогул юрыдычная літаратура, і як рэгулярна яны паступаюць. Колькасьць расьсьледаваных газэтных заметак, іх накіраваньне, і як наогул пастаўлен нагляд за расьсьледваньнем газэтных заметак.

Сувязь з рэдакцыямі газэт, у тым ліку сьценгазэт, і як скарыстоўваецца разаблачыцельны матар'ял сьценгазэт.

Колькасьць паступіўшых скарг, падзел іх па характары, і які яны атрымалі рух; як доўга разгледжваюцца скаргі, і ці вядзецца вучот скаржнікаў па клясавым прызнаку.

У чым выяўляўся нагляд за зямельнымі камісіямі. Колькасьць абсьледваньняў зямельных камісій, удзел у іх пасяджэньнях, ці былі выпадкі запатрабаваньня спраў ад зямельных камісій па скаргах грамадзян, і якая колькасьць прынесена пратэстаў (пералічыць усе справы, па якіх прынесены пратэсты з указаньнем вынікаў апратэставаньня).

Як і якім чынам ажыцьцяўляецца нагляд за камісіяй няпоўналетніх правапарушыцеляў.

е) Нагляд за органамі сьледзтва. У чым выражаўся нагляд за работай сьледчых. Колькасьць сьледвучасткаў і якія раёны яны абслугоўваюць. Колькасьць зробленых абсьледаваньняў сьледвучасткаў (праверыць акты абсьледваньня). Якім чынам рабілася інструктаваньне сьледчых; калі толькі шляхам абежнікаў, пералічыць выданыя абежнікі.

Як паступаюць справаздачы ад вучастковых сьледчых і ці падвергаюцца яны прапрацоўцы.

ж) Нагляд за органамі дазнаньня. Якім чынам ажыцьцяўляецца нагляд, колькі вытварана абсьледваньняў раённых міліцый, і як яны вытвараліся.

Які ўдзел прыймае пам. пракурора ў ліквідацыі праўнай няпісьменнасьці органаў міліцыі і вышуку. Якія праводзіліся яшчэ віды інструктаваньня органаў дазнаньня. Ці праводзіліся абсьледваньні пам. пракурора арыштных памяшканьняў пры раённых міліцыях і ці былі замечаны выпадкі незаконных затрымак.

з) Судовая праца пам. прокурора. Колькасьць паступіўшых за рэвізуемы пэрыод сьледзкіх спраў з указаньнем у парадку якіх арт. арт. КПК, а таксама і іх накірунак. Колькасьць перасkладзенных абвінавальных заключэньняў пам. пракурора. Колькасьць запатрабованых у парадку нагляду спраў ад Нарсудоў. Колькі прынесена па запатрабованых справах протэстаў і вынікі апратэставаньня (па крымінальных і цывільных паасобку). Колькасьць выступаў у судох па цывільных у парадку 2 і 12 арт. арт. ГПК і крымінальных. Колькасьць удзелаў пам. пракурора ў распарадчых пасяджэньнях. Як праводзіцца нагляд за выкананьнем прыгавораў.

і) Нарада па барацьбе са злачыннасьцю. Колькасьць адбыўшыхся нарэд за рэвізуемы пэрыод. Якія пытаньні разглядаліся на нарадах (праверыць пратаколы і пералічыць усе разгледжаныя пытаньні з вынесенымі па іх рашэньнямі). Вынікі нарад.

к) Нагляд за месцамі зьняволеньня. Колькасьць арыштных памяшканьняў у вучастку пам. пракурора. У чым выяўляўся нагляд за імі, агульны іх стан, ці былі выпадкі аслабаненьня пам. пракурора зьняволеных у парадку 6 арт. КПК, і як хутка разглядаліся пам. пракурора заявы і скаргі зьняволеных.

## II. Прыкладная схэма рэвізій вучастковых сьледчых.

а) Беларусізацыя сьледвучастку. Як ужываецца яна ў штодзённай рабоце. Як пастаўлена яна якасна. На якой мове ў большасьці праводзяцца размовы з наведвальнікамі сьледвучастку. Ці поўнасьцю пераведзена вядзеньне сьледзтва на беларускую мову, або толькі справаводзтва і перапіска.

б) Водпуск крэдытаў і снабжэньне юрыдычнай літаратурай. Як выплачваецца пэнсія і ці сваечасова. Водпуск крэдытаў на апэрацыйныя выдаткі і матар'яльнае становішча камэры наогул. Якая пры камэры ёсць юрыдычная літаратура і што палучаецца ў сучасны момант.

в) Стан дзелаводства. Якія вядуцца кнігі і нарады і вынікі іх прагляду. Стан сэкрэтнай перапіскі. Ацэнка дзелаводзтва наогул. Дзе і як хаваюцца рэчавыя доказы. Паверка іх налічча і апраўдальных дакумэнтаў, якія былі палучаны пры адпраўленьні рэчавых доказаў.

г) Узаемаадносіны сьледчага з мясцовымі кіруючымі органамі і яго палітработа. Колькасьць справаздачных дакладаў райкомам і РВК'ам. Ці былі выпадкі ўмешацельства мясцовых органаў у работу сьледзтва і ці былі канфліктныя моманты наогул.

Колькасьць зробленых сьледчым дакладаў на шырокіх сходах працоўных на тэмы рэвалюцыйнай законнасьці і яго ўдзел у рабоце партыйных і прафэсыйных арганізацыях.

д) Рух спраў. Лічбовыя даныя аб паступленьні і накіраваньні спраў за рэвізуемы пэрыод. Разьмеркаваньне спраў па роду злачынстваў. Сярэдняе паступленьне і сярэдняе накіраваньне ў месяц у парадку адпаведных арт. арт. КПК. Разьмеркаваньне спраў, маючыхся ў вядзеньні,па частцы прыняцьця іх да свайго справаводзтва.Вынікі прагляду спраў (аб справах з прапушчанымі тэрмінамі неабходна паасобку указаць, калі паступіла, калі прынята да вядзеньня, што сьледчым зроблена па справе, з якога часу справа ляжыць бяз руху і чаму). Вывады і недахопы па прагледжаных сьледзкіх справах. Ці прыстасоўваецца клясавы прынцып пры абраньні мер прасячэньня.

Якая колькасьць за рэвізуемы пэрыод прайшло праз сьледчага асобных трэбаваньняў. Праверыць, ці вядзецца ім дакладны вучот, і як хутка іх выконвае сьледчы.

е) Работа сьледчага па наглядзе за органамі дазнаньня. У чым выражаўся нагляд за органамі дазнаньня. Колькасьць паступіўшых дазнаньняў і іх накіраваньне. Як доўга ляжаць паступіўшыя да сьледчага дазнаньні ў яго на праглядзе. Праверыць спыненыя сьледчым дазнаньні. Узаемаадносіны сьледчага з органамі дазнаньня. Як праводзяцца сьледчым заняткі з органамі міліцыі і вышуку. Ці прыймаў сьледчы ўдзел у раённых нарадах міліцыі і ў чым канкрэтна гэты ўдзел выражаўся. Ці былі выпадкі невыкананьня міліцыяй даручэньняў сьледчага, а таксама і наогул яго законных трэбаваньняў. Як хутка выконваюцца даручэньні сьледчага міліцыяй і вышукам. Ці былі ў сьледчага канфліктныя моманты з міліцыяй, або вышукам. Калі былі, то высьветліць прычыны іх узбуджэньня.

Робячы рэвізіі па указаных схэмах, кожны з рэвізораў павінен памятаць, што галоўнейшай задачай рэвізіі зьяўляецца жывое інструктаваньне рэвізуемага, з прычыны чаго, само па сабе, вытвар рэвізій не павінен быць схаваным ад рэвізуемага, а наадварот, трэба ў працэсе самай рэвізіі знаёміць рэвізуемага з усімі замечанымі ў яго рабоце недахопамі.

Азнаямленьне з недахопамі самаго рэвізуемага у далейшай рабоце дасьць яму магчымасьць больш хутка выправіць свае промахі ў рабоце. Па сканчэньні рэвізіі рэвізорам павінен быць складзен акт, вывады па акце і вычэрпываючыя практычныя прапановы аб адхіленьні замечаных недахопаў. Сам па сабе акт у сваім аб'еме не павінен быць вялікім, бо гэта затрудняе чытаньне яго і робіць яго амаль што недаступным пры штодзённай рабоце, бо сьледчы і вучастковы пракурор вельмі абмяжованы часам з-за перагружанасьці работай. У акце трэба зьмяшчаць самае істотнае, мінуючы зусім лішняй бэлетрыстыкі, што часта наглядалася ў актах акруговых пракуратур.

Практычныя прапановы павінны таксама быць канкрэтны і ў той-жа час у поўнай меры вычэрпываючыя,каб рэвізуемы без асобных цяжкасьцяй пасьля рэвізіі зараз змог прыступіць да выкананьня іх. З вынікамі рэвізіі, а таксама і практычнымі прапановамі рэвізуючы павінен азнаёміць кіруючыя мясцовыя органы, дзе адначасова дагаварыцца па хворых месцах узаемаадносін рэвізуемага з імі, калі, вядома, гэта мела месца.

Па звароце рэвізора ў акруговы цэнтр пажадана было-б зрабіць нараду працаўнікоў пракуратуры акругі з прадстаўнікамі ад акрсуду, на якім заслухоўваць падрабязны даклад рэвізора аб выніках рэвізіі з адначасовым садакладам рэвізуемага. Даная нарада дасьць магчымасьць унесьці адпаведныя выпраўленьні ў рэвізыйную работу рэвізора, больш чотка вывучыць работніка абрэвізаванага, а таксама і больш падрабязна яго праінструктаваць асобамі спэцыялізуючымі ў розных галінах работы пракуратуры, чаго ў працэсе рэвізіі ня зможа зрабіць рэвізор. Копіі акта рэвізіі і практычныя прапановы, бязумоўна, павінны рассылацца па ўсіх астатніх вучастках акругі, бо гэтае будзе служыць абменам вопытаў вучасткаў, а таксама і папярэджаньнем не рабіць памылак, меўшых месца у абрэвізаваным вучастку.

Побач з указанымі нарадамі, пракуратурамі акруг, у якіх групуюцца ўсе рэвізыйныя акты рэвізій сьледчных і пракурорскіх вучасткаў, павінен вясьціся строгі вучот усіх дасягненьняў у сэнсе прыстасаваньня новых мэтадаў у рабоце на вучастках, каб тым самым мець магчымасьць у плянавым парадку праводзіць палепшаньне якасьці работы ўсяго апарату пракуратуры і сьледзтва акругі.

---

# РАСТЛУМАЧЭНЬНІ ПРАКУРАТУРЫ РЭСПУБЛІКІ.

## Аб праве землякарыстальнікаў прадаваць адзіночныя дрэвы, якія знаходзяцца на іх вучастках.

Лясным Кіраўніцтвам НКЗ было выдана растлумачэньне аб тым, што, згодна абежніку НКЗ № 105 (Бюл. 25 г., № 2), адзіночныя дрэвы, што знаходзяцца на плошчы землякарыстальнікаў, могуць быць скарыстаны землякарыстальнікамі ў межах іх патрэб, без права пераўступкі і продажы на старану, і што за гэтым павінны наглядаць сельсаветы.

Лічачы, што гэта растлумачэньне супярэчыць арт. 2 абежніка НКЗ № 105, а таксама і арт. 24 Зям. Код., згодна якога ўсе будынкі, пасевы і расьліны і наогул усё, што зьвязана з вучасткам зямлі, які знаходзіцца ў карыстаньні землякарыстальнікаў, належаць яму, пракуратура рэспублікі прасіла Народны Камісарыят Земляробства адмяніць растлумачэньне Ляснога Кіраўніцтва. Аднак, НКЗ прызнаў гэта растлумачэньне правільным і не падлягаючым адмене.

Пытаньне гэта пракуратурай рэспублікі было перанесена ў Савет Народных Камісараў, які згадзіўся з думкай пракуратуры рэспублікі і пастановай 30/I—1928 году запрапанаваў Народнаму Камісарыяту Землябробства скасаваць паказанае растлумачэньне Ляснога Кіраўніцтва.

## Аб парадку насьледваньня ўкладаў ашчадных кас.

У № 1—2 „Рэвалюцыйнай законнасьці“ быў зьмешчан артыкул аб асобным парадку насьледваньня ўкладаў ашчадных кас, які выклікаўся тым, што па гэтым пытаньні некалькі разоў зьмянялася заканадаўства, а таму пры разьвязаньні спрэчак трэба было ведаць, пры наяўнасьці якога закону быў унесен уклад, а таксама—які закон дзейнічаў у момант сьмерці ўкладчыка.

18/II—28 году пастановай ЦВК і СНК СССР зьменен адпаведны арт. 36 Палажэньня аб дзяржаўных працоўных ашчадных касах, і гэта пастанова ліквідуе ўсе спрэчныя пытаньні. Згодна гэтай пастановы, „укладчыку даецца права паказваць ашчаднай касе ў парадку, які ўстаноўлен Народным Камісарыятам Фінансаў Саюзу ССР, асоб, каторым уклад павінен быць выдан у выпадку сьмерці ўкладчыка. Такімі асобамі могуць быць фізычныя асобы, незалежна ад таго, ці зьяўляюцца яны законнымі насьледнікамі ўкладчыка, а таксама асобы юрыдычныя“.

Гэты артыкул палажэньня аб дзяржаўных ашчадных касах у паказанай рэдакцыі пашыраецца і на зробленыя ўкладчыкамі ад часу адчыненьня дзяржаўных кас ашчаднасьці да выданьня гэтае пастановы паказаньні ашчадным касам аб асобах, якім павінен быць выдан уклад у выпадку сьмерці ўкладчыка (З. З. СССР 28 г., № 12, арт. 104).

Гэткім чынам у сучасны момант пры разьвязаньні спраў трэба кіравацца толькі гэтым законам, незалежна ад часу ўзносу ўкладу і зробленага распараджэньня аб выдачы яго ў выпадку сьмерці.

## Аб арт. 142 К. П. К.

Пры дапасаваньні сьледчымі 142 арт. КПК пракуратура рэспублікі растлумачвае сьледчым мець на ўвазе наступнае:

1. Калі абвінавачваемы ў момант вядзеньня сьледзтва займае тую самую пасаду, па якой ён зрабіў злачынства і яго злачынства знаходзіцца ў сувязі з займаемай ім пасадай, тады сьледчы павінен абавязкова мець меркаваньне аб тым, ці магчыма пакінуць абвінавачваемага на займаемай

ім пасадзе, або ён павінен быць на тэрмін сьледзтва зьнят з пасады.

2. Калі злачынства ня было ў сувязі з займаемай ім пасадай, тады сьледчы таксама павінен мець меркаваньне аб тым, ці магчыма пакінуць абвінавачваемага на займаемай пасадзе, ці гэтае застаўленьне можа дыскрэдытаваць тую ўстанову, у якой абвінавачваемы працуе; у апошнім выпадку сьледчы павінен на тэрмін сьледзтва зьняць абвінавачваемага з пасады.

3. Калі абвінавачваемы ў момант сьледзтва займае іншую пасаду, чым тую, на якой быў у момант злачынства, сьледчы таксама павінен мець меркаваньне аб тым, ці магчыма пакінуць абвінавачваемага на займаемай пасадзе, і ў выніках, калі яго застаўленьне можа дыскрэдытаваць тую установу, у якой ён працуе, або няма забясьпекі, што ён па гэтай пасадзе ня можа зрабіць аднолькавае злачынства,—сьледчы павінен зьняць яго з пасады на тэрмін сьледзтва.

4. У выпадках, калі сьледчы накіроўвае справу ў парадку 211 арт. КПК, тады яго пастанова аб зьняцьці з пасады застаецца ў моцы ўперад да разгляду справы судом.

Калі сьледчы накіроўвае справу на поўнае спыненьне, то адначасова ён павінен адмяніць сваю пастанову аб зьняцьці абвінавачваемага з пасады. У выпадках жа накіраваньня справы для накладаньня дысціплінарнага ўзыску, пытаньне аб зьняцьці з пасады вырашаецца тым органам, які будзе разглядаць дысцыплінарную справу.

---

# Практыка асобнае калегіі вышэйшага кантролю па зямельных справах.

6. Сьвіслацкі раённы выканаўчы камітэт прасіў растлумачыць, як быць у такіх выпадках, калі меншая частка грамадзян тэй ці іншай вёскі адмаўляецца ад выкананьня пастановы агульнага сходу сялян. Напрыклад, у вёсцы 20 двароў пастанавілі перайсьці на шматпольле, а 5 гаспадароў ад гэтага адмаўляюцца. Ці можна іх прыцягнуць за гэта да адказнасьці і ў якім парадку?

Разгледзеўшы гэтае пытаньне 6 студзеня 1928 г., пленум асобнае калегіі вышэйшага кантролю журналам сваім № 33 растлумачыў:

„Калі на сходзе зямельнай грамады прысутнічаў паказаны ў 52 арт. Зям. Код. лік прадстаўнікоў гаспадарак і паўнапраўных членаў, дык прынятая на сходзе простаю большасьцю галасоў пастанова па агульным правіле зьяўляецца абавязковай для нязгодных з пастановаю сходу яго ўдзельнікаў, а таксама і ня быўшых на сходзе членаў грамады. Толькі па пытаньні аб зьмене існуючага ў грамадзе парадку землякарыстаньня (вучастковага, калектыўнага і мяшанага) пастанова грамады не зьяўляецца абавязковай для яе членаў, якія жадаюць застацца пры ранейшым парадку землякарыстаньня, на грунце 87 арт. Зям. Код. Па ўсіх-жа іншых пытаньнях, а ў прыватнасьці пры пераходзе на шматпольле, законная пастанова сходу выконваецца ў адносіне ўсіх членаў грамады з спагнаньнем з іх у бясспрэчным адміністрацыйным парадку належачай за земляўпарадкаваньне платы. Ні да якой другой адказнасьці ня прыцягваюцца члены зямельнай грамады, якія не жадаюць самахоць выканаць абавязковую для іх пастанову сходу“.

Калі-ж яны пасьля выкананьня пастановы сходу дзеяньнямі сваімі парушаюць зямельныя правы другіх членаў грамады, напрыклад, самавольна захопяць іх зямлю, ці зробяць ім шкоду, альбо давядуць да страт, то за гэтыя апошнія дзеяньні нясуць адказнасьць як у крымінальным, так і грамадзянскім парадку.

7. Стаінскі сельскі савет, Кругляноказа раёну, прасіў паведаміць, ці мае ён права ўнесьці ў земляўпарадчы праэкт тыя кавалкі зямлі, якімі да 1927 г. карысталіся паасобныя двары, а ў гэтым годзе кінулі зямлю, папрадавалі свае будынкі і маемасьць і паехалі шукаць сабе зямлі ў другім месцы.

Пленум асобнае калегіі вышэйшага кантролю па гэтым пытаньні ў тым самым журнале даў наступнае тлумачэньне:

„Калі двор у поўным складзе сваіх членаў спыніў вядзеньне сельскае гаспадаркі на быўшай у яго карыстаньні зямлі, прадаў усю маемасьць і выехаў у другое месца, дык адразу-жа прыступіць да разьмеркаваньня пакінутай дваром зямлі сельскі савет можа толькі ў тым выпадку, калі выехаўшым дваром падана ў зямельны орган заява аб адмове ад зямлі. У супрацiўным выпадку сельскі савет павінен на падставе арт. 58 Зям. Код. прад'явіць у зямельнай камісіі іск аб залічэньні ў запасны фонд пакінутай без гаспадарчага скарыстаньня зямлі. Гэты іск прад'яўляецца ў парадку,

вызначаным тл. 8 АКВК па ж. № 30 ад 31 мая 1927 г., і толькі пасьля ўваходу ў законную сілу рашэньня зямельнай камісіі можа быць сельскім саветам у парадку скарочанага земляўпарадкаваньня разьмеркавана кінутая зямля".

8. Крычаўская раённая зямельная камісія прыслала запытаньне, ці мае права жонка ісца аскардзіць пастанову зямельнай камісіі аб падзеле гаспадаркі, каліісьцец задумаў дзяліцца, каб потым узяць развод і не плаціць грошай на ўтрыманьне сваіх дзяцей з прычыны беднасьці гаспадаркі.

Пленум асобнае калегіі вышэйшага Кантролю ў тым-жа пасяджэньні растлумачыў:

„Каліісьцец прад'явіў іск аб падзеле агульнае гаспадаркі ад імя ўсяе свае сям'і, дык жонка яго зьяўляецца ўдзельніцай працэсу, у якім ісьцец выступаў у якасьці прадстаўніка свае сям'і. Жонка ісца, застаўшыся незадаволенаю рашэньнем зямельнае камісіі, можа аскардзіць яго на агульных падставах у якасьці стараны ў справе".

9. Заслаўская раённая зямельная камісія падала наступнае запытаньне:

„Якая сплата павінна рабіцца пры адабраньні лішкаў зямлі ад быўшай гаспадаркі за адышоўшую канюшыну першага году: ці сплата па ацэнцы камісіі толькі за пасеяную канюшыну, ці за насеньне і магчымы ўкос канюшыны, ці першы ўкос бярэцца тым гаспадаром, які яе сеяў. Якая сплата павінна рабіцца за адышоўшую канюшыну другога году, а таксама за іншыя многалетнія расьліны?.

Разгледзеўшы гэтае пытаньне 22 лютага 1928 г., пленум асобае калегіі вышэйшага кантролю журналам сваім № 34 растлумачыў:

„Калі пры адабраньні лішкаў зямлі ад буйных гаспадарак адойдзе да новай гаспадаркі нескарыстаны ўкос канюшыны першага году, то ранейшы землякарыстальнік мае права скасіць першы год усю канюшыну, а за іншыя гады ніякай сплаты ён не атрымлівае.

Калі-ж адыходзіць зямля, засеяная лубінам, то ранейшай гаспадарцы павінна быць выплачана новым землякарыстальнікам за нескарыстаныя выдаткі. Разьмер, тэрмін і парадак гэтай сплаты вызначаюцца ў земляўпарадчым праэкце на падставе арт. 173 Зям. Код."

10. Крычаўская раённая зямельная камісія прасіла растлумачыць, як паступіць у тых выпадках, калі грамадзяне розных вёсак жадаюць замяніць цалкам свае гаспадаркі з будынкамі на глебе радзтва і што трэба разумець пад зямельнымі вучасткамі, якімі можна мяняцца: ці цэлыя гаспадаркі, ці толькі асобныя палоскі, з якіх складаюцца гэтыя гаспадаркі.

У тым-жа пасяджэньні пленум асобнае калегіі вышэйшага кантролю даў наступны адказ:

„На падставе арт. 26 Зям. Код. забараняецца ўсякая пераўступка зямлі, апроч арэнды і мены з дазволу зямельных органаў. Каб ня даць магчымасьці прыкрыць продаж ці дарэньне зямлі менаю, апошняя дазваляецца толькі ў інтарэсах скасаваньня праспалосіцы, дальназямельля і іншых недахопаў землякарыстаньня. Значыць, мена зямлі толькі на глебе радзтва не павінна дазваляцца.

Пад сказам „зямельныя вучасткі" можна разумець як паасобныя палоскі, так і цэлыя гаспадаркі. Калі такою менаю можна зьнішчыць недахопы землякарыстаньня, напрыклад, дзеля ўтварэньня сельска-гаспадарчага калектыву могуць мяняцца целымі гаспадаркамі нясумежныя землякарыстальнікі".

11. Віцебская акруговая зямельная камісія прыслала пытаньне, калі наступае канчатковы момант паверкі і выпраўленьня пасямейных сьпіскаў па земляўпарадчых справах, пасьля якога ўсе зьмены ў складзе двара, як-то: нараджэньне, сьмерць, шлюб і прыняцьце, не павінны брацца пад увагу.

Пытаньне гэтае пленум асобнае калегіі вышэйшага кантролю растлумачыў так:

„На падставе арт. 169 Зям. Код. да тае пары, пакуль ня будзе падпісан пратакол прад'яўленьня праэкту, земляўпарадчык павінен уносіць у праэкт згодна пажаданьняў бакоў мэтазгодныя зьмены і выпраўленьні. Зьмены, якія ўносяцца ў пасямейныя сьпіскі з прычыны шлюбу сьмерці, прымацтва і г. д., у сваю чаргу мяняюць зямельныя правы, а гэта адбіваецца на цэлым праэкце. Калі трэба было-б уносіць такія зьмены пры прад'яўленьні праэкту, дык гэта вельмі шкодна адбівалася-б на ходзе земляўпарадкаваньня, бо прыходзілася-б бясконца папраўляць праэкт. Пагэтаму канчатковым момантам паверкі і ўнясеньня зьмен у пасямейныя сьпіскі вызначаецца час пасьля расцэнкі зямель і перад складаньнем праэкту. У гэты час павінен быць склікан агульны сход усіх грамадзян з удзелам прадстаўнікоў раённага выканаўчага камітэту і сельскага савету. На сходзе канчаткова зацьвярджаецца пасямейны сьпісак"

# Агляд важнейшых актаў савецкага заканадаўства за час ад 1 сьнежня 1927 г. да 1 студзеня 1928 г.

## А. Пастановы ўраду СССР.

### I. Праца.

1. Пастановай ЦВК і СНК СССР за 23 лістапада 1927 году аб зьмене ўвагі да артыкулу 5 палажэньня аб забесьпячэньні ў парадку сацыяльнага страхаваньня інвалідаў працы і членаў сем'яў памершых ці невядома дзе адсутнічаючых застрахаваных і інвалідаў працы („Изв. ЦИК“ № 276—2/XII 1927 г.). Галоўным упраўленьням сацыяльнага страхаваньня народных камісарыятаў працы саюзных рэспублік даецца права назначаць у паасобных выпадках, у залежнасьці ад акалічнасьцяй справы, забесьпячэньне інвалідам працы і сем'ям, страціўшым кармільца, якія па паважных прычынах прапусьцілі ўстаноўлены законам тэрмін падачы заяў аб назначэньні пэнсіі.

### II. Фінансы.

2. Пастановай ЦВК і СНК СССР за 21 сьнежня 1927 году аб перайначаньні палажэньня аб падатку са звароту каштоўнасьцяй („Изв. ЦИК“. № 294—23/XII 1927 г.) устаноўлены разьмер падатку са звароту каштоўнасьцяй у 0,7 проц., апрача выключэньняў, паказаных у палажэньні, між іншымі: з гандлёвых прадпрыемстваў, якія праводзяць пераважна раздробны гандаль, і з прамысловых прадпрыемстваў, якія выбіраюць патэнты першых трох разрадаў, спаганяецца 0,4 проц. са звароту; з каапэрацыйных арганізацый спаганяецца па раздробных апэрацыях—0,2 проц., па агульных—0,4 проц; са звароту прадпрыемстваў па камісійных апэрацыях—2 проц. і г. д.

3. Пастановай ЦВК і СНК за 14 сьнежня 1927 г. аб дапаўненьні палажэньня аб прыбытковым падатку з дзяржаўных прадпрыемстваў, каапэрацыйных арганізацый і акцыйных (паявых) таварыстваў з удзелам дзяржаўнага і каапэрацыйнага капіталу дадаткам, у якім зьмяшчаецца пералік вынятkaў і ільгот па менаваным падатку („Изв. ЦИК“, № 294—23/XII 1927 г.) вызвалены ад прыбытковага падатку шэраг дзяржаўных прадпрыемстваў, банкаў, каапэрацыйных арганізацый, выдавецтваў, калектываў беспрацоўных і інш. Народным Камісарыятам Фінансаў СССР і саюзных рэспублік даецца права даваць паасобным платнікам ільготы ў відзе зьмяншэньня прыбытковага падатку ці вызваленьня ад яго.

4. Пастановай ЦВК і СНК за 14 сьнежня 1927 году аб ажыцьцяўленьні палажэньня аб дзяржаўным прыбытковым падатку ў новай рэдакцыі („Изв. ЦИК“ № 298—29/XII 1927 г.) уведзена новае палажэньне аб дзяржаўным падатку з фізычных асоб, акцыйных таварыстваў з абмежаванай адказнасьцю і таварыстваў узаемнага крэдыту на скасаваньне ранейшага палажэньня 24 верасьня 1926 году. З прычыны таго, што новы закон спэцыяльна датыкаецца абкладаньня рабочых і служачых і мае для іх вялікае значэньне, аб гэтым законе зьмяшчаецца паасобны артыкул.

5. Пастановай ЦВК і СНК за 14 сьнежня 1927 году зацьверджаны сьпіс вынятkaў ільгот па дзяржаўным прамысловым падатку („Изв. ЦИК“ №№ 299 і 300—30/XII і 31/XII 1927 году), якім даюцца ільготы ў відзе зьмяншэньня прамысловага падатку ці вызваленьня ад яго дзяржаўным прадпрыемствам, каапэрацыйным арганізацыям, саматужнікам, рамесьнікам, млыном, сельскім гаспадаркам, дробным гандляром і інш. Апроч таго, Народным Камісарыятам Фінансаў СССР і саюзных рэспублік дана права даваць ільготы ў відзе зьмяншэньня прамысловага падатку ці вызваленьня ад яго паасобным платнікам.

### III. Каапэрацыя.

6. Паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 23 лістапада 1927 году аб зьмене артыкулу 7 пастановы ЦВК і СНК СССР за 20 мая 1924 году аб спажывецкай каапэрацыі („Изв. ЦИК“ № 276—2/XII—1927 году) найвышэйшы разьмер узносаў у спажывецкія таварыствы назначаецца—уступны 50 кап. і паявы да 10 рублёў у гарадох і фабрычна-заводзкіх раёнах і да 7 рублёў у сельскіх мясцовасьцях. Перавышэньне паказаных разьмераў паявых узносаў дапушчаецца ў відзе выключэньня толькі з дазволу цэнтраў спажывецкай каапэрацыі саюзных рэспублік і, апроч таго, у гарадох і фабрычна-заводзкіх раёнах—са згоды адпаведных прафэсыянальных арганізацый, а ў сельскіх мясцовасьцях—са згоды акруговых, павятовых і іншых адпаведных выканаўчых камітэтаў.

## Б. Пастановы ўраду БССР.

### I. Праца.

1. Пастановай ЦВК і СНК за 14 сьнежня 1927 году аб захадах да палепшаньня быту і службы работнікаў рабоча-сялянскае міліцыі („Сав Белар.“ № 284—15/XII 1927 г.) у дзень дзесяцігодзьдзя рабоча-сялянскай міліцыі ўстаноўлена для работнікаў міліцыі пэрыодычная надбаўка за выслугу год да асноўнага акладу. Акруговым выканаўчым камітэтам запрапанована ажыцьцявіць на працягу бліжэйшага году дзяржаўнае страхаваньне працаўнікоў страявога складу міліцыі і крымінальнага вышуку і распрацаваць захады да палепшаньня жыльлёвых умоў працаўнікоў міліцыі і крымінальнага вышуку.

2. Пастановай СНК за 13 сьнежня 1927 г. пра льготы работнікам міліцыі („Сав. Бел.“ № 284—15/XII 1927 г.) работнікам міліцыі дадзены шэраг льгот у галіне працоўнага землякарыстаньня і сельскае гаспадаркі, а таксама іх дзецям у галіне сацыяльнага выхаваньня нараўне з вайскоўцамі.

3. Пастановай СНК за 13 сьнежня 1927 г. аб дачы асобам начальніцкага складу рабоча-сялянскае чырвонае арміі пераваг пры скарачэньні штатаў дзяржаўных, каапэрацыйных і грамадзкіх установаў і прадпрыемстваў („Сав. Белар.“ № 292—24/XII 1927 году) прапануецца ўсім дзяржаўным, каапэрацыйным і грамадзкім установам і прадпрыемствам пры скарачэньні штатаў пакідаць на службе асоб начальніцкага складу РСЧА пераважна пры іншых роўных умовах перад іншымі катэгорыямі рабочых і служачых, пры чым служба іх у РСЧА залічаецца ў іх працоўны стаж.

### II. Землякарыстаньне.

Пастановай СНК за 24 сьнежня 1927 г. аб звальненьні бядняцкіх і калектыўных гаспадарак ад судовых пошлін і канцэлярскага збору пры спрэчках аб справе карыстаньня зямлёю („Сав. Бел.“ № 296 30/XII 1927 г. (справы бядняцкіх і калектыўных гаспадарак у зямельных камісіях па спрэчках аб праве карыстаньня зямлёю звальняюцца ад судовых пошлін і канцэлярскага збору.

### III. Камунальная гаспадарка.

5. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 8 сьнежня 1927 году пра зьмену ўвагі да артыкулу 1 пастановы ЦВК і СНК за 1 лютага 1925 г. аб перадачы пад загад камунальных аддзелаў часткі жылое плошчы немуніцыпалізаваных будынкаў („Сав. Бел.“ № 287—18/XII 1927 г.) права выканкомаў выдзяляць з немуніцыпалізаваных будынкаў да 30 проц. у жыльлёвы фонд мясцовых камунаддзелаў не пашыраецца на дамы або часткі дамоў, пабудаваныя рабочаю ці агульна-грамадзянскаю жылішчна-будаўнічаю каапэрацыяй, і на дамы або часткі дамоў, пабудаваныя на праве забудоўкі.

### IV. Адміністрацыйнае права.

6. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 6 сьнежня 1927 году пра камісіі для вызначэньня ўзросту па надворным выглядзе („Сав. Белар.“ № 287—18/XII—1927 г.) гэтыя камісіі арганізуюцца пры гарадзкіх саветах і раённых выканаўчых камітэтах для вызначэньня ўзросту па выглядзе ў выпадках, калі ад узросту грамадзяніна залежаць яго грамадзянскія ці палітычныя правы альбо адносіна да выканаваньня дзяржаўных павіннасьцяй, а ўзрост ня можа быць устаноўлены мэтрычнымі кнігамі, рэестрамі органаў запісу актаў грамадзянскага стану ці іншымі верагоднымі дакумэнтамі.

---

# Агляд важнейшых актаў савецкага законадаўства за час ад 1 студзеня да 1 лютага 1928 г.

## А. Пастановы ўраду СССР.

### I. Праца.

1) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 9 сьнежня 1927 году зацьверджана часовае палажэньне пра дапамогі, выдаваемыя органамі сацыяльнага страхаваньня („Изв. ЦИК“ № 20—24/I—28г.). Дапамога па сацыяльным страхаваньні выдаецца ў выпадку часовай непрацаздольнасьці, нараджэньня дзіцяці, сьмерці і беспрацоўя. Дапамога па часовай непрацаздольнасьці выдаецца ў разьмер поўнага заработку. Дапамога па цяжарнасьці і родах выдаецца жанчынам пры наяўнасьці ў іх 6-месячнага стажу работы па найму. Дапамога на пахаваньне выдаецца ў выпадку сьмерці самаго работніка або членаў яго сям'і, якія знаходзяцца на яго ўтрыманьні. Дапамога па беспрацоўю выдаецца толькі беспрацоўным, якія працавалі раней па найму.

### II. Фінансы і крэдыт.

2) Згодна пастановы ЦВК і СНК СССР за 31 сьнежня 1927 г. пра выпуск дзяржўанае ўнутранае выйгрышнае пазыкі ўмацненьня сялянскае гаспадаркі („Изв. ЦИК“ № 1—1/I—28 г.) для мэты ўмацненьня сродкаў дзяржавы, якія зварочваюцца на ўмацненьне і развіцьцё сялянскае гаспадаркі, выпушчаецца ўнутраная выйгрышная пазыка на суму ў сто міліёнаў рублёў у аблігацыях вартасьцю ў 10 рублёў, з падзяленьнем апошніх на 4 часткі ў 2 р. 50 к. кожная. Пазыка выпушчаецца тэрмінам на 3 гады ад 1/II—1928 г. да 1/II—1931 г. Па аблігацыях налічваецца 6% гадавых і ўтвараецца 6 тыражоў выйгрышаў—ўсяго за 3 гады 332.640 выйгрышаў на суму ў 21.000.000 р. Аблігацыі пазыкі, прыбытак з іх і выйгрышы вызваляюцца ад усіх падаткаў і збораў і карыстаюцца ўсімі ільготамі нараўне з іншымі пазыкамі.

3) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 28 сьнежня 1927 г. пра прыймо ў заставу па дагаворах дзяржаўных падрадаў і паставак сэртыфікатаў і ўкладных дакумэнтаў дзяржаўных і працоўных кас ашчаднасьці („Изв. ЦИК № 11—13/I—28 г.) сэртыфікаты дзяржаўных і працоўных кас ашчаднасьці і ўкладныя дакумэнты гэтых кас як па грашовых

укладах, гэтак і па ўкладах на хаваньне аблігацый дзяржаўных пазык СССР, уключаны ў лік прадметаў заставы па дагаворах дзяржаўных падрадаў і паставак.

### III. Адміністрацыйнае права.

4) Паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 4 студзеня 1928 г. пра абмежаваньне накладаньня штрафаў у адміністрацыйным парадку („Изв. ЦИК“ № 13—15/I—28 г.), накладаньне штрафаў у адміністрацыйным парадку дапушчаецца, калі яны ўстаноўлены законам або інструкцыямі і абавязковымі пастановамі ведамстваў і мясцовых саветаў. Разьмеры штрафаў могуць быць устаноўлены да 100 руб.: краявымі. губэрскімі і акруговымі выканаўчымі камітэтамі ў гарадзкіх паселішчах да 100 руб. і ў сельскіх мясцовасьцях да 10 р.; павятовымі і адпаведнымі ім выканкомамі ў гарадзкіх паселішчах да 50 р. і ў сельскіх мясцовасьцях да 5 р.; раённымі і валаснымі выканкомамі да 3 руб.; гарадзкімі саветамі краявых, губэрскіх і акруговых гарадоў—да 100 р., павятовых гарадоў і беспавятовых гарадоў з насельніцтвам больш 5000 чалавек—да 50 руб., з насельніцтвам менш 5000 чалавек—да 10 руб.

## Б. Пастановы ўраду БССР.

### I. Савецкае будаўніцтва

1) Пастанова прэзыдыуму ЦВК за 30 сьнежня 1927 г. аб адкліканьні выбаршчыкамі з саветаў выбраных імі дэпутатаў („Сав. Бел.“ № 18—21/I—28 г.) дае права выбаршчыкам адклізаць з саветаў выбраных імі дэпутатаў у выпадку невыкананьня імі наказу выбаршчыкаў, адмовы ад выкананьня даручэньняў савету, сыстэматычнага ненаведваньня пасяджэньняў савету або недапушчальнага для члена савету паводзеньня.

### II. Праца.

2) Паводле пастановы СНК за 4 студзеня 1928 г. пра парадак прыёму ў школы літаратараў, мастакоў, скульптароў і іх дзяцей, а таксама дзяцей навуковых працаўнікоў навуковых установаў і вышэйшых школ („Сав. Бел.“ № 6—7/I—28 г.), літаратары, для якіх літаратурны заробак зьяўляецца асноўнай крыніцай прыбыткаў, мастакі і скульптары пры прыёме ва ўсе школы карыстаюцца аднолькавымі правамі з рабочымі, а іх дзеці, а таксама дзеці навуковых працаўнікоў навуковых установаў і вышэйшых школ—з дзецьмі рабочых.

3) Паводле пастановы ЦВК і СНК за 30 сьнежня 1927 г. пра зьмену артыкулу 82 Кодэксу Законаў аб працы („Сав. Бел“ № 10—12/I—7928 г.) пры пераводзе рабочага альбо служачага наймальнік павінен выдаць яму кампэнсацыі, прадугледжаныя пастановаю ЦВК і СНК за 9/XI—1927 года аб кампэнсацыях пры пераводах і пры найме на работу ў іншыя мясцовасьці. Пры пераводзе рабочага ці служачага па яго просьбе або пры найме яго на працу ў іншыя мясцовасьці прадугледжаныя паказанаю вышэй пастановаю кампэнсацыі не выдаюцца, але па згодзе наймальніка з рабочымі або служачымі ім могуць аплачвацца цалкам або часткова фактычныя выдаткі на переезд і на перавозку хатняе маемасьці.

### III. Фінансы.

4) Паводле пастановы ЦВК і СНК за 14 студзеня 1927 г. аб самаабкладаньні насельніцтва („Сав. Бел.“ № 14—17/I—1928 г.) для здаваленьня мясцовых гаспадарчых, культурна-асьветных, санітарных і добрабытных патрэб сельскага насельніцтва, якія пералічаны ў гэтай пастанове, можа ўстанаўляцца самаабкладаньне, абавязковае для ўсіх грамадзян данага паселішча. Самаабкладаньне на патрэбы адміністрацыйнага характару забараняецца. Агульны разьмер самаабкладаньня ня можа перавышаць 35 проц. агульнай сумы сельска-гаспадарчага падатку за даны год. Самаабкладаньне дазваляецца ў грашовай і ў натуральнай форме, а таксама працоўным удзелам. Пытаньні аб устанаўленьні самаабкладаньня вырашаюцца на агульным сходзе грамадзян данага паселішча. Самаабкладаньне насельніцтва на грамадзянскія патрэбы, не прадугледжаныя гэтай пастановай, дазваляецца толькі на асновах дабравольнай згоды грамадзян; у гэтым выпад у пастановы зьяўляюцца не абавязковымі для асоб, якія ня бралі ўдзелу на сходах, а таксама для асоб, якія ўстрымаліся ад галасаваньня або галасавалі супроць прыняцьця пастановы.

### IV. Камунальная гаспадарка.

5) Паводле пастановы ЦВК і СНК за 19 студзеня 1928 г. пра зьмену артыкулу 5 пастановы аб прымусовым пацясьненьні ў дамох („Сав. Бел.“ № 21—25/I—28 г.) у дамох, на якія заключаны дагаворы аб праве забудоўкі, а таксама ў дамох, належачых на праве ўласнасьці рабочым ці агульна-грамадзянскім жылішчна-каапэрацыйным таварыствам, не дазваляецца ніякае прымусовае пацясьненьне.

### V. Судаводзтва.

6) Пастановай ЦВК і СНК за 30 сьнежня 1924 г, пра працяг да 1 студзеня 1929 г. паўнамоцтваў народных засядацеляў, выбраных на 1927 год („Сав. Бел.“ № 9—11/I—28 г.) тэрмін паўнамоцтваў народных засядацеляў, выбраных на 1927 г., працягнут да 1 студзеня 1929 г.

# ХРОНІКА.

## Законадаўчая хроніка.

На працягу апошняга часу Народным Камісарыятам Юстыцыі распрацаваны цэлы шэраг наступных законапраэктаў, якія накіраваны ў камісію законадаўчых праэктаў і частка з іх ужо разгледжана:

**І. Аб зацьверджаньні Палаженьня аб парадку дысцыплінарнай адказнасьці.**

**ІІ. Аб зьменах у Крымінальным і Крымінальна-Працэсуальным Кодэксах і Палаженьні аб судабудаўніцтве ў сувязі з ліквідацыяй дысцыплінарных судоў.**

Гэтыя праэкты распрацаваны на тэй падставе, што пастановаю прэзыдыуму ЦВК БССР ад 9 лютага г.г. дысцыплінарныя суды ліквідаваны, і справы гэтых судоў падлягаюць перадачы ў агульныя судовыя ўстановы. Даная пастанова датычыцца дысцыплінарных судоў наогул, а таму падлягаюць ліквідацыі ня толькі суды, дзейнічаючыя на падставе пастановы III сесіі ЦВК БССР VI скліканьня ад 3 лістапада 1925 году, але таксама і дысцыплінарныя калегіі агульных судовых установ. Аднак, парадак дысцыплінарнай адказнасьці ў парадку падлегласьці, прадугледжаны цяпер Палажэньнем ад 10 ліпеня 1925 году (З. З. 1925 г., № 32, арт. 295), законам 9 лютага 1928 году не скасован. У адпаведнасьці з гэтымі прынцыпамі і распрацаваны прапануемыя законапраэкты. Першы законапраэкт адмяняе чынны закон ад 10 ліпеня 1925 году „аб дысцыплінарным пакараньні службовых асоб дзяржаўных і прыроўненых да іх установ і прадпрыемстваў“ (З.З. 1925 г., № 32, арт. 295) і істотна адрозьніваецца ад яго наступным:

1) дысцыплінарнай адказнасьці ў парадку Палаженьня, якое ў даным праэкце прапануецца, падлягаюць усе службовыя асобы ўсіх дзяржаўных, грамадзкіх і каапэрацыйных устаноў і прадпрыемств. бяз тых абмежаваньняў, якія прадугледжаны ў чынным законе 10 ліпеня 1925 году; у парадку гэтага-ж Палажэньня адказваюць і члены калегіі абаронцаў; 2) у праэкце дакладна паказана, што даны парадак дысцыплінарнай адказнасьці ўжываецца ў тых выпадках, калі асобы і органы, маючыя права накладаньня дысцыплінарных пакараньняў, або органы судова-сьледзкія, пракурорскага нагляду і рабоча-сялянскай інспэкцыі не палічаць неабходным перадачу справы ў суд; 3) права накладаньня дысцыплінарных пакараньняў маюць толькі асобы і органы, ад якіх залежыць назначэньне або абраньне на даную пасаду, або зацьверджаньне ў ёй, і ўсе вышэйстаячыя асобы і органы, што больш забясьпечвае правы працаўнікоў, чым пры існуючым парадку; 4) дапушчаецца абскарджаньне распараджэньняў аб накладаньні дысцыплінарных пакараньняў; пры ўжываньні ўякасьці меры дысцыплінарнага ўплыву перамяшчэньня на іншую пасаду і звальненьня з пасады не патрабуецца згода РКК або прафсаюзнай арганізацыі, бо прапануемы парадак больш адпавядае самай сутнасьці дысцыплінарнай адказнасьці.

Другі законапраэкт уносіць зьмены:

1) у Крымінальны Кодэкс: у адпаведнасьці з тым, што за ўчынкі, якія падлягалі разгляду дысцыплінарных судоў, законам 9 лютага 1928 году ўстанаўляецца адказнасьць у крымінальным парадку, ў артыкулы 21 і 22 чыннага КК, запісаныя ў праэкце згодна з рэдакцыяй арт. 10 асноў крымінальнага законадаўства, уведзен гэтавы тэрмін даўнасьці для гэтых учынкаў, і зьменены арт. 105, увага да яго і артыкул 118 КК з паказаньнем мер сацыяльнай абароны за гэтыя-ж учынкі, прычым даныя артыкулы дапоўнены ўвагамі ў адпаведнасьці з правілам, якое паказана вышэй, адносна выпадкаў ужываньня парадку дысцыплінарнай адказнасьці; тым самым уносяцца зьмены таксама ў арт арт. 106—109 і 117 КК, у якіх маюцца адноскі на арт. 105 КК;

2) у Крымінальна-Працэсуальны Кодэкс: у сувязі з устанаўленьнем адказнасьці ў крымінальным парадку за ўчынкі, паказаныя вышэй ў п. 1, дапаўненьнем да п. „в“ арт. 26 КПК уводзіцца падсуднасьць спраў аб гэтых учынках акруговаму суду ў выпадках, калі гэтакія ўчынкі зроблены адказнымі службовымі асобамі, за выключэньнем асоб, паказаных у п п. 2 і 3 арт. 449 КПК, падсудных Вярхоўнаму Суду, прычым у пералік асоб, падсудных Вярхоўному Суду, па п. 2 арт. 449, уключаны члены Эканомнарады і іншыя адказныя службовыя асобы, цэнтральных дзяржаўных устаноў ня ніжэй загадчыкаў аддзелаў, а ў п. 3 таго-ж артыкулу 449 паказаны агулам члены акрвыканкомаў, але ня толькі члены прэзыдыумаў іх;

3) у Палажэньне аб судабудаўніцтве: у сувязі з ліквідацыяй дысцыплінарных калегій і ўстанаўленьнем аднаго агульнага для ўсіх службовых асоб парадку дысцыплінарнай адказнасьці зьмяняюцца п „б“ арт. 40, п. „е“ арт. 42 і п. „е“ арт. 57 і выключаюцца п. „в“ арт. 33, п. „б“ арт. 42, арт. 46, п. „г“ арт. 52, п. „і“ арт. 57, арт. 60, п. „г“ арт. 90, арт.арт. 104, 106—118.

### III. Аб зьмене ўвагі да арт. 82, а таксама арт.арт. 189, 243, 244 і 311 Грам.-Прац. Кодэксу.

Гэты законапраэкт распрацован у зьвязку з пастановай ЦКВ і СНК СССР ад 22 лютага г.г., згодна якому патрабаваньні крэдытных устаноў, выцякаючыя з банкавых апэрацый, пастаўлены ў прывілейнае становішча пры спагнаньні іх у судовым парадку. Так, па ўсіх гэтых патрабаваньнях ужываецца спагнаньне ў парадку судовага загаду, нават і з дзяржаўных устаноў і дзяржаўных прадпрыемстваў, дазваляецца ўва ўсіх выпадках забясьпечваць такія іскі і накіроўваць рашэньні да неакладнага выкананьня.

У адпаведнасьці з гэтым і распрацаваны зьмены ў арт. арт. 82, 189, 243, 244, і 311 ГПК.

### IV. Аб унясеньні дапаўненьняў і зьмен ў Крым. Код. БССР.

Паводле гэтага законапраэкту ў Крым. Кодэкс БССР уносяцца новыя артыкулы: 1) арт. 81-е—паводле арт. арт. 9 і 11 пастановы ЦВК і СНК СССР за 27 ліпеня 1927 г. „о введении в действие Положения о воинских преступлениях, (З.З. СССР 1927 г. № 50, арт. 504); 2) арт. 97-б і 141-б—згодна з пастановаю СНК СССР за 2 лютаго 1926 году „об ограничении промысла морских котиков и морских бобров“ (З.З. СССР 1926 г., № 24, арт. 154); 3) арт. 104-г—паводле арт. 3 пастановы ЦВК і СНК СССР за 8 лютага 1928 году „о введении в действие положения об обществах взаимного кредита“ („Известия ЦИК“ за 19 лютага 1928 г., № 43); 4) арт. 141-в—у адпаведнасьці з палаженьнем аб мерах і вагах за 6 червеня 1924 году („Вестник Правительства“ СССР 1924 г., № 6).

Апроч паказаных дапаўненьняў КК у даным праэкце прапануецца зьмена ўвагі да арт. 105 КК: у адпаведнасьці з сучаснай роляй каапэрацыі і грамадзкіх арганізацый у гаспадарчым і палітычным жыцьці дзяржавы ўводзіцца больш шырокае паняцьце службовай асобы. Пры гэтакай рэдакцыі ўвагі да арт. 105 КК службовымі асобамі павінны будуць лічыцца, між іншымі, таксама асобы, паказаныя ў арт. 3 пастановы ЦВК і СНК СССР за 3 лютага 1928 году „о введении в действие положения об обществах взаимного кредита“, г. зн. асобы, якія займаюць пасады па выбарах у таварыствах узаемнага крэдыту.

### V. Аб зьменах і дапаўненьнях Грам. Прац. Кодэксу БССР.

Гэты законапраэкт распрацован па прапанове НК РСІ СССР па пытаньні аб рацыяналізацыі ў органах суду і заключаецца ў наступным:

I. У мэтах удасканаленьня „асноўных палажэньньяў“ ГПК БССР праэктуецца зьмяніць рэдакцыю арт. арт. 3, 4, 7, 8, 10 і 11.

Зьмена арт. 3 носіць рэдакцыйны характар і праэктуецца для ўзгадненьня з пастановамі Канстытуцыяў СССР і БССР.

Арт. 4 дапаўняецца паказаньнем аб тым, што суд ня мае права адмовіцца ад выясьненьня рашэньня па справе з прычыны якіх-небудзь недахопаў закону, непаўнаты або супярэчнасьці.

Арт. 7 дапоўнены правіламі аб тым, якімі законамі вызначаецца форма зьдзелак, якія заключаны за межамі БССР. У аснову прынята агульна прынятае палажэньне аб тым, што форма зьдзелак і актаў вызначаецца на падставе законаў тэй краіны, ў якой зьдзелка ці акт былі ўчынены. Але, прымаючы пад увагу, што ў практыцы сустракаюцца выпадкі, калі пры ўчыненьні зьдзелкі ці акта ня былі захованы законы краіны па месцы ўчыненьня, і што тым ня менш форма такіх зьдзелак ці актаў не супярэчыць законам БССР, законапраэкт прызнае зьдзелку ў такіх выпадках сапраўднай.

Арт. 8 зьмяняецца ў тым сэнсе, што суды ня могуць беспасрэдна зносіцца з Народным Камісарыятам Замежных Спраў, а могуць атрымаць паказаньні па ўжываньні законаў замежных краін толькі ад Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР, які, калі гэта патрэбна, зносіцца з Народным Камісарыятам Замежных Спраў СССР.

Арт. 10 дапаўняецца правіламі аб тым што: а) грамадзянскі іск аб стратах, зробленых злачынствам, можа быць разьвязан толькі пасьля таго, як крымінальная справа аб злачынстве скончана або спынена; б) такі грамадзянскі іск можа быць здавольнены і ў тым выпадку, калі падсудны прызнаны крымінальным судом бязьвінным або вызвалены ад меры сацыяльнай абароны, пры ўмове, што страты ўтварыліся ад дзеяньняў падсуднага.

Арт 11 зьмяняецца рэдакцыйна ў тым сэнсе, што пры выдачы копій спаганяюцца ўстаноўленыя зборы без пераліку катэгорый гэтых збораў.

II. Паважным пытаньнем, якое пастаўлена праэктам, зьяўляецца павялічэньне ролі народнага суду. З гэтай мэтай значна павялічваецца яго падсуднасьць. Так, перш за ўсе, цана іскаў, якія падведамствены народнаму суду, павялічана да 2000 руб. з дагавораў простага таварыства або таварыства з абмяжованай адказнасьцю і, у рэшце, іскі цаною ня звыш 2000 руб., аб аўтарскай ўзнагародзе за публічнае выкананьне твораў.

Павялічваючы падсуднасьць народных судоў, праэкт прадугледжвае і такія выпадкі, калі народны суд прыняў да разгляду справу, якая і па роду і па цане іску яму падпарадкавана, але далей, пры разглядзе, выявіў, што цана патрабаваньняў перавышае 2000 руб. Каб ня было валакіты, народны суд у такім выпадку ня мае права спыняць справу і самотна яе разьвязвае; пры гэтым рашэньне народнага суду абскарджваецца, як рашэньне акруговага суду

III. Зьмены арт. арт. 80, 94—100, 105, 106 і 108 праэктуюцца ў мэтах спрашчэньня працэсу ў судзе 1-й інстанцыі.

У гэтых мэтах праэкт значна павялічвае ролю і значэньне народнага судзьве дзі і старшыні пасяджэньня і ў той-жа час патрабуе, каб былі прыняты ўсе заходы да хуткага разгляду справы.

Арт. 97 устанаўляе правілы аб тым, які момант лічыцца пачаткам пасяджэньня, а таксама, у якім выпадку спрачальнік лічыцца неявіўшымся.

Зьмена арт. 98—100 выклікаецца жаданьнем спыніць злосную няяўку старон. З гэтай мэтай справа спыняецца ў выпадку няяўкі абедзьвёх старон бяз уважлівых прычын, калі пасяджэньне з прычыны няяўкі ўжо адкладвалася адзін раз.

Арт. 105 устанаўляе правіла аб тым, што разгляд справы пачынаецца дакладам, які робіцца адным з судзьдзяў, і што адказчыку павінна даць мажлівасьць даваць адказы на кожнае паясьненьне ісца. У тыхжа мэтах спрашчэньня справавядзеньня арт. 176 ГПК дапаўняецца правілам аб тым, што не патрабуецца пісаць матывы па рашэньнях у такіх справах, дзе адказчык цалком прызнаў іск на судзе.

Арт. 46 дапаўняецца другой увагай, якая дае суду права ўскладаць судовыя страты і на ісца, калі адказчык ня даў повадv да іску і не пярэчыў процiў яго. Таксама, арт. 290 ГПК дапаўняецца правілам аб праве касацыйнага суду накладаць штраф на жальбіта, калі суд прызнае, што скарга падана нясумленна (суцяжніцтва).

Арт. арт. 328—332 зьменены ў тым сэнсе, што спагнаньне па выканальных лістох з дзяржаўных і грамадзкіх устаноў і прадпрыемстваў учыняецца не праз судовых выканаўцаў, а праз адміністрацыю ўстановы ці прадпрыемства, якая зьяўляецца даўжнікам; пры гэтым выканальны ліст накіроўваецца судом беспасрэдна распарадчыку крэдытаў даўжніка, і гэты прадстаўнік адміністрацыі асабіста адказвае за выкананьне. Такі-ж парадак выкананьня ўстанаўляецца і пры спагнаньні з заработнай платы рабочых і служачых, калі яны працуюць у дзяржаўных і грамадзкіх установах і прадпрыемствах; для прыватных асоб і прадпрыемстваў пакідаецца папярэдні парадак.

У зьвязку з зьменамі глаў XXXIII і XXXIV зьмяняецца арт. 315 і дапаўняецца арт. 301—цяпер спаўняючымі органамі зьяўляюцца, акрамя судовых выканаўцаў і органаў міліцыі, яшчэ сельсаветы і адміністрацыя дзяржаўных і грамадзкіх установаў і прадпрыемстваў. Усе гэтыя органы, пры выкананьні рашэньняў, падпарадкаваны народнаму судзьдзі па месцы выкананьня рашэньня, пры гэтым народны судзьдзя па сваёй ініцыятыве мае права даваць выканаўчым органам паказаньні.

Згодна арт. 7 і 11 асноў судабудаўніцтва СССР грамадзянскія касацыйныя калегіі акруговых судоў і Вярхоўнага Суду зьяўляюцца касацыйна-рэвізыйнымі інстанцыямі, г. зн., што пры разглядзе касацыйных скаргаў яны павінны самотна абрэвізоўваць увесь матар'ял справы і пры выясеньні пастаноў ня зьвязаны повадамі да адмены рашэньня, якія прыведзены жальбітам. У ГПК БССР паказаны прынцып рэвізыйнасьці не даволі выяўлены, што на практыцы выклікае непаразуменьні. У мэтах ажыцьцяўленьня прынцыпу рэвізыйнасьці зьмяняюцца арт. арт. 287—291 у тым сэнсе, што касацыйна-рэвізыйны суд, як агульнае правіла, павінен пастанавіць рашэньне па сутнасьці справы, калі для гэтага не патрабуецца рабіць паверкі довадаў, і калі гэткае рашэньне можна абгрунтаваць па маючыхся ў справе матар'ялах. Калі ісьцец ня мае права на іск, або калі спрэчка не падпарадкавана суду, касацыйна-рэвізыйная інстанцыя спыняе справу. Калі-ж гэтае рашэньне мае такія недахопы, пры якіх яно ня можа лічыцца рашэньнем, касацыйна-рэвізыйны суд перадае справу на новы разгляд суду першай інстанцыі з захаваньнем усіх працэсуальных правілаў.

Урэшце, зьмяняецца арт. 292 у тым сэнсе, што дазваляецца падаваць прыватныя скаргі паасобку ад касацыйных на ўсякія пастановы суду, якімі спрэчка не разьвязваецца па сутнасьці, але справа скончваецца або прыпыняецца.

## VI. Аб правапарушэньнях, якія выклікаюць за сабой адказнасьць ў адміністрацыйным парадку.

Распрацаваны НКЮ праэкт Крым. Кодэксу выключае ўсе правапарушэньні, якія па чыннаму КК выклікаюць адказнасьць у адміністрацыйным парадку. З гэтай прычыны і ў мэтах аб'яднаньня ўсіх норм, ў сілу якіх накладаюцца спагнаньні ў адміністрацыйным парадку за тыя або іншыя парушэньні, НКЮ і распрацован законапраэкт аб правапарушэньнях, якія выклікаюць адказнасьць у адміністрацыйным парадку. У гэты праэкт уключаны:

1) усе тыя правапарушэньні, якія ў чынным КК БССР выклікаюць адказнасьць у адміністрацыйным парадку, пры чым уключаны: арт. 99, ч. 1—у рэдакцыі, узгодненай з пастановай ЦВК і СНК СССР за 27 сьнежня 1927 г. аб мерах да ўзмацненьня барацьбы з самагонаварэньнем, арт. 222—у рэдакцыі, адпавядаючай сучасным умовам, арт. 223 дапоўнен адказнасьцю за няяўку ў азначанае судовым або адміністрацыйным органам месца пражываньня;

2) правапарушэньні, прадугледжаныя ў чынным КК арт. арт. 217, 221, ч. I, 224, 226-б і 227, ч. I, бо справы аб гэтых парушэньнях і па няскладнасьці сваёй і па малаважнасьці могуць разглядацца ў адміністрацыйным парадку;

3) ўсе тыя правапарушэньні, якія паводле паасобных законаў БССР выклікаюць адказнасьць у адміністрацыйным парадку; напрыклад: невыкананьне наймальнікам правіл аб ахове жыцьця і здароўя працоўных

у выпадках, прадугледжаных пастановаю СНК БССР за 20 жніўня 1924 г. аб парадку прыцягненьня інспэктарамі працы наймальнікаў да адказнасьці за невыкананьне пастаноў аб ахове жыцьця і здароўя працоўных і выданымі ў разьвіцьцё яе пастановамі НКПрацы; парушэньне наймальнікамі правіл і інструкцый аб умовах ужываньня дапаможнае наемнае працы ў сялянскіх гаспадарках, калі гэта парушэньне не выклікае, згодна закону, адказнасьці ў судовым парадку; парушэньне чынных правіл аб мерах папярэджваньня падтопаў, выданых у мэтах урэгуляваньня карыстаньня воднымі пратонамі пры атрыманьні воднай энэргіі для прамысловых і сельска-гаспадарчых мэтаў праз утварэньне грэбляў і іншых гідраўлічных установак.

Апрача гэтага, у пералік правапарушэньняў, выклікаючых адказнасьць у адміністрацыйным па адку, уключаны дзеяньні, за якія чынным законадаўствам яшчэ не ўстанаўляецца вызначаная адказнасьць; напрыклад: непаведамленьне належных органаў улады асобамі, да гэтага абавязанымі, пра заразныя хваробы людзей альбо заразныя хваробы ці падеж жывёлы, за выключэньнем выпадкаў непаведамленьняў, прадугледжаных арт. 218 КК; парушэньне правіл аб гандлю, калі за парушэньне іх не ўстаноўлена адказнасьць у судовым парадку (арт. 139 КК), а таксама парушэньне правіл аб мерах і вагах, за выключэньнем выпадкаў, прадугледжаных арт. 141 КК; нашэньне ўстаноўленай формы вопраткі асобамі, ня маючымі на гэта права; адчыненьне дзеяльнасьці таварыстваў раней рэгістрацыі статуту і, агулам, з парушэньнем устаноўленага законам парадку.

# Катэдра права пры Інстытуце беларускай культуры.

Пастановаю прэзыдыуму Інбелькульту за 31 студзеня бяг. году пры Інбелкульце арганізована катэдра права. Папярэдніцаю катэдры права, уласна кажучы, зьяўляецца праўная сэкцыя ІБК, якая ў 1926-27 акад. годзе згуртавала наваколь сябе значны лік юрыстаў. Праўная сэкцыя заслухала шэраг дакладаў, з якіх некаторыя ставіліся па прапанове ўраду. Так былі распрацованы даклады: прафэсара М. О. Грэдынгера на тэмы: „Асновы землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня“, „Грамадзянскі Кодэкс БССР—1927 г.“. П. . Гаўзэ —„Прырода ўласнасьці па савецкім праве“, Я. І. Вішнеўскім—„Этапы разьвіцьця зямельнага законадаўства БССР“ і Бонч-Асмалоўскага—„Звычаевая права Беларусі“. Паказаныя даклады надрукованы у розных часопісах БССР. Разам з гэтым праўна сэкцыя прыняла апрацованы М. М. Гуткоўскім праэкт праўнае тэрміналёгіі, і тэрміналёгія гэта ў маі 1927 г. была надрукована.

Катэдра права ўваходзіць у склад аддзелу гуманітарных навук і падзяляецца на дзьве камісіі: 1) дзяржаўнага і адміністрацыйнага права і 2) гаспадарчага права. Загадчыкам катэдры права назначаны прафэсар М. О. Грэдынгер, а іх старшынямі першай камісіі—т. Парэчын, а другой т. Гаўзэ Катэдра права намеціла цэлы шэраг прац 1927-28 ак. год. У яе пляне стаіць 12 дакладаў на розныя тэмы і 5 досьледаў. За месяц з невялікім часу праўнай сэкцыяй прачытаны былі 4 даклады: А. Пятровіча —„Арганізацыйныя формы мясцовае гаспадаркі“, М. Гуткоўскага—„Кадыфікацыя саюзных рэспублік у галіне адміністрацыйнага права у сувязі з праэктам Адміністрацыйнага Кодэксу БССР“, праф. М. М. Краўчанкі—„Агульная характарыстыка вырашэньня праблемы аховы працы у капіталістычнай Эўропе і ў СССР“ і С. М. Слупскага—„Сучасная злачыннасьць у БССР“. Даклады выклікалі шырокі абмен думкамі.

Мікола Гуткоўскі прыгатаваў да друку сыстэматычны паказчык законадаўства БССР, надрукованага ў афіцыйных органах ураду БССР за пэрыод часу 1919—1927 г. У гэтым паказчыку зьмешчана больш 3.000 законадаўчых актаў, расклясыфікаваных паводле дзесяцічнай сыстэмы на клясы, галіны і групы, пры чым праўныя пытаньні і інстытуты разьмешчаны ў хроналёгічным парадку свайго выданьня, выяўляючы гісторыю данага істытуту альбо пытаньня.

Катэдра права таксама займаецца распрацоўкаю вельмі значнага нарматыўнага матар'ялу, выдадзенага цэнтральнымі ўстановамі БССР за пэрыод часу 1920—1927 г.

# ЗАПЫТАНЬНІ і АДКАЗЫ

**Запытаньне.**

1. Ці належыць прывадзіць у нягоднасьць пры перадачы, згодна цыркуляру НКЮ ад 12/II 1926 г., у органы Сабезу альбо ў установы, ведаючыя дзяржаўным фондам, канфіскаваныя па прыгавору суду прылады злачынства, як-та: зьмеявікі, фільтры, халадзільнікі, катлы, бакі і іншыя прылады да самагоначных апаратаў, калі аб гэтым няма ўказаньняў у прыгаворах суду?

**Адказ.**

Рэчавыя довады па справах, як-та: зьмеявікі, фільтры, халадзільнікі, катлы, бакі і іншыя прылады, прыстасованыя спэцыяльна для вырабу або хаваньня самагону, пры перадачы іх па прыгавору суду ў адпаведныя органы трэба прывадзіць у нягоднасьць нават і ў тых выпадках, калі ў прыгаворах судоў аб гэтым няма паказаньняў.

**Запытаньне.**

2. Якім законам павінен кіравацца акрвыканком пры канфіскацыі паляўнічай стрэльбы?

**Адказ.**

Канфіскацыя паляўнічых стрэльбаў можа рабіцца толькі ў тых выпадках, калі гэтыя стрэльбы праходзяць па справе, як прылады злачынстваў.

Паколькі-ж пры разглядзе спраў па 99 і 220 арт. арт. КК акрвыканкомам наданы функцыі суду, то яны таксама маюць права канфіскацыі паляўнічых стрэльбаў.

Пры канфіскацыі паляўнічых стрэльбаў акрвыканком павінен кіравацца КПК і пастановай НКЮ, НКУС і НК Грашовых Спраў ад 25 лістапада 1926 г. (Бюл. СНК, № 15—1926 г., стар. 20) і інструкцыяй НКУС, № 263, ад 25/VIII-26 г. (Бюл. СНК, № 11—26 г., стар. 15-22).

**Запытаньне.**

3. Ці залічваюцца рабочыя дні сьледзка-зьняволеным?

**Адказ.**

Сьледзка-зьняволеным рабочыя дні не залічваюцца. Апрача таго, дазвол на прадстаўленьне работы сьледзка-зьняволеным выдаецца толькі сьледчым, які вядзе сьледзтва.

**Запытаньне.**

4. Па якіх арт.арт. КК трэба прыцягваць да адказнасьці службовых асоб, парушыўшых правілы па зьніжэньні цэн?

**Адказ.**

Пракуратура рэспублікі растлумачыла, што службовыя асобы прыцягваюцца да адказнасьці па 106 арт. КК з санкцыяй па 1 альбо 2 часткі 105 арт. КК у залежнасьці ад таго, якія вынікі пасьледавалі ад злачынства, і якія былі матывы злачынства.

Калі ў справе адсутнічае злоснасьць альбо вялікая страта, а таксама няма карысьці, дык у такім выпадку злачынства трэба кваліфікаваць па 106 арт. КК з санкцыяй па 2 ч. 105 арт. КК.

**Запытаньне.**

5. Ці магчыма абвяшчаць афіцыйна вышук грамадзян, за якімі лічацца даўгі па грамадзянскіх справах?

**Адказ.**

Вышук грамадзян вытвараецца толькі ў тым выпадку, калі яны абвінавачваюцца ў якім-небудзь крымінальным злачынстве, у астатніх-жа выпадках вышук гр-н не ўваходзіць у кампэтэнцыю органаў пракуратуры, сьледзтва і крымінальнага вышуку.

**Запытаньне.**

6. Ці мае праве міліцыя самастойна прызначаць да продажы тэй ці іншай маемасьці дзеля спагнаньня якіх-небудзь грашовых сум без дазволу суду?

**Адказ.**

Міліцыя можа рабіць вопіс маемасьці дзеля продажу яе з таргоў як па адміністрацыйных справах, таксама і па даручэньнях судоў па іх рашэньнях з захаваньнем 316 арт. ГПК, выданьня 1927 г.

**Запытаньне.**

7. Ці падлягае аплаце работа грамадзкіх абвінавайцаў за патрачаны імі рабочы час на выступленьнях у судох?

**Адказ.**

Выступленьне грамадзкіх абвінавайцаў у судох ёсьць работа грамадзкая і як такавая аплаце не падлягае. Спэцыяльных сродкаў (каштарысу) для гэтай мэты няма.

Калі грамадзкія абвінавайцы выступаюць з ліку рабочых і служачых, то аплата ім за патрачаны час павінна рабіцца прыстасоўна да аплаты сьведак, экспэртаў альбо засядацеляў, выклікаемых у суд (78 арт. Кодэкса Законаў аб Працы).

**Запытаньне.**

8. Ці маюць зьняволеныя права мець і карыстацца ў сьценах спраўдому кнігамі рэлігійнага характару?

**Адказ.**

Пракуратура рэспублікі дала растлумачэньне:

1. Кожны зьняволены мае права мець толькі тыя рэчы, карыстаньне якімі прадугледжана перачнем рэчаў асобнай інструкцыі НКУС і Справіцельна-Працоўным Кодэксам.

2. Паколькі спраўдом зьяўляецца справіцельнай для злачынца ўстановай, дзе культурна-выхаваўчая праца (культурна-асьветная, школьная і па-зашкольная) праводзіцца пад ідэйным кіраўніцтвам Наркамасьветы, і паколькі спраўдом, у сэнсе правядзеньня культурнай працы сярод зьняволеных, зьяўляецца школай—карыстаньне кнігам. рэлігійнага характару забараняецца

**Запытаньне.**

9. Ці зьяўляецца службовай асобай упаўнаважаны, выбраны ад зямельнага сялянскага вобчаства па земляўпарадкаваньні на час земляўпарадкаваньня?

Як трэба кваліфікаваць злачынствы памененага ўпаўнаважанага за зробленую ім растрату грамадзкіх грошай і падробку ў дакумэнтах—ці па 113 і 116 арт. КК, ці па 185 і 189 арт. КК?

**Адказ.**

Пракуратура рэспублікі растлумачвае, што ўпаўнаважаны, выбраны ад зямельнага сялянскаго вобчаства па земляўпарадкаваньні на час земляўпарадкаваньня, зьяўляецца службовай асобай і, як гэтакая, павінен прыцягвацца да адказнасьці ў даным выпадку па 113 і 116 арт. КК.

---

**Адказны рэдактар: Рэдакцыйная Калегія.**

# АФІЦЫЙНАЯ ЧАСТКА.

ЗЬМЕСТ: абежнікі №№ 38, 39, 40, 42, 43, 44, 45, 46, 48, 49.

## АБЕЖНІК № 38

**Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР**

за 2 сакавіка 1928 г.

*Усім акруговым выканаўчым камітэтам, акруговым пракурорам і аддзелам грашовых спраў.*

**Пра зьмену ў абежніку ад 27/IX-27 г. „аб парадку разгляду скарг па дзяржаўных падатках.**

Пастановай ЦВК і СНК СССР ад 21/XII-27 г. (З. З. 28 г. № 2. арт. 10) зьменена рэдакцыя арт. 40 палажэньня пра спагнаньне падаткаў (З З. СССР 25 г., № 70, арт. 518).

Дзеля гэтага Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Фінансаў ў зьмену абежніку № 87 ад 27/IX-27 г. „аб парадку разгляду скарг па дзяржаўных падатках“, паведамляе, што згодна новай рэдакцыі арт. 40 палажэньня пра спагнаньне падаткаў, зьняцьце нядоімак па агульна-дзяржаўных беспасрэдных падатках, апрача адзінага сельска-гаспадарчага і па гэрбавым зборы, як па хадайніцтвах плательнікаў, з прычыны поўнай ці частковай страты платаздольнасьці, так і тых, што няправільна лічацца, і безнадзейных да паступленьня робіцца: раённымі выканаўчымі камітэтамі на суму ня звыш 100 руб.; акруговымі фінансавымі органамі на суму ня звыш 2000 рублёў. На большыя сумы зьняцьце робіцца Народным Камісарыятам Фінансаў БССР.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Ст. пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

Народны Камісар Фінансаў *Мікуліч.*

---

## АБЕЖНІК № 39

**Народнага Камісарыяту Юстыцыі, Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Фінансаў**

за 14 сакавіка 1928 г.

*Усім акруговым судом.*

**Аб парадку нарыхтаваньня грашовых кніг для органаў, выконваючых рашэньні суду, і аб парадку інструктаваньня гэтых органаў у галіне працы іх па выкананьні рашэньняў суду.**

У зьвязку з запытаньнямі некаторых акруговых судоў аб тым, на чый кошт павінна рабіцца нарыхтаваньне грашовых кніг для органаў выкананьня рашэньняў суду, і на кім ляжыць абавязак інструктаваньня гэтых органаў у галіне працы іх па выкананьні рашэньняў і вызначэньняў суду, Народны Камісарыят Юстыцыі, Народны Камісарыят Унутраных Спраў і Народны Камісарыят Фінансаў растлумачваюць наступнае:

1. Нарыхтаваньне грашовых кніг для ўсіх органаў выкананьня рашэньня суду, а менавіта — судовых выканаўцаў, міліцыі, сельскіх і местачковых саветаў, паводле арт. арт 15, 16 і 17 інструкцыі НКЮ, НКУС і НКФ за 10/XI-27 г. за № 94 аб парадку выкананьня рашэньняў па грамадзянскіх справах, павінна рабіцца акруговымі судамі ў парадку агульнага друкарскага заказу.

Увядзеньне гэтакага парадку дыктавалася рэжымам эканоміі і мела сваёю мэтаю скарачэньне выдаткаў па нарыхтаваньні паказаных кніг, аднак яно не выключала магчымасьці адступленьня ад яго ў тых выпадках, калі паказаная мэта (скарачэньне выдаткаў) магла быць дасягнута іншымі спосабамі, як, напрыклад, праз нарыхтаваньне праз заказаў або праз нарыхтаваньне іх паказаных грашовых кніг у парадку паасобных заказаў або праз нарыхтаваньне іх

канцэлярскім спосабам, пры абавязковым, аднак, і строгім захаваньні прапанаванага інструкцыяй парадку прадстаўленьня кніг у мясцовы фінансавы орган для прыкладу шнуру, пячаткі і ўзяцьця на вучот, прадугледжана арт. 17-м інструкцыі

Апроч таго, паводле ўвагі да артыкулу 12-га паказанай інструкцыі, органам міліцыі дадзена права кіравацца формамі дзелаводзтва і справаздачнасьці, выданымі НКУС.

Па паведамленьні НКУС здпаведныя формы грашовых кніг у міліцыі ўжо ёсьць, і гэтыя кнігі заказаны па каштарысу акрадмаддзелаў.

Што датычыцца пытаньня аб тым, на чый кошт павінны нарыхтоўвацца грашовыя кнігі, дык паказаньне артыкулу 16 інструкцыі аб нарыхтаваньні гэтых кніг за кошт казны трэба разумець у тым сэнсе, што гэткае нарыхтаван не павінна рабіцца за конт тых сум, якія адпушчаюцца па каштарысе на канцалярскія выдаткі кожнаму з адпаведных органаў выкананьня рашэньняў.

З прычыны вышэйвыкладзенага, у мэтах аб'яднаньня друкарскага заказу кніг, акруговым судом належыць зараз-жа дакладна выявіць разьмер заказу і каштоўнасьць яго (колькасьць патрэбных на год кніг для забесьпячэньня імі судвыканаўцаў і сельскіх і местачковых саветаў, хто з гэтых органаў прыймае ўдзел у агульным заказе і каштоўнасьць заказу для паасобных органаў выкананьня), а таксама прапанаваць органам выкананьня тэрмінова даслаць у акрсуд неабходныя на заказ грошы, узгадніўшы ўсе пытаньні, якія могуць пры гэтым узьнікнуць, з акруговым і раённымі выканаўчымі камітэтамі.

2. Інструктаваньне ўсіх органаў выкананьня, у тым ліку міліцыі і сельскіх і местачковых саветаў, у галіне выкананьня імі рашэньняў суду па грамадзянскіх справах, прыналежыць выключна органам юстыцыі—НКЮ, Вярхсуду і акруговым і народным судом.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Я. Бутар.*
Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў *Я. Кроль.*
За Народнага Камісара Фінансаў *Кардашэнка.*

---

## АБЕЖНІК № 40

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі

за 10 сакавіка 1928 г.

*Усім акруговым пракурорам.*

**Аб паведамленьні пракуратуры рэспублікі аб найбольш важных здарэньнях, выклікаючых неабходнасьць вытварэньня сьледзтва.**

Аб кожным *найбольш важным з боку палітычна-грамадзянскага здарэньня*, якое выклікае неабходнасьць вытварэньня сьледзтва (напрыклад, вялікі пажар, вельмі важная па сваіх выніках растрата, вялікі бандыцкі налёт і г. д.) акруговы пракурор павінен коратка паведаміць пракуратуру рэспублікі, калі трэба ў сэкрэтным парадку, з паказаньнем, якія прыняты меры да раскрыцьця злачынстваў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Ст. пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман*

---

## АБЕЖНІК № 42

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі

за 26 сакавіка 1928 г.

*Усім акруговым і народным судом.*

**Аб судовых пошлінах і зборах.**

Прымаючы пад увагу напружанасьць бюджэтнага прызначэньня па судовых пошлінах і зборах на 1927-28 год і што пры рэвізіях народных судоў і судовых выканаўцаў высьвятляецца несваечасовая здача грошай па судовых пошлінах і зборах у касы Наркамфіну, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1) сваечасова зварочваць да выкананьня, а таксама мець строгі нагляд за спагнаньнем судовых пошлін і збораў у парадку, прадугледжаным пастановай Савету Народных Камісараў БССР за 5 сьнежня 1927 году. („Савецкая Беларусь" за 22/XII-1927 году);

2) грашовыя сумы, атрыманыя па пошлінах і зборах, а таксама ад продажы марак, ня трымаць у судовых установах, а здаваць сваечасова кожны тыдзень у касы Народнага Камісарыяту Фінансаў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Я. Бутар.*
Ст. Інспэктар *У. Гінзбург.*

## АБЕЖНІК № 43

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

за 27 сакавіка 1928 году.

*Акруговым судом.*
*Копія акруговым пракурорам.*

**Аб падсуднасьці іскаў па працоўных справах.**

1. Згодна з арт. 28 ГПК. іскі, якія ўзьнікаюць з дагавораў, у якіх вызначана месца выкананьня, або выкананьне якіх можа быць зроблена толькі ў пэўным месцы, могуць быць прад'яўлены мясцоваму па выкананьні дагавору суду.

Паводле арт. 67 Код. зак. аб працы выплата ўзнагароды за працу робіцца ў месцы вытварэньня працы, г. зн. у месцы выкананьня дагавору аб найме.

Роўным чынам, і аднаўленьне на працы няправільна зволенага можа быць паводле самой істоты сваей, зроблена толькі ў пэўным месцы, а менавіта, у месцы выкананьня парушанага звольненьнем дагавору аб найме.

Гэткім чынам, іскі аб узнагародзе за працу і аб аднаўленьні на працы могуць прад'яўляцца або па месцы пражываньня адказчыка, або па месцы выкананьня працы. Пры чым па жаданьні працоўнага, яму прадастаўляецца права скарыстаць п. „в" арт. 23 ГПК.

2. Паводле арт. 64 палажэньня аб судабудаўніцтве БССР, у тых мясцовасьцях, на якія дзеяньне працоўных сэсій нарсудоў не пашыраецца, іскі па працоўных справах разглядаюцца народнымі судамі ў агульным парадку.

Гэта значыць, што ў паказаных мясцовасьцях іскі па працоўных справах падсудны народным судом на тых-жа падставах, як і трудавым сэсіям нарсудоў, ў частковасьці ў адносіне неабмяжованасьці цаны іску і незалежнасьці ад пэрсанальнага характару адказчыка, і толькі разгляд гэтых іскаў робіцца на агульных падставах, установленых для народных судоў.

Выкладзенымі меркаваньнямі Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе кіравацца ва ўсіх выпадках прад'яўленьня іскаў па працоўных справах.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Ст. пам. Пракурора Рэспублікі
*С. Гохман.*

Старшыня Вярхсуду *А. Варашылаў.*

Пракурор па працоўных справах пры НКЮ *Глезераў.*

---

## АБЕЖНІК № 44

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

за 26 сакавіка 1928 году.

*Усім органам юстыцыі.*

**Аб парадку аплаты гэрбавым зборам тэлеграфных зварочваньняў ва ўрадавыя ўстановы.**

§ 1 таблі дакумэнтаў, падлягаючых аплаце гэрбавым зборам (дадатак 1-ы да статуту аб дзяржаўным гэрбавым зборы—Зб. Зак. СССР 1927 г. № 55, арт. 553) прадугледжана аплата гэрбавым зборам тэлеграфных зварочваньняў ва ўрадавыя ўстановы і ўвагай да § 27 інструкцыі да статуту аб гэрбавым зборы абмоўлена, што правілы аплаты памянёных зварочваньняў і адказаў на іх устанаўляюцца НКП і Т СССР, па ўзгадненьні з НКФ СССР.

У адпаведнасьці з гэтым Наркампаштэлем СССР 16 сьнежня 1927 г. за № 18/441 выдан абежнік, якім прапануецца пры падачы заяў, скарг і г. д. па тэлеграфу выконваць наступныя правілы: 1) асоба, якая жадае падаць па тэлеграфу заяву, скаргу і г. д., з аплатай гэтых папер гэрбавым зборам, павінна паказаць дакладны свой адрас, а ў канцы тэксту суму выплачваемага збору; 2) гэрбавыя маркі на суму, якая паказана ў тэксьце, павінны наклейвацца на тэлеграмах і пагашацца паштовым

штампам для прыняцьця тэлеграм; 3) асобы, якія пажадаюць аплаціць гэрбавым зборам па тэлеграфу заяву, скаргу і г. д., якія раней ня былі аплачаны ці аплачаны недастаткова, павінны ў канцы тэксту тэлеграмы паказаць, у гэтай дапаўніцельнай тэлеграме, суму выплачваемага гэрбавага збору і наклеіць на гэту суму гэрбавыя маркі, і 4) службовыя асобы паштова-тэлеграфнага ведамства, якія сьведчаць выплату гэрбавага збору на тэлеграмах, адказваюць толькі за правільнасьць гэтых пасьведчаньняў, гэта значыць за суадпаведнасьць гэрбавага збору суме, якая паказана ў тэксьце тэлеграмы.

Паведамляючы аб гэтым да ведама, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе наступнае:

Пры атрыманьні па тэлеграфу заяў, скарг і г. д. ад прыватных асоб, дзяржаўных прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку, каапэрацыйных і іншых арганізацый, ня вызваленых ад гэрбавага збору (пералік выняткаў па гэрбавым зборы—дадатак 2[1] да статуту аб гэрбавым зборы) строга сачыць за тым, ці ёсьць на гэтых тэлеграфных зварочваньнях (тэлеграмах) адзнака аб выплаце належнага гэрбавага збору на аплату заявы, скаргі і г. д. і на адказ на іх, маючы пры гэтым на ўвазе: 1) што ў выпадку паступленьня тэлеграфных заяў, скарг і г. д., якія падлягаюць гэрбзбору, але ім не аплачаны, урадавым установам, згодна арт. 24 статуту аб гэрб. зб., даецца права не прыпыняць разгляду паданай паперы і спаганяць гэрб. збор пры пасылцы адказу на гэтыя паперы; 2) што адказнасьць за правільную аплату тэлеграм гэрбавым зборам у належным разьмеры, ў парадку 45 арт. гэрб. статуту, нясуць службовыя асобы ўрадавых устаноў, якія атрымліваюць тэлеграмы, і 3) службовыя асобы паштова-тэлеграфнага ведамства толькі сьведчаць суадпаведнасьць гэрбавага збору суме, якая паказана ў тэксьце тэлеграмы.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Ст. пам. Пракурора Рэспублікі
*С. Гохман*

---

## АБЕЖНІК № 45

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

за 22 сакавіка 1928 году.

*Акруговым выканаўчым камітэтам, гарсаветам і акруговай пракуратуры.*

**Аб парадку вылучэньня ў камунальны жылішчны фонд плошчы з гасьцініц і заежджых дамоў і парадку яе скарыстаньня.**

Некаторымі гарадзкімі саветамі выдаюцца пастановы аб вылучэньні ў камунальны фонд плошчы з гасьцініц і заежджых дамоў, згодна закону ад лютага 1925 г. (З. З. 25 г. № 9. арт. 79), са скарыстаньнем плошчы для сталых гарадзкіх жыхароў, а таксама мелі месца апечатаньні пакояў.

Гасьцініцы і заежджыя дамы маюць спэцыяльнае прызначэньне, а таму вылучэньне з іх плошчы ў камунальны фонд ня можа зьмяніць гэтага прызначэньня.

Паводле гэтага Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Унутраных Спраў прапануюць пры вылучэньні ў камунальны фонд плошчы з гасьцініц і заежджых дамоў і скарыстаньні гэтае плошчы наперад, да зацьверджаньня ўнесенага ў законадаўчыя ворганы новага законапраэкту, кіравацца наступнымі правіламі:

1) у камунальны фонд плошча з гасьцініц і заежджых дамоў вылучаецца толькі ў тым выпадку, калі адчуваецца недахоп памяшканьня для прыяжджаючых працоўных;

2) ордэры на заняцьце плошчы ў гасьцініцах і заежджых дамох наогул ня могуць выдавацца на сталае пражываньне, а толькі на тэрміны, вызначаныя ў законе (п. „д“ арт. 2 закону 19/II-27 г. З. З. 27 г. № 12, арт. 42) і абавязковых пастановах мясцовых органаў;

3) плата за карыстаньне плошчаю ў гасьцініцах і заежджых дамох спаганяецца па таксах, устаноўленых для гасьцініц і заежджых дамоў, а не для агульных жылых памяшканьняў;

4) апячатаньне вынятай плошчы не дапушчаецца, бо плошча, не скарыстаная губляе сваё спэцыяльнае вызначэньне.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Гохман.*

Народны Камісар Унутраных Спраў *Сташэўскі.*

---

# АБЕЖНІК № 46

## Народнага Камісарыяту Юстыцыі

за 6 красавіка 1928 году.

*Усім органам юстыцыі.*

### Аб устанаўленьні новых форм статыстычнай справаздачнасьці.

У мэтах скарачэньня і спрашчэньня статыстычнай справаздачнасьці НКЮ распрацаваны новыя формы гэтай справаздачнасьці для акруговых і народных судоў, акпракурораў і іх вучастковых памочнікаў, сьледчых і судовых выканаўцаў.

Гэтыя формы павінны замяніць сабой усе ранейшыя формы статыстычнай справаздачнасьці, якія былі раней устаноўлены для вышэйпаказаных органаў юстыцыі, за выключэньнем паўгадавой справаздачнасьці аб дзейнасьці акруговых судоў і падлеглых ім органаў, устаноўленай абежнікам НКЮ за 5/XI-1927 г. за № 93, якая справаздачнасьць павінна прадстаўляцца побач з статыстычнай справаздачнасьцю, устаноўленай гэтым абежнікам.

У адпаведнасьці з вышэйвыкладзеным Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе прыняць да выкананьня ніжэйнаступнае:

1) пачынаючы з 1 студзеня 1928 г., усе статыстычныя зьвесткі павінны прадстаўляцца па формах у парадку і ў тэрміны, якія паказаны ў даданай да гэтага цыркуляру таблі;

2) прадстаўленьне статыстычных зьвестак па раней дадзеных формах з паказанага тэрміну спыняецца;

3) статыстычныя зьвесткі павінны прадстаўляцца ў наступныя тэрміны:

а) квартальныя ў акруговыя суды і акруговым пракурорам падлеглымі ім органамі—не пазьней 5 числа наступнага за справаздачным пэрыодам месяца, а ў НКЮ—акруговымі судамі і акпракурорамі—не пазьней 15 числа таго-ж месяца і

б) паўгадовыя—у акруговыя суды і акруговым пракурорам—не пазьней 15 числа месяца, наступнага за справаздачным пэрыодам, а ў НКЮ—не пазьней, як праз два тыдні пасьля гэтага тэрміну, г. зн. не пазьней 1 числа месяца, наступнага за паказаным тэрмінам;

4) для органаў юстыцыі, не паказаных у гэтым абежніку, захоўваюцца ранейшыя формы і парадак прадстаўленьня статыстычнай справаздачнасьці.

Пры гэтым паведамляецца, што блянкі ўсіх новых форм статыстычнай справаздачнасьці для забясьпечаньня імі на 1928 г. як самых акрсудоў і акпракурораў, так і падлеглых ім органаў, а таксама формы паўгадовай справаздачнасьці, якія даданы да гэтага абежніку, будуць дасланы дадаткова

Д а д а т а к: 1) формы квартальнай справаздачнасьці і 2) табля статыстычных зьвестак.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Я. Бутар.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

# ТАБЛЯ

**статыстычных зьвестак, якія павінны дасылацца акруговымі і народнымі судамі, акруговымі пракурорамі і вучастковымі іх памочнікамі і судовымі выканаўцамі.**

| Найменьне органаў, якія павінны дасылаць статыстычныя зьвесткі | Куды павінны дасылацца зьвесткі | Найменьне статыстычных зьвестак, якія павінны дасылацца | |
|---|---|---|---|
| | | Па чвэрцях году | Па паўгодзьдзях |
| 1. Акрсуды. | У НКЮ | 1. Форма № 7а. Кантрольн. карта аб руху крымінальных і грамадзянскіх спраў у народных і акруговых судох. | 1. Форма № 1. Вучотная карта аб руху крымінальных спраў па 1-й інстанцыі акрсуду. |
| " | " | 2. Форма № 6. Кантрольная карта аб паступленьні крымінальн. спраў па кожным арт. КК у 1-й інстанцыі акрсуду. | 2. Форма № 1. Вучотная карта аб руху крымінальных спраў у нарсудох. |
| " | " | 3. Форма № 6. Аб паступленьні крымінальн. спраў па кожным арт. КК у нарсудох. | 3. Форма № 2. Кантрольная карта аб руху грамадзянскіх спраў па 1-й інстанцыі акрсуду. |
| " | " | — | 4. Форма № 2. Кантрольная карта аб руху грамадзянскіх спраў у нарсудох. |
| " | " | — | 5. Форма № 3. Вучотная карта аб руху крымінальных касацыйных спраў у акрсудзе. |
| " | " | — | 6. Форма № 4. Вучотная карта аб руху грамадзянскіх касацыйных спраў у акрсудзе. |
| " | " | — | 7. Форма № 5. Вучотная карта аб дзейнасьці судовых выканаўцаў па акрузе, падлеглай акрсуду. |
| 2. Нар. суды. | У акрсуд. | 1. Форма № 6. Кантрольная карта аб паступленьні крымінальн. спраў па кожным артыкулу КК | 1. Форма № 1. Вучотная карта аб руху крымінальных спраў. |
| " | " | 2. Форма № 7. Кантрольная карта аб руху крымінальных і грамадзянскіх спраў. | 2. Форма № 2. Кантрольная карта аб руху грамадзянскіх спраў. |
| 3. Акр. пракурoры. | У НКЮ. | 1. Форма № 8а. Вучотная карта аб руху сьледзкіх спраў. | 1. Форма № 9. Вучотная карта аб руху сьледзкіх спраў, накіраваных у суд. |
| " | " | 2. Па распараджэньні НКЮ за 15/III-28 г. за № 84-н. Ведамасьць аб колькасьці сьледзка-зьняволеных, якія лічацца за органамі суду, сьледства дазнаньня. | 2. Форма № 10. Вучотная карта аб судовай дзейнасьці.<br>3. Форма № 11. Вучотная карта аб руху дазнаньняў |

| Найменьне органаў, якія павінны дасылаць статыстычныя зьвесткі. | Куды павінны дасылацца зьвесткі. | Найменьне статыстычных зьвестак, якія павінны дасылацца. | |
|---|---|---|---|
| | | Па чвэрцях году. | Па паўгодзьдзях. |
| | | | 4. Форма № 12. Вучотная карта аб дзейнасьці пракуратуры па працоўных справах.<br>5. Форма № 13. Вучотная карта па агульным наглядзе. |
| 4. Вучастковыя памочнікі пракурора. | Акруговаму пракурору. | | 1. Форма № 9. Вучотная карта аб руху сьледзкіх спраў.<br>2. Форма № 10. Вучотная карта аб судовай дзейнасьці.<br>3. Форма № 11. Вучотная карта аб руху дазнаньняў.<br>4. Форма № 12 Вучотная карта аб дзейнасьці па працоўных справах.<br>5. Форма № 13. Вучотная карта па агульнаму наглядзе. |
| 5. Старэйшыя і вучастковыя сьледчыя. | Акруговаму пракурору. | Форма № 8 Вучотная карта б руху сьледзкіх спраў. | |
| 6. Судовыя выканаўцы. | Акр. суду. | | Форма № 5. Вучотная карта аб дзейнасьці. |

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Бутар.*
Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

---

## АБЕЖНІК № 48
### Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР
за 10 красавіка 1928 г.

*Усім прэзыдыумам акруговых калегій абаронцаў.*
*Копія акрсудом і акрпракурорам.*

**Аб барацьбе з бюракратызмам і цяганінай у працы членаў калегіі абаронцаў.**

У зьвязку з пастановай 5-га Ўсебеларускага зьезду членаў калегіі абаронцаў·
за 14-15 студзеня 1928 году аб неабходнасьці вядзеньня раш.чай барацьбы з праявай
бюракратызму і цяганіны ў рабоце членаў калегіі абаронцаў і падлічваючы, што такія
праявы ў практычнай рабоце абаронцаў маюць месца і што абарона, займаючы вызна-
чанае становішча ў савецкай судовай сыстэме, павінна ўсямерна дапамагаць суду як
у непасрэдным ажыцьцяўленьні правасудзьдзя, так і адхіленьні ўсіх дэфэктаў, якія
тармазяць і парушаюць правільную работу суда, а ні ў якім разе не тварыць пера-
шкоды гэтай рабоце, Наркамюст і прэзыдыум Усебеларускага аб'яднаньня калегій
абаронцаў прапануюць прыняць да кіраўніцтва і выкананьня наступнае:

1. Наперад усяго зварочвае на сябе ўвагу загрузка судоў цэлым шэрагам зусім
нягрунтоўных і безнадзейных спраў, што, напэўна, творыць вялікі тормаз звычайнай
дзелавой рабоце суду. Не адносячы гэтага цалкам ці нават у большай частцы да віны
абароны, акруговым калегіям абаронцаў усё-ж у гэтым стасунку неабходна прыняць
меры да зьнішчэньня ў сваім асяродку ўсяго таго, што можа параджаць паказанае
зьявішча. Для гэтага трэба катэгарычна забараніць членам калегіі абаронцаў прый-
маць да свайго справавядзеньня відавочна безнадзейныя справы, пісаць бязгрунтоў-
ныя іскавыя заявы і г. д, растлумачваючы зварачаюшчымся па такіх справах кліентам
усю непатрэбнасьць і шкоднасьць узбуджэньня такога роду спраў.

2. Вельмі важным момантам, на які належыць зьвярнуць асаблівую увагу,
зьяўляецца ***зацягваньне спраў*** шляхам узбуджэньня ўсялякага роду хадайніцтваў у час

судовага пасяджэньня, якія выклікаюць адклад слуханьнем спраў, складаньнем і пада чай касацыйных скарг у парадку нагляду, пры адсутнасьці для гэтага прычын, што творыць напэўна цяганіну, заграмаджае суды, уносіць дэзарганізацыю ў іх работу і ў выніку падрывае аўтарытэт самой абароны як у вачох суда, так і ў насельніцтва.

У адпаведнасьці з паказаным неабходна рашуча абвясьціць усім абаронцам, што ўсякае ўзбуджэньне ў судовым пасяджэньні відавочна безнадзейных хадайніцтв, накірованае да зрыву і зацяжкі справы, так сама як і складаньне касацыйных і ў парадку нагляду скарг, пры поўным адсутнічаньні прадугледжаных ГПК і КПК прычын, якія могуць выклікаць за сабою адмену ці зьмену прыгавораў і разьвязкаў суду, будзе разгледжвацца як яўнае праяўленьне бюракратызму і цяганіны.

У мэтах нагляданьня за ажыцьцяўленьнем памяненага палажэньня: а) абавязаць абаронцаў падпісваць усе складаемыя імі паперы і б) скласьці камісіі для праверкі работ абаронцаў у судох.

3. Зацягваюцца справы таксама і дзякуючы наглядаючых выпадкаў спазьненьня абаронцаў ў судовыя пасяджэньні, а таксама без усялякай патрэбы расьцягваемымі аб'ясь неньнямі ў грамадзянскім працэсе і абараняльнымі прамовамі ў крымінальным працэсе.

Для адхіленьня гэтага абавязаць абаронцаў акуратна зьяўляцца ў суды і раіць усім аб'ясьненьням і прамовам прыдаваць строга дзелавы характар.

4. Вялікім ліхам зьяўляецца таксама і праяўленьне цяганіны і бюракратызму ў рабоце калегій у стасунку абслугоўваньня юрыдычных консультацый.

Досыць часта дзяжурныя зьяўляюцца з вялікім спазьненьнем. Парады даюцца і складаюцца паперы непрадумана, у выніках чаго кліентам прыходзіцца па некалькі разоў зварочвацца па адным і тым жа пытаньні, што раняе аўтарытэт калегіі і давер'е к ёй з боку мас.

Неабходна прыняць рашучыя меры да адхіленьня такіх зьявішчаў, прапануючы абаронцам акуратна зьяўляцца на дзяжурства ў консультацыі і пры аказаньні юрыдычнай дапамогі сачыць за тым, каб была аказваема рэальная дапамога, а ня толькі фармальна выконваліся вызначаныя абавязкі.

Лічачыся з тым, што ўсе зачэпленыя ў гэтым абежніку моманты маюць надзвычайна актуальнае значэньне, што барацьба з праявамі бюракратызму і цяганіны ў ва ўсіх галінах дзяржаўнага жыцьця зьяўляецца ударнай задачай усіх савецкіх, партыйных, прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый, Наркамюст і прэзыдыўм Усебеларускага аб'яднаньня калегій абаронцаў прапануюць усім акруговым прэзыдыумам у гэтым напрамку ўзяць цьвёрдую лінію і пры ўсякім парушэньні паасобнымі таварышамі паказаных дырэктыў тэрмінова ўзбуджаць адносна іх дысцыплінарныя справы

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Бутар*

Старшыня прэзыдыуму Усебеларускага аб'яднаньня калегій абаронцаў *Слонім*

---

## АБЕЖНІК № 49
### Народнага Камісарыяту Юстыцыі
### за 9 красавіка 1928 г.

*Усім акруговым судом, акруговым пракурорам, народным судом і народным сьледчым.*

**Аб парадку запаўненьня картак аб правапарушэньнях вайскова-службоўцаў.**

У мэтах падліку правапарушэньняў у Чырвонай арміі загадамі РВС СССР ад 13 ліпеня 1925 г. за № 744 і ад 6-га сьнежня 1927 г. за № 618 установлен парадак запаўненьня у вайсковых аб'яднаньнях РСЧА статыстычных картак на асоб, якія прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

Згодна п. п. 4 і 7 інструкцыі, абвешчанай у загадзе № 618, карткі, якія запаўняюцца у вайсковых аб'яднаньнях, далучаюцца да дазнаньня і пры накіраваньні апошняга ў агульны (грамадзянскі) суд або сьледчаму, накіроўваюцца і карткі. Агульныя суды па сканчэньні рашэньня суду запаўняюць п. п. 7 і 16 карткі і накіроўваюць гэткую вайсковаму пракурору.

Да гэтага часу судовыя органы не заўсёды выконваюць патрабаваньні паказаных вышэй загадаў, чым і парушаецца агульны плян па падліку правапарушэньняў вайсковаслужбоўцаў.

У адпаведнасьці з паказанымі вышэй загадамі РВС, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе пры атрыманьні дазнаньня і сьледзкіх матар'ялаў разам з падлікастатыстычнай карткай на прыцягнутага, зараз-жа па сканчэньні справы (вынясеньня прысуду або спыненьня) запаўняць п. п. 7 і 16 карткі і накіроўваць гэткія не пазьней тыднёвага тэрміну па сканчэньні справы вайсковаму пракурору, які абслугоўвае данае вайсковае аб'яднаньне.

Форма карткі і копія інструкцыі аб парадку складаньня і запаўненьня яе пры гэтым дадаецца.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі *Сегаль*

Синего цвета—для Воен. Трибуналов.
(Белого цвета—для общих судов).

Прик. РВС СССР, № 618, 1927 г.

**В УПРАВЛЕНИЕ УСТРОЙСТВА и СЛУЖБЫ ВОЙСК ГУРККА.**
(по Бюро статистики).

........................................округ.

# КАРТОЧКА

**на привлеченного к уголовной ответственности военнослужащего.**

1. Фамилия, имя и отчество ........................................
2. Возраст ........................................
3. Национальность ........................................
4. Часть войск (учреждение, заведение) .................... должность ....................

срочнослужащий, сверхсрочнослужащий, кадрового состава, переменного состава.

Категория ........................................

5. Партийность: $\frac{\text{член}}{\text{кандид.}}$ ВКП (б), $\frac{\text{член}}{\text{кандид.}}$ ВЛКСМ, беспартийный.

6. Образование общее: 1) неграмотн., 2) низшее, 3) среднее, 4) высшее
 " военное: 1) норм. школа 2) повторная школа, 3) академия.

7. Семейное положение (холост, женат), сколько человек на иждивении ....................
........................................

8. Подвергался ли дисциплинарным взысканиям и сколько раз ....................

9. Был ли осужден за преступления, какие, и меры социальной защиты ....................
........................................

10. Постоянное местожительство до поступления в армию: губерния ....................
уезд .................... город .................... село (деревня) ....................

11. Социальное положение до вступления в армию (рабочий, крестьянин, служащий, пр.).

12. Время совершения преступления (год, месяц) ....................

13. Совершено ли преступление единолично или в сообщничестве ....................

14. Дознание: а) когда начато .................... б) когда окончено ....................
 в) когда и куда направлено ....................
 г) в каком преступлении обвиняется ....................
 Подпись (командир части или начальник учреждения)

15. Дознание направлено военным следователем: а) в порядке .................... ст. УПК
 б) для судебного разбирательства в порядке .................... ст. УК
 и когда ....................
 в) для предварительного следствия ....................

Подпись (Военный Следователь Трибунала или Следователь общего суда).

16. Решение суда: .................... какого .................... когда. Дело прекращено
оправдан, осужден ....................

За что осужден (название преступления полностью и ст. ст. Уг. Код). ....................
........................................

Какая мера социальной защиты принята (окончательная) ....................
........................................

Подпись (Военный Прокурор)

# ИНСТРУКЦИЯ

## о порядке составления и заполнения карточки на привлеченного к уголовной ответственности военнослужащего.

### А. Указания общие.

1. Карточка имеет своим назначением:
   а) наблюдение за движением дел, возбужденных против военнослужащих,
   б) учет уголовных правонарушителей и правонарушений,
   в) служить материалом статистического обследования судимости военнослужащих, характеризуя моральное состояние РККА.

2. Карточка составляется воинской частью на каждого военнослужащего, привлеченного к уголовной ответственности, как по линии военных трибуналов, так и общих судов.

3. Карточка составляется на каждого военнослужащего, вне зависимости от количества привлеченных лиц, при чем если лицо по одному делу привлекается к ответственности за несколько преступлений, то о нем составляется одна карточка.

4. Карточка по заполнении ее в части сведениями в п. п 1-14 включительно немедленно пересылается военному следователю соответствующего военного трибунала (или следователю общего суда).

5. В случае направления дела военным следователем (следователем общего суда):
   а) в порядке .................................... ст. ст. УПК,
   б) для судебного разбирательства в порядке .................................... ст. Уг. Кодекса и
   в) для предварительного следствия, заполняется последним п. 15 карточки, и таковая приобщается к дознанию.

6) Военный прокурор, осуществляя контроль за движением дел о военнослужащих поднадзорных ему воинских частей, заносит в карточку по п п. 16 и 17 окончатечьный результат дела и затем направляетт ее через военного прокурора округа в Главное Управление РККА по Управлению устройства и службы войск (Бюро статистики) для соответствующей разработки.

7. Общими судами карточка, по окончании решения суда и заполнении п. п. 16 и 17, направляется военному прокурору, а последний уже направляет ее в Главное Управление РККА.

### Правила заполнения карточки.

Карточка должна быть заполнена четким, ясным почерком.

1-3 пункты пояснений не требуют.

В п.п. 4-м, 5-м, 6-м, 11-м, 13-м при ответах соответствующие слова подчеркиваются, в остальных—нужные сведения вписываются.

П. п. 1—14 включительно карточки заполняются в воинской части и скрепляются подписью командира части (или начальника учреждения).

П. 15 карточки заполняется военным следователем военного трибунала (следователем общего суда).

П. п. 16 и 17 карточки заполняются военным прокурором (общим судом, и скрепляются его подписью.

В остальном заполнение карточки особых пояснений не требует.

ЦАНА 40 кап.

# АБВЕСТКА

## ПРЫЙМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1928 г.

НА ЧАСОПІСЬ

# „Рэвалюцыйная законнасьць“

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:**

**М. Сэгаля, С. Гохмана, Я. Бутара, А. Варашылава, Н. Міхайлава, А. Судакова, Ф. Гаўзэ і Я. Кроля**

У часопісі прыймаюць удзел выдатныя навуковыя і практычныя працаўнікі БССР

**У СКЛАД СУПРАЦОЎНІКАЎ УВАХОДЗЯЦЬ:**

Банін К. В., Барышаў, І. Г., Бяргові (Мазыр), Бутар, Беля-
нец Б. М. (Ворша), Быхаўскі, Н. В. (Гомель), Варашылаў, А. Г.,
Праф. Вальфсон С. Я., Ватацы Б. Ф., Вайскабойнікаў М. Я., Валькенштэйн
(Гомель), Вішнеўскі А. І., Гохман С. М., Гаўзэ Ф. І., Праф. Грэдынгер,
Гарт М., Гарцман Д., Гінцбург У. Г., Гуткоўскі М. М., Гурэвіч Я. Г. (Го-
мель), Глезераў Б., Генкін Б., Гольбрайх, Гуло У. М. (Мазыр), Добрас Г. Ф.,
Дубровін Д. Я., (Магілеў), Жылінскі А. С., Зыбко І. В., Кіш Я. Я., Кроль
Я. М., Кудзельскі Р. С. (Віцебск), Карначоў А. М., Кацін Г. І., Кароткін І. І.
(Гомель), Кісельгоф З. А. (Бабруйск), Кіпарысаў А. М., Корт І. Я. (Ма-
гілеў), Курачкін Н. К., Канакоцін, Крэйнес С. Я., Казакевіч (Магілеў),
Карсак, Лійц І. Ф., Праф. Ленц, Ліндэ (Москва), Лаўрэнцеў С. В. (Баб-
руйск), Лэйланд (Полацк), Міхайлаў Н. Я., Малёнак М. П., Марэз М.,
Мінчонак А. Р. (Віцебск), Макуня Н. М., Міркулаў Я. С., Несьцер С. А.,
Нікольскі (Гомель), Парэчын Г. Я., Праф. Пічэта У. І., Пінкіс (Бабруйск),
Радзівон М. Я. (Ворша), Рахманін С. П., Рэзьнікаў С. М. (Гомель), Ро-
земблюм М., Сэгаль М. А., Судакоў А. С., Слонім, Сідлярэўскі А. Г.,
Савіцкі (Ворша), Слупскі С., Сарак Я. Л., Сокалаў (Смаленск), Сіліч Я. М.
(Віцебск), Тамашук Я. І. (Полацк), Угараў Н. Р., Уладаўскі М. Д. (Віцебск),
Уласаў, Фрыдман І. Н., Файнбург, Цыніт П. П. (Віцебск), Цэйтлін В. Я.,
Доктар Чарвакоў В. Т., Чарняўскі Г. А., Чарняўскі (Мазыр), Чысьцякоў З. І.,
Праф. Шыраеў, Штаер С. С., Шпакоў, Шэйндлін (Гомель), Шабунін (Ві-
цебск), Шапіра, Эднэрал С., Юдзін і інш. прац.

---

**ЧАСОПІСЬ „РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ЗАКОННАСЬЦЬ“**

## ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ

---

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

на год—4 р.; на 6 мес.—2 р. 10 к.; на 3 мес.—1 р. 10 к.

**АСОБНЫ НУМАР 40 КАП.**

Падпіску і грошы накіроўваць: Выдавецтва Народнага Камісарыяту Юстыцыі (Менск, вул. Карла Маркса, д. № 5)